

**Натальля АРСЕНЬНЕВА**
Выдатная беларуская паэтка ды
вядомая грамадзкая й палітычная дзеячка.


# БЕЛАРУСКІ СЬВЕТ
## BYELORUSSIAN WORLD
№ 21 (50) — 1989

# Закасі мае вёсны






Ой, мурожна і росна
Ля быстрай вады.
Закасі мае вёсны,
Касец малады.

Перапёлцы жалосна,
І чуюць лугі:
«Закасі мае вёсны,
Касец дарагі».

Перапёлцы жалосна,
І чуюць лугі:
«Закасі мае вёсны,
Касец дарагі»...

Я сцяблінкай гатова
Упасці ў пракос,
Каб ты сніў мае бровы
І полымя кос.

Ой, мурожна і росна
Ля быстрай вады.
Закасі мае вёсны,
Касец малады.

Перапёлцы жалосна,
І чуюць лугі:
«Закасі мае вёсны,
Касец дарагі».

Сл. А. ВЯЛЮГІНА
Муз. І. ЛУЧАНКА





*Ф Скарына. (З гравюры 1517 г.)*

# НАТАЛЬЛЯ АРСЕНЬНЕВА

**Пра Натальлю Арсеньневу пісалася шмат ад пачатку 20-х гадоў. Пісалі сябры свае ўспаміны аб ёй, пісалі літаратурныя крытыкі аб паэзіі й жыцьці Натальлі Арсеньневай, пісалі малодшыя, пісалі старэйшыя. Аднак найбольш цікавае, найбольш поўнае было тое, што паэтка пісала сама пра сябе. Гэтакіх успамінаўаўтабіяграфіяў зьявілася колькі: у 1942, 1952, 1960 ды ў 1969 гадох. Усе яны напісаныя проста, шчыра й інфарматыўна.**

**Вось-жа рэдакцыя «Беларускага Сьвету» вырашыла, што будзе найбольш рацыянальным даць слова самой паэтцы, расказаць пра сваё жыцьцё й творчасьць. Перадрукоўваем гэтта зь невялікімі скаротамі (са згодай Н. А.) ейныя ўспаміны надрукаваныя ў «Бацькаўшчыне» № 500, 1960 г. ды ў «Беларусе» № 143, 1969 г.**

Хоць я й нарадзілася ў месьце Баку, на Каўказе (20 верасьня 1903 г.), але месцам майго народжаньня лічыцца ўлюбёная Вільня, бо жыць сьведама я пачала ў Вільні, якую я й лічу сваёй бацькаўшчынай, якую люблю й па якой найбольш сумую. Было нас у сям'і чацьвёра дзяцей, тры сястры й адзін брат, усе — адзін пад адным. Маці ўзгадоўвала нас строга. Увесь наш дзень быў дакладна заняты. Вучыліся мы ў хаце. Вучыла нас сама маці, былая настаўніца, рыхтуючы адразу ў сярэднюю школу, і вучыла куды шырэй, чымся вымагала праграма навучаньня. Маючы дзесяць год, я вельмі добра, на адны пяцёркі, здала ўступныя экзамены й паступіла адразу ў другую клясу Віленскае Марыінскае гімназіі.

Але правучылася я тут адно два гады. Першая сусьветная вайна падыйшла пад самую Вільню, і места прымусова эвакуавалася. Нашая сям'я мусіла кідаць усё й падавацца на ўсход, у Расею. Як «бежанцы», мы трапілі ў далёкі Яраслаўль, што над Волгаю. Усё тут было нейкае йнакшае, чужое. Але мы прадаўжалі вучыцца ў ваднэй з тутэйшых жаноцкіх гімназіяў, і навука, праца ў гімназіяльным літаратурным гуртку неўзабаве захапілі нас. Аднак, скончыць школы і ў Яраслаўлі мне не давялося. Пачалася рэвалюцыя, разруха, голад... Супрацьбальшавіцкае паўстаньне, што выбухла ўлетку 1918 году, ледзь не каштавала нам жыцьця. Места напалову выгарэла. Пачаўся тэрор. І бацькі наважылі кідаць ізноў усё й брацца пакрысе, усімі магчымымі спосабамі, на Захад, у родную Вільню.

Дабіраліся мы туды этапамі больш году. Калі мы нарэшце дабраліся да Дзьвінскае станцыі, мы ўсе дзеці, зьляглі покатам на бруднай падлозе — захварэлі адразу ўсе чацьвера на «гішпанку», што шалела тады на сьвеце.

Як нас давезьлі бацькі да Вільні, ня памятаю, бо хварэлі мы доўга. А калі ачунялі, было нас ужо не чацьвёра, а ўсяго трое, бо мая сястра Галіна ад гэтае пракуднае гішпанкі памерла. За часоў нашага «бежанства», а трывала яно блізу 5 год, уся нашая невялікая віленская маёмасьць была парасьцяганая, у кватэры жылі чужыя людзі. Давялося маім бацьком пачынаць склейваць неяк жыцьцё ад пачатку. Цяжка гэта было. Ды з прыгнечаньня, а часта й з гаркое роспачы ратавала мяне ў тыя цяжкія гады Першая Віленская Беларуская Гімназія. Маці ўдалося ўладзіцца на працу ў амэрыканскую кухню, што дакармлівала тады галодную паваенную Эўропу, а ў тым ліку й нас, вучняў беларускае гімназіі, куды якраз прынялі мяне, сястру й брата.

Успамінаю я сяньня тыя гады й сьціскаецца сэрца. У глыбокай матэрыяльнай нястачы міналі дні. Не ставала блізу ўсяго. Ды ня было, на шчасьце, нястачы ў змагарох за долю Беларусі, у настаўніках, што самі, галодныя й халодныя, стараліся выхаваць нас, вучняў Першае Віленскае Беларускае Гімназіі, на людзей, што здабыўшы навуку, пераняліб іхную працу, выкавалі-б, нарэшце, лепшую долю бацькаўшчыне.

Людзі, што вучылі нас у Вільні ў 1919-м, 1920, 1921, 1922-м ды пасьлейшых гадох, навучылі на ўсё жыцьцё й мяне, і шмат каго з маіх аднагодкаў, горача палюбіць Беларусь, стацца ейнымі пільнымі служкамі назаўсёды.

У чэрвені 1921-га году ў маіх руках быў атэстат аб сканчэньні сярэдняе асьветы — «матура». А ў верасьні я пачала настаўнічаць у вадней зь беларускіх школаў, якіх было тады ў Вільні, здаецца, аж 7, ды паступіла вучыцца ў Віленскі ўнівэрсытэт. Пільна супрацоўнічала я ўвесь час і ў тагачасных беларускіх часапасах ды газэтах ... А яшчэ праз год я выйшла замуж і выехала зь Вільні.

Пачалося новае жыцьцё, новыя клопаты. І наступнаю восеняй, у невялікім пакойчыку на ўскраіне Слоніма, над спавітаю ў сьцюдзёныя туманы Шчараю, я сьпявала ўжо калыханку свайму першаму дзіцяці, чарнавокаму сынку Яраславу.

Неўзабаве зьявіўся й другі сын — Уладзімер. І я пазнала перажываньні, найглыбейшыя, на маю думку, і найшчасьлівейшыя — пачуцьці й перажываньні маці.

У 1939 годзе пачалася польска-нямецкая вайна. Вільню, падаючы нам «братнюю руку», занялі Саветы. Муж апынуўся недзе ў савецкім палоне. Я засталася сама з малымі сынамі. Шукаючы заработку, каб пракарміць і іх, і сябе, бо працы ў «летувіскай» ужо Вільні ня было, я падалася ў Вялейку, куды выехалі зь Вільні мае сваякі й слалі цяпер лісты, каб прыяжджаць да іх. Тут, у Вялейцы, 13-га красавіка 1940 году, на золку сьцюдзёнага, зусім не веснавога дня, мяне й забрала з хлопцамі НКВД...

Заладавалі ў набіты перапалоханымі жанчынамі й дзецьмі брудны таварны вагон і павезьлі ў далёкі Казахстан. Там, у глухім стэпавым калгасе, у нявымоўна цяжкіх абставінах, давялося нам пражыць шмат месяцаў...

Хутка пачалася новая вайна. Жахлівая й крывавая Другая сусьветная. Сапраўдным цудам удалося нам усім неяк дабрацца да Беларусі.

Пачаліся гады, якія ня кожнаму даводзіцца перажыць нат у нашыя несамавітыя часы — нямецкая акупацыя Беларусі, жорсткая й безаглядная. А 22-га чэрвеня 1943 году доля не ашчадзіла мне найвялікшага гора, якое толькі можа стацца ўдзелам маці: ад міны, што ўзарвалася ў Менскім гарадзкім тэатры, перапоўненым школьнай моладзяй, загінуў мой першародны сын.

Ня ведаю, ці ёсьць на сьвеце гайстрэйшы, глыбейшы боль, чымся хаваць сваё дзіця? Думаю, што няма. Бо мінула ад таго чэрвенскага дня ўжо блізу чвэрць стагодзьдзя, а боль гэты жыве ўва мне, недзе глыбака, і сяньня.

Мінуў яшчэ адзін год. Штораз часьцей, штораз гучней пачалі грымець на ўсходзе цяжкія гарматы. Уначы калаціліся вокны ... і калацілася ці ў ваднаго сэрца. Усё часьцей сыпаліся на Менск бомбы ... А напрыканцы чэрвеня 1944 году давялося мне пакінуць Менск, каб не пабачыць ужо, хіба, ніколі.

Паплыло жыцьцё на чужыне. Нямеччына, канец вайны, лягеры ДП, пераезд за акіян ... Усе мы скаштавалі ўсяго гэтага. І вось, пасьля колькіх дзесяткаў год, пражытых у Амэрыцы, пасьля новых udараў долі, новых сьмерцяў, новых сьлё-

заў, — я азіраюся сяньня назад. Іду напярэймы мінуламу. І дарма што ўсе крыўды, беды, магілы, я зьвяртаюся да свайго жыцьця бяз жалю, адно зь ціхаю просьбаю:

Жыцьцё, ня шмат ужо дарогі,
Штораз цямней, цішэй наўкола,
Дык дай мне роднага парогу
Даткнуць, пакуль замкнецца кола!

* * *

Пісаць вершы я пачала, маючы ўжо год чатырнаццаць. Вучылася я тады ў Кацярынінскай жаночай гімназіі ў Багдановічавым месьце Яраслаўлі. Памятаю, як сёньня, што я вельмі зайздросьціла маім сяброўкам, якія зьмяшчалі ў нашым вучнёўскім часапісе свае вершы. Ці раз, застаўшыся адна ў хаце, я марнавала гадзіны, сілячыся выліць на паперу хоць пару радкоў, — нічога неяк не ўдавалася. Аж раптам, зусім нечакана, удалося! Памятаю, што быў гэта верш пра неба й аблокі, якія так лена плылі ў той дзень над аблынамі саду, куды выходзілі вокны нашага пакою, ды што пачынаўся ён словамі «Па сініх нябёсах аблокі плывуць, бліскучыя, белыя горы . . .» Верш гэты быў, пэўна-ж, яшчэ мала да праўдзнага вершу падобны, але радасьці маёй і ганарлівасьці ня было межаў!

Пачалася рэвалюцыя 1917 году. Цяжкія, нясталыя ўмовы жыцьця, што зусім ня спрыялі паэзіі, перапынілі на нейкі час разьвіцьцё маіх паэтыцкіх здольнасьцяў.

Вершы пачала ізноў пісаць я ў Першай Віленскай Беларускай Гімназіі. Маім духовым настаўнікам стаўся блізу зь першых дзён навукі ў гімназзі, настаўнік беларускае мовы й літаратуры, аўтар «Руні» й «Патаёмнага» — Максім Гарэцкі. Памятаю, калі я пабачыла яго ўпяршыню на лекцыі ў нашай 7-ай клясе, мяне сямперш уразілі ягоныя вочы — вялікія, цёмныя, гарачыя, быццам два чорныя зьнічы (я гэтак і падумала тады — «зьнічы») на худаватым, асцэтычным, крыху татарскага складу твары. Іншых вачэй, падумала я, аўтар «Патаёмнага» мець і ня мог . . . Зразумела я тады таксама й тое, штоя мушу цяпер якнайхутчэй дасканала апанаваць беларускую мову й заўсёды, заўсёды, найляпей за ўсіх у клясе, ведаць задаваныя нам Гарэцкім лекцыі зь беларускае літаратуры.

І я дапяла свае мэты, як заўсёды ў жыцьці патрапіць дапяць яе кожны, хто запраўды шчыра нечага хоча. У восьмую клясу я перайшла з добрымі ацэнкамі й зь беларускае мовы й зь літаратуры.

Тымчасам, мінула лета 1920 году, трывожнае, поўнае надзеяў і зьменаў. Вільню занялі на колькі часу, а тады ў пасьпеху пакінулі, бальшавікі . . . Аднак, заняткі ў Беларускай гімназіі, якую я ўжо моцна пасьпела палюбіць, пачаліся ў сваім часе й я ўзноўкі сустрэлася зь сябрамі й настаўнікамі, між імі з Максімам Гарэцкім. На вялікі мой жаль, ён ня быў ужо выкладчыкам літаратуры ў нашай клясе. Ды сувязь мая зь ім дзеля гэтага не парвалася, а яшчэ памацнела.

Гэтага памятнага для мяне вечару, першым выйшаў на сцэну Гарэцкі. Памаўчаўшы, ён абвесьціў прысутным, што мае для іх добрую навіну. «У нас зьявілася новая Буйлянка», — сказаў ён — «новая паэтка, якая ўжо сяньня ці не перавышае Канстанцыю Буйлу сваім талентам. Вось паслухайце . . .» І Гарэцкі пачаў чытаць . . . дадзеныя яму нараніцы мае вершы. Было іх два: «Восень» і «Сьветлы дзень дагарае над сумнай зямлёю». Даю тут адзін зь іх, як «узор» маіх самых першых «твораў».

## ВОСЕНЬ

Хай жаўцее, сьціхае сад з кажнай гадзінай,
Сонца ласкі гарачыя ўсюды ня сее,
Хай гарыць, як заход, лісьць чырвонай асіны,
Хай апошнія кветкі у садзе бялеюць, —
Будзем чакаць вясны!

Хай паўзуць паласою калматыя хмары,
Хай цямнее рака, хай жыцьцё заміраe, —
Не агорнуць нас восені горкія мары,
Кажны з нас яшчэ сьветлае шчасьце пазнае, —
Будзем чакаці вясны!

Хай у душах надзея на долю канае,
Усё мінецца, бы ў летні дзянёк навальніца.
Прыйдзе час — сонца сіняй вышою зазьзяе,
Закрасуець зялёнаю руньню зямліца...
Будзем чакаці вясны!

Калі я пісала гэтыя вершы, мне было 17 год. Тады, хіба, і пачалася мая літаратурная «кар'ера». Месяцаў шэсьць пасьлей, мае вершы, якія и пякла ў тыя гады, як бліны, пачалі друкавацца ў беларускіх часапісах і газэтах, а праз колькі год, у 1927 годзе, у Вільні выйшаў друкам першы мой зборнік «Пад сінім небам».

Зборнік гэты, хай і вельмі шчыры, але гэткі яшчэ недасканалы, быў адылі прыхільна сустрэты беларускаю крытыкай. Літаратуравед А. Навіна (Антон Луцкевіч) і іншыя вельмі нават хвалілі яго. Перагортваючы бачынкі «Пад сінім небам» сяньня, я выразна магу прасачыць па вершах зборніку шлях майго паэтычнага разьвіцьця, узбагачаньня мовы. Якая розьніца, прыкладам, паміж некаторымі зусім яшчэ школьнымі вершамі, напісанымі ў 1920 годзе, але датаванымі 1921 годам (калі яны былі ўпяршыню надрукаваныя), і вершамі, датаванымі, скажам, 1925 годам! Ды што-ж зробіш? Якім-бы мой першы зборнік ні быў, і сама кніжка і ейны аўтар маюць адно выбачэньне — сваю тагачасную зялёную маладосьць!

Але вернемся да Першае Віленскае Беларускае Гімназіі, да М. Гарэцкага й іншага яшчэ чалавека, які меў таксама ці малы ўплыў на разьвіцьцё мае творчасьці — да настаўніка беларускае літаратуры ў нашай 8-ай клясе Антона Луцкевіча.

М. Гарэцкі быў вельмі суровым, маламоўным настаўнікам і крытыкам. Ён блізу ніколі не правіў слабейшых месцаў маіх вершаў, бо здараліся-ж і такія, а проста аддаваў іх мне, зацеміўшы: «гэтак пабеларуску не гаворыцца» або «гэтае месца раджу перапрацаваць» ці штось іншае. Неўзабаве я навучылася разумець яго ня толькі з паўслова, але гледзячы адно на ягоныя шырокія, цёмныя бровы, якія то насупліваліся, то ўзьнімаліся ўгару, залежна ад уражаньня. Рух гэтых броваў, нячастая ўсьмешка на вузкіх вуснах, — былі тым стымулам, што вёў мяне наперад, прымушаў упарта працаваць над сабою, над моваю...

Максім Гарэцкі ніколі не хваліў мяне, хіба за вочы, што-б я не напісала. Але ганіў часта. За русыцызмы ў мове, за памылкі ў правапісе. Аглядаючыся назад, я думаю, што гэны мэтад узгадаваньня паэткі Натальлі Арсеньневай быў ня зусім правільны. Хай я й заслугоўвала суровае крытыкі, ня можна нікога адно ганіць,

не падбадзёрваючы час-ад-часу хай сабе маленькаю пахвалой. Я, прыкладам, адчувала вынікі гэнага мэтаду на сабе ўсё пасьлейшае жыцьцё, адчуваю нават і цяпер, бо «строгасьць» Гарэцкага ўзгадавала ў мяне сумлеў, няверу ў свае сілы, у сваю вартасьць. Што-б я ня пісала напрацягу сарака год мае творчасьці, мне заўсёды здавалася й здаецца, што, хай іншыя й хваляць, гэта няшчырасьць зь іхнага боку й вершы нічога нявартыя. І я вельмі перажывала свае, найчасьцей уяўныя, няўдачы.

Але гэткі ўжо быў Гарэцкі ў дачыненьні й да іншых і да сябе — суровы, справядлівы й вельмі паважны. Прынамся, гэткім ён заўсёды быў у гімназіі. Пазнацьжа ягоную запраўдную істоту, тое, што ён адчуваў і думаў, я ніколі ня мела нагоды. За вялікая розьніца дзяліла мяне, нясьмелую 17-цёхгадовую дзяўчыну-вучаніцу ад кляснага настаўніка й прызнанага беларускага пісьменьніка Максіма Гарэцкага. Як шкада, што пасьлей, падросшы, я ўжо ня сустрэла яго на сваім шляху!

Два гады навукі ў гімназіі прамінулі вельмі хутка. Дарма што гэта былі найцяжэйшыя ў матэрыяльным дачыненьні гады майго жыцьця й што вельмі часта на працягу гэтых гадоў даводзілася мне класьціся спаць без вячэры ці выходзіць у гімназію непасьнедаўшы, — я заўсёды ўспамінаю іх зь нейкай асаблівай любасьцяй і ўсхваляваньнем. Мо таму, што тут якраз я сталася паэткаю, а прынамся, зрабіла пачын . . .

* * *

## МІЖ БЕРАГАМІ

Няцямным немаўлём я пяты памачыла
упяршыню ў кіпень ракі майго жыцьця.
І вось — другі ўжо бераг шэры няўпрыцям
расьце перад вачмі. . .
Ён — прыйме на спачынак.

А я-б — яшчэ плыла,
няхай між берагамі
каменьне, і віры, і дна глыбінны жвір. . .
Ці раз параненая імі да крыві
не паддалася ўсё-ж, ня пала я ў змаганьні.

Рака, рака жыцьця!
У градаў гнеўнай пене,
у зернятах пяску на плёсах залатых,
бурлі-ж павек між берагамі ты,
і ў грудзі — ўжо ня мне —
а зьмене бі па зьмене!

## НА СЕНАЖАЦІ

Косы зьвіняць. . . Сьпеўна ўзносяцца зыкі,
поўняць жыцьцём жаўтацьвет-сенажаць,

майстры дзіўныя зь нязнаных музыкаў,
косы зьвіняць. . .
Кмену пах цягне па мокрых пракосах,
водарыць сенам у пухкіх капах,
дыхае поле у сонцавых косах,
кмену йдзе пах. . .
Песьню жанкі запяялі нясьмела,
і — зазьвінела уся сенажаць,
з гукамі — ў далеч, здаецца-б, ляцела. . .
Косы зьвіняць. . .

## МЕСЯЧНАЙ НОЧАЙ

Ноч срэбным пальцам ціха водзіць
па стромкіх пнёх гатыцкіх вежаў
і топіць фрэскі ў белым лёдзе,
і вокны бляскам белым рэжа. . .

Стаю ў туманным срэбры ночы. . .
за мною горад празаічны,
няспынны горад плюшчыць вочы —
кругі ліхтарняў электрычных,
цяжарам кол зялезных крышыць
сьлізкі асфальт, дзікія брукі,
і сьніць аб месяцы і цішы
пад хрыплы хор мястовых гукаў. . .
Галосіць радыё ў кавярні,
нястройна енчаць кляксафоны,
клубіцца змрок густы і парны,
мігціць рэклямаў пыл чырвоны,
у няжывым нэонным блеску
плывуць сыльвэткі самаходаў,
у змрочных вулак пералесках
шукаюць дробнае прыгоды. . .

А ноч. . . Ноч срэбным пальцам водзіць
па стромкіх пнёх гатыцкіх вежаў,
ноч топіць фрэскі ў белым лёдзе,
вітражы бляскам белым рэжа.
Ноч цягне месячныя зьзяньні,
сплятае ў мост хісткі, узьлётны,
каб ім завесьці ў неба сяньня
натхненна выцягнены готык. . .

## АХРЫСЬЦІЎ МЯНЕ НЕХТА Ў ЗЯЛЁНАЙ ДУБРОВЕ

Не ў царкоўцы малітвай, сьвятою вадой, —
ахрысьціў мяне нехта ў зялёнай дуброве.
Як паганін,
я пушчы пяю залатой,
разумею палёў васільковых размовы.
Да мяне
ня зь імглой, ня з мутой ручаін
надыходзіць вясна, і ня сьнегам шчарнелым, —
мне сьмяецца яна жоўтым пухам вярбін,
срэбным звонам жаўронка ў палёх зарунелых.
Не сьпякотаю й лета мне дыхае ў твар,
не вятрамі красу абівае з чарэсьняў, —
каласістая ніва —
адвечны пясьняр —
залатыя, гарачыя сьпеліць мне песьні.
Восень зноў —
не залой, не сьцюдзёным даждждом,
ня тугою цягучай душу маю раніць, —
мне яна павучыньне пляце над мяжой,
сном ціхім на сівое кладзецца аўсяньне.
І зіма —
не марозамі страшыць мяне,
не сьляпою мяцеліцай засьціць мне вочы, —
над сьнягамі, на сінім нябёс палатне
распаляе яна серабраныя ночы...
І заўсёды,
заўсёды паганскай жудой
маё сэрца сьціскаецца ночай зімовай.

Не ў царкоўцы малітвай, сьвятою вадой, —
ахрысьціў мяне нехта ў зялёнай дуброве.

## ЗАМІЖ МЯНЕ

Я —
ня жыву вясной...
Рунеюць сенажаці,
курэе сіні дым над кратамі палёў,
і за мяне
цьвіце над шэрай пасмай гаці
празрысты, белы пух вярбін і тапалёў.
Я —
й летам ня жыву,
бо за мяне сінеюць
у полі васількі й хінуцца каласы,
і жаляцца-пяюць на жоўтых пожнях жнеі,

маёй
зыркой тугой дрыжаць іх галасы.
А ўвосені узноў —
заміж мяне асіны
чырвоны гасяць жар у рэдкім тумане,
і плача дробны дождж так нудна,
нясупынна,
па сонцы і вясьне,
але,
заміж мяне.

## ПАЛЕГЛЫМ

Дзень згас цьмяным агнём прыкручанай газьніцы...
Асеньні раньні змрок паўзе, кладзецца ніцма
на бурае лісьцё, на мох руды...
Глядзі —
бляшанай конаўкай, прыпаўшы да крыніцы,
сьцюдзёную ваду п'е прагна маладзік.
Іду паволі ў змрок насустрач першым зорам...
Над пусткаю палёў атрад варонаў чорных
узьняўся, завірыў...
Цяпер ім слаўна жыць!
Яшчэ часіна — й ноч у сетку цемры згорне
мяне, і іх, і хвой зламаныя крыжы...
А ўсюды —
тут і там — ня хвояў верхавіны,
ня спаленыя пні — ваенным днём даніны —
запраўдныя крыжы растуць уздоўж дарог.
Пад крыжам, бяз крыжа, падцятаю галінай
на жорсткі, гойстры жвір спаць ці адзін прылёг...
Зьмяшалася зь пяском чупрына маладая,
боль выпіў сінь вачэй і сьвежых вуснаў кроў.
Васковай сьвечкаю над імі восень тае,
і сьніць
адзін пра Рэйн, а іншы — пра Дняпро.
Ня рупіць іх нішто... Жахлівыя змаганьні,
магутны чар вайны, крывавыя сьвітаньні,
больш не хвалююць іх...
Яны прайшлі свой шлях.
Але, йдучы на бой паўз лянішчы, аўсяньні,
палеглых успамін нясуць сябры,
як сьцяг.
Усьцяж растуць крыжы пры ўзбураных дарогах.
За працу для сярпоў, за працу для нарогаў,
за шчасьце й супакой няспынны бой ідзе.

Пахучай сьвечкай з воску залатога
канае
над палеглымі
асеньні дзень...

1941

## СТАЛЁВЫ ЗЬВЯЗ

Ня дось крычэць аб Беларусі
і захлынацца ўласнай сьлінай,
ня досыць верш слабы згарусьціць
і прысьвяціць яго краіне.
Ня той,
хто трубіць аб пачуцьцях
па цемнакуцьцях —
патрыёта.
Бяз чыну —
слова не скалмуціць
нат твані лужыны балотнай.
А што казаць,
яшчэ вось сяньня,
аб акіяне людзкіх душаў?
Іх,
хоць кругіч сабе да раньня,
сьпяваньнем жабім не ўзварушыш.
Ня словаў трэба,
а хаценьняў,
і сіл асілкавых, і згоды,
і гарту ўпартага,
каб сьцені
на шлях ня палі перашкодай.
Нат больш...
Каб справы не скалечыць,
каб не праспаць узноў сьвітаньня,
высілкаў трэ нечалавечых,
і процьмы цёплага каханьня.
Тады...
Тады мы зьвяз сталёвы
з блакітнай Бацькаўшчыны зьвяжам,
і раз нарэшце моцным словам
ня нам,
а мы штось сьвету скажам!

1942

## ГОДЗЕ!

Ціха клёны лісьцё наземяць,
паражыўшы сваё
на сьвеце...
Ці-ж, як мы тут, журбой асеньняй
будуць песьціцца й нашы дзеці?
Дзіўна-ж сум нам уеўся ў косьці,
неяк самі хінуцца сьпіны,
хай бадзёрымся часам: "досыць"!
Пятушымся: "Нас не запыняць!"
А паціху — і той закіне,
ну, і гэты ў радкі уцісьне:
"Край наш ніцы, дзяды, дзяды мы,
не дае лёс нам шчасьця высьніць!
Век нам муляе карак зрэб'е,
мы ў лапцёх пагнаілі ногі,
на застольлях у нас —
бясхлеб'е,
пазьбівала бяда парогі..."
Годзе!
Годзе нарэшце,
годзе
чарвякамі зьвівацца, поўзаць!
Хоць нас доля й дагэтуль зводзіць,
хоцьісьці нам парой і коўзка, —
насьмяёмся яшчэ і зь ліха!
Досыць падаць прад кожным ніцма!
Лепш на момант
агнём успыхнуць,
чымся літасьцяй век давіцца!
Што далі нам калі чужыя?
Ці калі, хто — наш плач усьцішыў?
Досьць!
Напружым пастронкі жылаў,
самі злыбяды нашы скрышым!
Ціха клёны лісьцё наземяць,
паражыўшы сваё на сьвеце.
Не,
ня будуць журбой асеньняй
так, як мы тут, смуціцца дзеці!

## ВАРТА ЖЫЦЬ!

**Пазьмятала даўно кволай жоўтай далоняй**
**восень пену лістоўя з пажоўклых сьцяжын.**
**Адцьвілі верасы,**

ад'ірдзеліся клёны,
але-ж трэба і сяньня
змагацца і жыць!
Кожны з нас яшчэ-ж верыць у нешта сьвятое:
хто ў Хрыста,
хто у Край,
а хто — проста ў сябе,
і пад вейкамі смагі жыцьцёвай ня ўтоім
мы,
як нізка ні гнула-б нам гора хрыбет.
Варта жыць!
Варта вечна чагось спадзявацца,
чуцца часткай айчыны, малой, а жывой,
песьціць сьцерплыя пальцы адвечнаю працай,
разьвіваць слоў і чынаў бясконцы сувой,
і тварыць. . .
Заўтра-ж зь неба зарою крамянай
не зьляціць,
і ня выцьвіце зь нетраў зямлі.
Наша заўтра народзіцца з нашага сяньня,
з усяго, што нас цешыць,
і што нам баліць.
Калі-ж мо й давядзецца няўсьцішныя сэрцы
йшчэ ці раз нам снапоўем злажыць на таку —
не бяда!
Ужо нікому наш сьлед не зацерці
на гасьцінцах зямных,
нашай сілы — ня скуць!
Хай цьвітуць верасы,
хай мядзяняцца клёны,
хай мяцеляцца зімы над беляй сьцяжын.
Нашу долю мы ймклівей за ветры здагонім,
а для гэтага варта
змагацца
і жыць!

1943

## «А К Ц Ы Я»

Гарэлі ў тыя дні ня толькі што кляны —
скявярлося на вагні усё, на што ёсьць слова.
І ранаў з гэных дзён нялюдзкіх і дзіўных
ніякаю замовай не замовіш. . .
Ськівдалі ў сутаргах з намоклага гальля
апошнія лісты прысады ў золь і мокрадзь. . .
Як прыгаршчы лісьця, іх кінулі на пляц,

і латы жоўтыя пайшлі лістамі ў скокі...
Выў вецер...
Але й ім казалі засьпяваць,
і за часіну ўсе і пляскалі й сьпявалі:
прысеўшы на бруку, брахаў у самы твар
ім кулямёт загады сталяй.
Каб дагадзіць яму —
чырвоным языком
пачаў лізаць агонь бажніцу...
аж у неба
шугнулі з дымам Торы, талесы ускок, рыўком,
маўляў скакаць пайшлі у тахт із рэбэ.
А рэбэ, што-ж, сьпяваў...
рыпелі, як жарства
пад пятамі скакух, і ўсё...
і толькі Ёсель,
хоць маці тузала яго: «Сьпявай», —
біў пустку пясткамі, заходзіўся і тросься.
Біў пясткамі й тады, калі апёк агнём
бізун дзіцячы твар,
калі асела маці
на брук снапом аўсяным,
калі ён
папоўз, маўляў шчанё, ў прпол яе схавацца,
калі пайшлі зьдзіраць зь дзявочых шый і рук
каралі гордыя і ўпартыя пярсьцёнкі,
калі, як з крапяжа, паплыў з крывёй на брук
чыйсь енк прарэзьлівы і тонкі,
калі усьцешны шум зьмяшаўся у вушшу
зь пякучай роспачай,
апаў на сэрцы жудзяй...
Ён плакаў...
а вакол, здавалася, душу
ў вапошняй песьні высьпяваюць людзі...
Так прычакалі змрок...
Папоўз асеньні дзень
за восеці...
Тады — усім далі лапаты,
і зашуршэў, заплёхаў па вадзе
пясок важкі і макраваты.

. . . . . . . . . . . . . . .

Гадзіны дзьве брахаў у золкасьць кулямёт,
аж заліла яму ноч ляпу чорным лякам,
Спыніла лёт лісьцё, сплыло на целаў сплёт,
і навет Ёсель сьціх... ужо ня плакаў...
І спад павек яго, хоць ён ня знаў Хрыста,
глядзеў Хрыстос з тугой нянаскаю, дзівоснай

**на тых, каму зь пяску крывавага ня ўстаць,**
**на катаў у крыві...**
**слату...**
**і восень...**

## МАГНОЛІЯ

Цьвіце магнолія...
мільлёны матылёў,
бялейшыя за сьнег, трапечуць на галінах.
Замерла ў пешчах белых крыл гальлё,
салодкай млоснасьці на брук ня ськіве.
Ён чорны і брыдкі, як побач, зрэшты, ўсё,
ды б'юць, бы ў бубна дно, ў яго людзкія ногі
па годзе год...
Аплёў, аблытаў, як драсён,
той гуд ня толькі брук, але й хаценьні, змогу.
А ўсёткі, за сьнягі бялейшая, усьцяж,
ледзь красавік,
цьвіце магнолія пад мурам.
Зялезнай лёгікі адвечнага жыцьця
нішто, відаць, што людзкае — ня збурыць.
Ну, а па мне — усё, як ёсьць, і мае быць.
Маленства... вёсны... восені... магільнік...
Сяўба бяз жніваў... Жнівы без сяўбы...
Узвышшы ўсьцешныя... Туга, якой ня выліць —
Я дзякую табе за ўсіх,
за ўсё, мой кон,
хоць мо й нязвыклы ты ціхой людзкой падзякі.
Пайду... ды ведай —
рэшту сініх дзён
маіх дап'ю я ўсё-ж із смакам!

## І БЫЛА ТАМ ВЯСНА...

але вочы іх былі стрыманы,
дык не пазналі Яго.
Паводле Лукі сьв. Еван.

І была там вясна,
як наша,
хай ня лозы цьвілі, а міндаль:
распалялі зялёныя пашы
весьніх красак пурпурны вугаль,
па далінах бляялі ягняты,
маткам тулячыся да ног,

і буйных белых зор зярняты
рассыпалі лялеі ў лагох...
Срэбна-шэра
курэў гарэшнік,
шнур алівак і вінных лоз...
А вясьне напярэймы, сьцежкай,
ціха йшоў
Уваскрослы Хрыстос.
Сам —
нясьцерпнае зьзяньне —
у зьзяньні,
сьмерцяй сьмерць растаптаўшы ушчэнт,
Ён ішоў, і нязгойныя раны
на чале ірдзянелі яшчэ...
У дзіўным, у сьвятым захапленьні
Богу-Сыну малілася ўсё —
агарож прыдарожных каменьні,
маладых ячмянёў каласьсё,
цёплы вецер, што згортваў з дарогі
вір пялёсткаў... і сонечны пыл...
і трава, што прабітыя ногі
цалавала, сьхіліўшы сьцяблы...
А пасьлей —
пацягнуўся шляхамі,
ў скрыпе рогату, крыкаў, калёс
і народ...
Толькі хто зь іх, няўцямных,
знаў, што побач —
Ускрослы Хрыстос?
Праплывалі,
сьляпыя,
міма
Боскіх цёплых, пясьцівых рук
юнакі з залатымі вачыма,
сьцені старцаў, сагнутых укрук,
ды ніхто ня сьхінуў каленаў,
да далоняў сьвятых ня прынік,
хай прад сьцерплай ад сьлёз Магдаленай
на імгненьне і ўзьнік Садаўнік.
І ніхто не азваўся:
"Равуні",
сам ня верачы ў шчасьці вачам,
змарагдовых пальмовых галінаў
наламаўшы,
ня выбег страчаць...
Падцікаўся нячутна вечар,
сіні змрок...

І ня бачыў ніхто
зь недарэчных сыноў чалавечых,
як мінаў іх,
раз сто,
Хрыстос,
як ішоў Ён, сьхіліўшы на грудзі,
сьветлы твар Свой,
паўзь весьняй хвалы. . .
Гора,
гора,
о гора Вам, людзі,
бо і сяньня
сьляпыя вы!

## ТВАЁ ІМЯ

Маці родная, маці краіна,
Ня усьцішыцца гэтакі боль.
М. Багдановіч

О, Беларусь,
о, Беларусь мая!
Імя Тваё — такі пякучы сымбаль болю!
Ды шчыра ўсьцяж яго
багаслаўляю я:
ізь ім я —
чалавек,
у долю і ў нядолю.
Пранізанае ім, маё жыцьцё брыдзе,
маўляў мяжой ціхой,
ярамі вуліц змрочных,
і не баліць мне, што вітае дзень
мяне чужою мовай,
а чужымі снамі — ночы. . .
Дзіўны ён, гэты боль,
і дзіўна лёгка зь ім:
прысыпаўшы пяском друз прагі і завісьці,
ён
раньнямі мяне ды мескай мітусьні
няспынную кіпень
мяккой лагодай хрысьціць.
Ён зьмеркамі зь мяне пясьціва ўмее зьняць
важкую стому, кроў
зайскрыць узноў да працы,
зьняверу, там, на дне,
даўкія крыўды дня

парвацъ,
каб ім і мне як разам ня зыйграцца.
І сны —
мне явай скрозь,
а сяньня явы — сон,
ссыпаецца з душы лушпіньне людзкай
зьвягі. . .
Імкліваю Вяльлёй пяе сівы Гудзон,
мурамі Вільні таюць небасягі. . .
І ўскласьці я хачу на струны,
як Баян,
шнур пальцаў — лебядзёў,
і граць,
і граць з жадою,
О, Беларусь,
о, Беларусь мая,
паўз боль пякучы граць
Табе,
Табою!

---

Вітаўт ТУМАШ (ЗША)

## ФРАНЬЦІШАК СКАРЫНА З ПОЛАЦКУ

Францішак [1]) Скарына быў сынам полацкага купца Лукаша Скарыны. У Полацку, месьце з асабліва багатымі старавечнымі беларускімі традыцыямі, праходзіла дзяцінства Франьцішка. У Полацку склаліся й асновы ягонага народна-дэмакратычнага сьветагляду, які пасьля так яскрава выявіўся ў ягонай літаратурна-выдавецкай дзейнасьці для свайго народу — "к пожитку посполитого доброго . . . наболей с тое причины иже мя милостивый Бог с того языка на свет пустил" — пісаў Скарына ў прадмове да першай надрукаванай ім кнігі, да Псалтыра.

Напэўна яшчэ ў Полацку, у манахаў-бэрнардынцаў, якія ў 1498 годзе заснавалі там свой манастыр і збудавалі царкву, Скарына здабываў і асновы веды лацінскай мовы, канечнай тады каб паступіць на ўнівэрсытэт. Дзякуючы гэтаму, у 1504 годзе ён мог запісацца на факультэт "сямі навук вызваленых" Кракаўскага ўнівэрсытэту [2]). Пасьля праслуханьня трох першых "навук", trivium, — граматыкі, лёгікі й рыторыкі, — 13 сьнежня 1506 году Скарына здабывае першую ступень унівэрсытэцкай адукацыі, бакаляўрэат [3]). Найбаржджэй у тым-жа Кракаве Скарына вывучаў і чатыры чародныя навукі, quadrivium, — арытмэ-

тыку, геамэтрыю, астраномію ды музыку, і завяршыў сваю адукацыю здабываючы ступень artium doctor.

Увосень 1512 году знаходзім Францішка Скарыну ў Італіі, у Падуі. Пасьля пробнага экзаміну на Падуанскім унівэрсытэце, 9 лістапада Скарына прыступае да экзаміну "строгага", каб здабыць ступень доктара "лекарскіх навук". Экзамін гэты адбываецца перад калегіяй 24 прафэсароў, пры старшынстве духоўнага апякуна ўнівэрсытэту, кардынала Сыкста дэ Ровэра, у прысутнасьці біскупа Паўлы Забарэльлі, віцэрэктара Францішка Фульманэльлі й прыёра факультэту Тодара Мусатты [4]). Прафэсары Калегіі, ураханыя шырынёй веды, красамоўнасьцяй і дастойным захаваньнем юнака, аднагалосна прызналі яго годным навуковае ступені "у лекарскіх навуках доктара" — medicine doctor.

Дзе, на якім унівэрсытэце, перад прыездам на экзаміны ў Падую, Скарына студыяваў "лекарскія навукі", няма ведама. У адным з падуанскіх запісаў ён названы "сакратар караля Дацыі" [5]). З гэтага можна было-б меркаваць, што перад прыездам у Падую ён быў у Даніі, і магчыма там, на ўнівэрсытэце ў Капэнгагене, вучыўся мэдыцыны.

Ня маем ніякіх вестак і пра тое, дзе Скарына знаходзіўся пасьля Падуі, у гадох 1513-1516. У годзе-ж 1517, 6 жніўня, у чэскай Празе выходзіць з друку першая, надрукаваная ім, кніга, Псалтыр. Гэты Псалтыр, хоць і выдадзены мовай царкоўнаславянскай, але з шматлікімі беларускімі моўнымі асаблівасьцямі. Мае ён вельмі цікавую прадмову Скарыны ды, "на боцех", ягоныя паясьненьні цяжкіх да зразуменьня словаў. Як відаць з прадмовы, Псалтыр Скарына выдаваў не для ўжытку царкоўнага, не для сьвятарства, і не для шляхты, але "людзям паспалітым" — для народу. Меў ён служыць і "детем малым", як пачатак "всякое доброе науки".

Пасьля Псалтыра, у той-жа Празе, у гадох 1517-1519 Скарына выдае 22 іншыя біблійныя кнігі. Пасьля Бібліі чэскай, была гэта д р у г а я, надрукаваная ў славянскай мове, Біблія. У выдавецкай справе Скарыну ў Празе грашова ўспамагаў райца места Вільні, купец-фінансіер, Багдан Онкаў. У тагачасных юрыдычных дакумантах называецца ён і Анкевічам. На загаловачных бачынах некаторых кнігаў праскай Скарынавай Бібліі пароблены рукой такія прыпіскі: "А то ся стало накладом Богдана, Онкава сына, радцы места Виленского".

Пасьля надрукаваньня 23 біблійных кнігаў (апошняя зь іх, Кніга Судзьдзяў, датаваная 15 сьнежнем 1519 году), энэргічна ведзенае праскае Скарынавае выдавецтва спыняецца, найскарэй дзеля фінансавых нястачаў. У 1520 годзе, відавочна, Скарына пераяжджае ў сталіцу Вялікага княства Літоўскага, у Вільню, і тут, у доме "найстаршага бурмістра" "великославного места Виленского", Якуба Бабіча, засноўвае сваю другую друкарню —

першую друкарню на тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага ды й на ўсім прасторы ўсходняй Эўропы.

Сталічнае места Вялікага Княства, Вільня, у часы Франьцішка Скарыны лікам жыхарства ў дзьвюх трэйціх была беларускім праваслаўным местам. Пра гэта сьветчыць тое, што ў ім было тады 14 праваслаўных цэркваў і 8 каталіцкіх касьцёлаў, два зь якіх служылі нямецкай гандлёва-рамесьніцкай калёніі [6]). Дык, пераносячы з Прагі ў Вільню друкарска-выдавецкую дзейнасьць Скарына зьбліжаў яе да тых суродзічаў, якім свае выданьні прысьвячаў — людзям паспалітым "таго языка иже мя милостивы Бог на свет пустил".

Праца ў віленскай друкарні хіба пачалася ўжо ў 1521 годзе, бо восеняй 1522 году зь яе выходзіць "Падарожная кніжка". Па ёй можна бачыць, што для віленскай друкарні Скарына запраектаваў і адліў новы шрыфт, драбнейшы за шрыфт праскі. Хоць "Падарожная кніжка" фарматам невялікая, але лікам балонак і не "малая", бо мае 435 балонак (870 бачынаў). Адзначыць трэба, што Скарына ў сваіх выданьнях, праскіх і віленскіх, нумараваў кірылічнымі літарнымі цыфрамі балонкі, не бачыны. Дык у ягоных выданьнях няма "пагінацыі", а толькі "фаліяцыя". Некаторыя малыя часткі "Падарожнай" і зусім не нумараваныя.

Час выхаду "Падарожнай кніжкі", 1522 год, удалося ўстанавіць ня гэтак даўно, калі ў Каралеўскай бібліятэцы ў Капэнгагене быў выяўлены экзэмпляр "Падарожнай кніжкі" унікальны тым, што ў ім захаваўся каляндар з камплетнай "Паскаліяй". Паведамленьне пра гэта ў беларускім друку даў у 1971 годзе а. А. Надсон [7]).

"Падарожная кніжка" — выданьне складзенае, а ў паасобных частках і напісанае самым др. Скарынам. Сваім зьместам яна нагадвае частыя тады на Захадзе "падарожныя кніжкі" — liber viaticus. Стуль Скарына пераняў і назоў для свайго выданьня — "Падарожная кніжка". Зьместам "Падарожная" зьбліжалася й да папулярных тады на землях Беларусі кніг Псалтыра з "последованием". Апрача Псалтыра ды малітваў і сьпеваў патрэбных праваслаўнаму падарожнаму, у кнізе Скарына даў і каляндарныя ды астранамічныя інфармацыі пра даўжыню дня й ночы ў паасобныя дні году, а таксама пра зацьменьні сонца ды "мосяцаву гібель" у тыя гады, якія ахопліваў ягоны каляндар.

У двух акафістах "Падарожнай" — "Яну Хрысьціцелю" й "Імені Ісуса Хрыста" — ініцыяльныя літары іх сьпеваў твораць акравершы (акрастыхі), у якіх імя, прозьвішча й навуковая ступень доктара Ф. Скарыны. Акафісты — яскравыя прыклады творчай працы Скарыны ў галіне рэлігійнай гімнаграфіі [8]). Пры канцы "Падарожнай" надрукаваны каляндар з падзённым пералікам праваслаўных сьвятаў і сьвятых. Сваім укладам "Падарожная" сьветчаньне таго, якія патрэбы ў дарозе адчувалі полацкія купцы ды й сам Ф. Скарына, таксама часты падарожнік.

У сакавіку 1525 году ў Вільні выходзіць з друку Апостал, кніга фарматам крыху большая за "Падарожную", у васьміцу /8°/. Балонак у ёй 352 (704 бачыны). Гэта другое й апошняе віленскае выданьне Ф. Скарыны. На зьмест Апостала складаюцца "Апостальскія дзеі", пасланьні апосталаў ды "Соборник". І Апостал выданы выяўна не для царкоўнага ўжытку, але для карыстаньня "людзям паспалітым", для народу.

У часе дакладней неазначаным, але хіба не раней выхаду Апостала, доктар Скарына адбыў падарожжа ў Маскву, выяўна з мэтай пашырыць і там свае выданьні. Падарожжа гэтае закончылася катастрофай. У Маскве прывезеныя кнігі былі аб'яўленыя "гарэтычнымі" й на загад маскоўскага цара Васіля Іванавіча сканфіскаваныя ды публічна спаленыя [9]).

Сёньня маем паказаньні й на тое, што каля 1520 году транспарт кніг Ф. Скарыны, пры перавозе з Прагі ў Вільню, быў сканфіскаваны ў Вроцлаве. Паказвае на гэта факт, што аркушы некаторых праскіх выданьняў, ды ў большым ліку балонак той самай кнігі, мела вроцлаўская (брэсьляўская) пракуратура й пры сшываньні актавых кнігаў пракуратуры інтралігатар высьцілаў імі вокладкі гэтых кнігаў [10]). Да вроцлаўскай канфіскаты дайшло хіба таму, што ў 1520 годзе якраз папа Лявон X выдаў бульлю Exurge Domine, у якой загадваў забіраць ды нішчыць кнігі ў якіх прапагаваліся "гарэтычныя" пагляды Марціна Лютэра. Кнігі Ф. Скарыны маглі выглядаць на падазроныя, бо ў іх ня было ніякіх апрабат якіхколечы царкоўных аўтарытэтаў. Канфіската Скарынавых кнігаў у Вроцлаве (Брэсляве), а пазьней паленьне іх у Маскве, — важныя прычыны невялікага захаванага іх да сёньня ліку.

Вясною 1530 году доктар Скарына едзе зь Вільні ў Каралевец ды знаходзіцца там на двары пратэстанцкага гэрцага Прусіі Альбрэхта [11]). Ды хутка ён пакідае Каралевец і вяртаецца ў Вільню.

У 1532 годзе, калі доктар Скарына быў у Вільні лекарам і сакратаром віленскага біскупа Яна ды ў ягоных справах паехаў у Познань, там, за даўгі брата Івана, ён трапляе пад арышт і ў зьняволеньні прабывае каля дзесяці тыдняў. Звальняюць яго толькі тады, калі сын Івана Скарыны, Раман, атрымаў ад караля адмысловы "мандат", якім кароль загадваў звольніць безадкладна доктара Скарыну, як безпадстаўна арыштаванага. Каб забясьпечыцца ад падобных арыштаў на будучыню, доктар Скарына едзе ў Кракаў і дастае адмысловыя каралеўскія прывілейныя граматы, якімі кароль браў яго пад сваю беспасрэдную юрыдычную апеку [12]).

У травені 1535 году доктар Скарына ізноў у Чэхіі, у Празе, але цяпер ужо не як друкар-выдавец кнігаў, але як батанік-садоўнік караля Аўстрыі, Чэхіі й Вугоршчыны Фэрдынанда. З даручэньня караля Скарына засноўвае ў Празе на Градчанах

каралеўскі парк — першы рэнэсансавы парк у цэнтральнай Эўропе. У 1540 годзе доктар Ф. Скарына памёр. Адзін зь ягоных сыноў, Франьцішак, малым яшчэ хлопцам загінуў у вялікім пажары Прагі 2 чэрвеня 1541 году. Другі сын, Сымон, стаў лекарам ды ў 1570-х гадох практыкаваў на паўдні Чэхіі, у Крумлёве [13]).

## Друкарскае майстэрства Скарынавых выданьняў

З друкарскага гледзішча выдадзеныя Скарынам кнігі былі на ўзроўні тагачасных найлепшых выданьняў, а сярод кірылічных, як прызнаюць гісторыкі кірылічнага друку, роўных ім ня было да паловы XVIII ст. [14]). Кнігі Скарыны надрукаваныя на трывалкай добраякаснай паперы, багата аздобленыя ініцыяламі, заставіцамі ды дрэварытнымі высокае мастацкае якасьці ілюстрацыямі. У гісторыі кірылічнага друку першы Скарына завёў у кнігі загаловачныя бачыны ды тарнаваў фаліяцыю (нумарацыю балонак). Словы ў ягоных выданьнях дадзеныя ўжо ня зьлітым ладам, як у кракаўскага друкара Фэоля, ці ў тагачасных кнігах рукапісных, але разьдзельна, што вельмі аблягчала чытаньне кнігі. І фармат — не вялікі рукапісных кнігаў, але малы, зручны пры карыстаньні. Ягоныя праскія выданьні выданыя ў чацьвярціцу /4°/, віленскія-ж — Апостал у васьміцу /8°/, "Падарожная-ж яшчэ меншая.

Ілюстрацыі Скарынавых выданьняў выкананыя ў стылі вядучай тады нюрнбэрскай школы дрэварытнай ілюстрацыі друкаванай кнігі. Трапляюцца ў Скарыны й ілюстрацыі, кампазыцыя якіх перанятая з дрэварытаў слаўнага Дюрэра. Як нядаўна было выясьнена, у "Падарожнай" ёсьць і ілюстрацыі адціснутыя з дрэварытных дошчачак выкананых у нюрнбэрскай працоўні Міхала Вольгемута, настаўніка Альбрэхта Дюрэра. Гэтыя дрэварыты былі створаныя для надрукаванай у 1493 годзе ў Нюрнбэргу, у друкарні Антона Кобэрґэра, знакамітай лікам сваіх ілюстрацыяў (больш 600) Хронікі сьвету Гартмана Шэдэля [15]). Дык сувязь мастацка-графічнага афармленьня выданьняў Скарыны зь нямецкай нюрнбэрскай друкарняй А. Кобэрґэра сёньня даведзеная. Сьветчыць гэта й пра праўдападобную бытнасьць Скарыны ў Нюрнбэргу.

У праскіх біблійных кнігах Скарыны, у кнізе Сыраха ды Царстваў, зьмешчаны й выдатна выкананы дрэварытны партрэт доктара Ф. Скарыны. Партрэт пазначаны 1517 годам ды мае манаграму мастака МТЗ, манаграма дагэтуль ня выясьненая, імя мастака партрэту ня ведамае. Ёсьць дапушчэньні, што некаторыя графічныя аздобы віленскіх выданьняў выкананыя самым Ф. Скарынам.

Ініцыялы й заставіцы віленскіх кнігаў Скарыны маюць расьлінны арнамэнт белага рысунку на чорным полі, выкананыя ў

стылі характэрным некаторым тагачасным вэнэцыянскім выданьням. Іх у Падарожнай ды Апостале асабліва шмат. Разам з густоўным шрыфтам ды часта шчодра тарнаваным двуколерным друкам, яны надаюць кнігам урачысты, малітоўны настрой. Расейскі мастацтвазнаўца XVIII ст. В. В. Стасаў, віленскія выданьні Ф. Скарыны назваў "славянскімі эльзэвірамі" [16]). /Эльзэвіры — галяндзкія выдаўцы XVII ст., славіліся сваімі выданьнямі малога фармату, але нязвычайна густоўна аформленымі. Ня можна аднак выпускаць зь віду, што беларускія "эльзэвіры" зьявіліся сто гадоў перад эльзэвірамі галяндзкімі./

Уплыў Скарынавых выданьняў на далейшае разьвіцьцё беларускага друку быў вялікі. Шрыфты Скарынавых кнігаў у сваіх формах абаснаваныя на беларускім паўуставе, але пад уплывам лацінскай антыквы "азаходненыя", сталі ўзорам для шрыфта беларускай Нясьвіскай друкарні 1561-1563 гадоў, у якой свае кнігі друкаваў Сымон Будны. Узорам яны былі й для шрыфта той друкарні, у якой каля 1576 году друкаваў свой беларускі пераклад Евангельля (з паралельным царкоўнаславянскім тэкстам) у сваім Цяпіне (што на Полаччыне) Васіль Цяпінскі.

Пры канцы XVI ды на пачатку XVIIст. Скарынавыя арыгінальныя ініцыялы й заставіцы, або створаныя на іх узор новыя, шырака ўжываюцца пры друкаваньні кнігаў у віленскай Брацкай друкарні. Трапляюцца яны і ў выданьнях друкарні Мамонічаў. Дзеля гэтага некаторыя надрукаваныя ў іх кнігі выглядам нагадваюць Скарынінскія выданьні. Значны ўплыў Скарынінскіх віленскіх выданьняў можна бачыць і на графічным афармленьні кнігаў, якія Іван Федараў Масквіцін друкаваў у Астроскай друкарні.

На аснове формы літараў Скарынавых кнігаў гадоў ледзь ня дзьвесьце пасьля, былі створаныя й шрыфты для амстэрдамскіх кірылічных друкарняў Яна Тэссынга ды Ільлі Капіевіча-Капіёўскага 1699-1706 гадоў [17]). Тварцом гэтых шрыфтоў быў Капіевіч-Капіеўскі, случчанін. У гэтых друкарнях друкаваліся на загад цара Пётры І-га кнігі для Маскоўшчыны. Формы азаходненых шрыфтоў Скарыны перанятыя для амстэрдамскіх выданьняў, рыхтавалі грунт для рэфармаваньня друкарскай кірыліцы ў Расеі й давялі да стварэньня г. зв. "гражданкі".

Шрыфт Скарынавых кнігаў зрабіў уплыў і на кірылічны друк на захадзе Эўропы. Не бяз уплыву літараў Скарынавых выданьняў шрыфты для сваёй друкарні 1561 - 1564 гадоў у Тубінгіне (Вітэмбэргія) стварыў славенец Пшымож Трубэр (Прымус Трубэр). Друкаваў ён пратэстанцкія кнігі для паўдзённых славянаў [18]). Уплыў Скарынавага шрыфту можна бачыць і на формах літараў Ватыканскай кірылічнай друкарні, у якой у 1595 годзе япіскапы Іпаці Пацей ды Кірыла Тэрлецкі друкавалі "Каляндар новы" [19]).

## Літаратурная спадчына

Важная літаратурная спадчына Ф. Скарыны й сваімі пісьмовымі дасягненьнямі, сваім арыгінальным кампактным стылем. У прадмовах знаходзім спробы пісаць вершаванай мовай. Скарына першы беларускі ды ўсходняславянскі вершапісец — ён пачынае гісторыю беларускага вершаванага слова. Паэтычныя якасьці Скарынавай вершаванай спадчыны разглядалі П. Н. Бэркавы, А. Надсон, Б. МкМіллін, Ф. Сокалава [20]). У сьпевах-малітвах акафістаў і канонаў знаходзім узоры высокаякаснай невершаванай паэзіі. Тут Ф. Скарына паэт-гімнаграф.

Ідэйныя асновы Скарынавага сьветагляду складаліся ад дзён ягонага дзяцінства, а пасьля мацнелі й пад узьдзеяньнем гуманістычных ідэяў пары эўрапэйскага Адраджэньня. Зь імі Ф. Скарына сутыкнуўся на ўнівэрсытэтах. Справу перакладу Біблii ды яе друку "народу паспалітаму" Скарына матывуе ня толькі рэлігійнымі й маральнымі мяркаваньнямі, але й асьветна-навучальнымі ды патрыятычнымі. Кнігі для народу выдаваў ён "наболей" дзеля гэтага "іжэ мя міласьцівы Бог з таго языка на сьвет пусьціў". Словам **"наболей"** сам Скарына падчыркнуў, што любоў да роднай мовы галоўны матыў ягонай літаратурнай і выдавецкай дзейнасьці для дабра свайго народу.

Дык "дабро паспалітае", дабро грамады, дабро народу-айчыны — ідэі, якія перш за ўсё абумовілі характар Скарынавай літаратурна-выдавецкай дзейнасьці. У прадмове да кнігі Юдыты Скарына заклікае, каб людзі працы й скарбаў для айчыны не шкадавалі, бо ад прыраджэньня зьвяры, што ходзяць па пустыні, знаюць ямы свае, рыбы, што плаваюць па моры ды ў рэках, чуюць віры свае, пчолы й тым падобнае, бароняць вульляў сваіх, — гэтак і людзі, дзе зрадзіліся й "ускормленыя суць па Бозе", к таму месцу вялікую ласку маюць.

Побач рупнасьці пра дабро народу, пра справядлівасьць, побач патрыятызму, вельмі яскравая рыса сьветагляду Скарыны — свомая для Полацку й Полаччыны ягонай пары рэлігійная талерантнасьць. Хоць Скарына й быў чалавекам глыбока веруючым, у яго аднак ня знойдзем і сьледу нейкага рэлігійнага фанатызму. У паглядах ды дзейнасьці ён ня чуўся зьвязаным нейкімі канфэсыйнымі рамкамі ці абмежаваны той ці іншай царкоўнай ідэялёгіяй. У ягоных выданьнях, у прадмовах і камэнтарох няма варожасьці да якоеколечы рэлігіі, да людзей інакш веруючых, інакш думаючых.

У Полацку Ф. Скарына рос у старых традыцыях праваслаўнае веры, яе абрадаў, і кнігі пасьля ён выдаваў праваслаўныя для праваслаўных. Але сам ён ніразу не назваў сябе прыналежным да той ці іншай веры. Як трапна зацеміў аўтар артыкулу ў часапісе "Іскры Скарыны" (Прага, № 5, бач. 2, травень 1935 г.)

“Франьцішак Скарына казаў: “Мы хрысьціяне”. Ён ніколі не казаў “мы каталікі”, або “мы праваслаўныя”. Гэта, побач каталіцкага імя “Франьцішак”, дало падставу для спрэчак — быў ён праваслаўным ці каталікам. Спрэчкі гэтыя вядуцца й да сёньняшняга дня. Рэч пэўная, аднак, што ня стаў ён пратэстантам або гусытам, як дапускалі некаторыя, ды што ня быў “вольнадумцам” ці “атэістам”, як прабавалі даводзіць некаторыя “савецкія” аўтары.

У выдаваньні кнігаў Бібліі доктару Скарыну важнымі былі, апрача рэлігійных, і матывы асьветна-навучальныя. У прадмове “во всю библию” Ф. Скарына кажа, што ў Бібліі ня толькі справы “пазнаваньня Бога” ды праўдаў веры, але й жыцьця зямнога.

Дзеля свае накіраванасьці на патрэбы й дабро народу, кнігі Скарыны здабылі шырокае прызнаньне ня толькі ў ягонай Беларусі, але й за яе межамі. Асабліва шмат ведамак захавалася пра іх папулярнасьць на прасторах украінскіх земляў. Незважаючы на дзяржаўныя межы, траплялі яны й на землі Маскоўшчыны, дзе іх ня толькі палілі, як “гарэтычныя”, але шмат дзе рупліва перахоўвалі ды перапісвалі. Пра папулярнасьць гэтых кнігаў сьветчаць захаваныя да нашага часу ў вялікім ліку рукапісныя іх копіі, насьлядоўваньні, плягіяты, якія паўсталі ў XVI-XVIII ст. на землях Беларусі, Украіны ды Маскоўшчыны. Дык Скарынавыя кнігі спрычынілі літаратурны зрух вялікага тэрытарыяльнага засягу.

Уплыў Скарынавых выданьняў яскрава зазначыўся таксама й у кірылічнай друкаванай пісьменнасьці, асабліва беларускай. Можна гэта бачыць на выданьнях Сымона Буднага, Рыгора Хадкевіча ды Васіля Цяпінскага. Бясспрэчны іх уплыў відаць і на Астроскай Бібліі 1581 году[21]).

## Скарыніяна

Зацікаўленьне Скарынам і ягонай культурна-духовай спадчынай увесь час расьце. Як тыповы дзеяч пары Адраджэньня доктар Франьцішак Скарына свой яскравы творчы сьлед пакінуў у розных галінах культуры. Скарынам, ягонымі выданьнямі сёньня цікавяцца гісторыкі друку, літаратуразнаўцы, моваведы, дасьледнікі мастацтва ды рэлігійнай і грамадзкай думкі. Грунтоўна вывучаецца ягоная, багатая драматычнымі эпізодамі, біяграфія. Цікавяцца ім і пісьменьнікі, мастакі, што шукаюць сюжэты для сваёй творчасьці ў багатай дзейнасьці выдатнага Палачаніна, намагаюцца раскрыць асновы ягоных ідэйных паглядаў.

Для шпаркага росту новай скарыніяны мае значэньне й тое, што сваёй талерантнасьцей, дэмакратызмам, патрыятызмам ягоная творчая спадчына моцна пераклікаецца з сучаснай парой, і дзеля гэтага растуць намаганьні глыбей крануць, раскрыць,

асэнсаваць ды творча зьвязаць іх з актуальнымі справамі й патрэбамі цяперашняга часу ягонага народу.

Калі справа йдзе пра СССР, ды асабліва БССР, падыход да Францішка Скарыны й ягонай спадчыны цiраз мяняўся, ды кардынальна, ад высокай пазытыўнай ацэны 1920-х гадоў, да вострага асуду ў гадох 1930-х, калі яго ганьбілі, як "ворага народу", "езуіта", да рэгабілітацыі й услаўленьня ў гады пазьнейшыя, калі была зробленая спроба ўключыць яго ў вялікадзяржаўныя партыйныя канцэпцыі Масквы ды нават "перахрысьціць" з Францішка на "Георгія".

У паваенных гадох на Францішка Скарыну зьвернутая ўвага навуковага сьвету й на Захадзе. Скарынаведным пытаньням прысьвячаюць цяпер сваю ўвагу ня толькі замежныя беларускія дасьледнікі, але й ангельскія, амэрыканскія ды іншыя. У сувязі з гэтым сучасная скарыніяна шпарка багацее ня толькі лікам, але й якасна. Мяняецца яна й сваёй мовай. Калі ў XIX ст. яна публікавалася пераважна працамі напісанымі мовай расейскай, ці часам чэскай або польскай, дык ад першай чвэрці гэтага стагодзьдзя пераважаюць ужо публікацыі пісаныя мовай беларускай, усё часьцей зьяўляюцца працы напісаныя мовай ангельскай.

## Улік скарыніяны

Згадкі ў друку пра датычную да доктара Скарыны літаратуру здараюцца ўжо ў аўтараў XVIII-га ды пачатку XIX-га ст. Рынгельтаўбэ (1744 г.), Ж. Бакмайстэра (1776), Ё. Добраўскага (ад 1814 г.). У 1813 годзе В. Сопікаў даў пералік блізу ўсіх выданьняў Ф. Скарыны [22]). Бібліяграфічныя **паказьнікі** скарыніяны пачалі зьяўляцца аднак толькі ад апошняй чвэрці XIX ст. Папаўняліся яны пасьля нававыяўленай літаратурай старой ды нарастаючай новай і разгалініліся на бібліяграфіі двух тыпаў: магчыма поўныя ў часе іх публікацыі **паказьнікі** ўсёй скарынаведнай літаратуры ды **крытычныя агляды** толькі важнейшай скарыніяны.

Першы паказьнік літаратуры пра Францішка Скарыну й ягоныя выданьні даў І. Каратаеў у сваім "Описании . . ." 1883 году [23]). Там, побач камплетнага ўліку ведамых тады кнігаў Скарынавага выданьня, пры іх вопісе прыведзена й колькідзесят пазыцыяў літаратуры пра іх. Другі з чаргі, лікам званай у ім літаратуры большы, быў апублікаваны ў 1904 г. А. Купаловым у расейскім біяграфічным слоўніку, пры зьмешчанай там біяграфіі Ф. Скарыны. У ім каля 80 пазыцыяў [24]). Гэтыя паказьнікі ў 1930 годзе дапоўніў польскі бібліяграф С. Эстрэйхэр [25]).

Куды больш, як у згаданых аўтараў дадзена скарынаведнай літаратуры пры канцы працы А. В. Флароўскага ў 1946 годзе "Чэская библия . . ." [26]) Ды там паказаная ня толькі скарыніяна,

але й літаратура датычная да тэмы працы, якая аднак ня мае ніякага непасрэднага дачыненьня да Ф. Скарыны й ягоных выданьняў. Выявіць, дзеля гэтага, самую скарыніяну, якое там каля 200 пазыцыяў, ня гэтак лёгка. Пасьля Флароўскага паважнейшае дапаўненьне навейшай літаратурай ёсьць у кнізе 1959 г. A. Kawecka-Gryczowa, K. Korotajowa i W. Krajewski. Drukarze dawnej Polski. Zesz. 5. Wielkie Księstwo Litewskie. Wrocław-Kraków, 1959, s. 229-230. Там больш 30 пазыцыяў [27]).

У сувязі з 450-мі ўгодкамі Скарынавага праскага друкарска-выдавецкага пачыну, якія прыпадалі на 1967 год, Беларускі Інстытут Навукі й Мастацва ў Нью Ёрку падрыхтаваў Скарынінскі юбілейны зборнік, які выйшаў з друку ў 1970 г. [28]). У зборніку апублікаваная першая грунтоўная скарынаведная бібліяграфія. Ахопленыя ёю розныя галіны скарыніяны — актавыя запісы, эпістулярныя й летапісныя матэрыялы, выданьні самога Скарыны, іх пазьнейшыя рукапісныя копіі, скарынаведная літаратура, Скарына ў літаратуры й мастацтве. У паказальніку каля 1200 пазыцыяў з часу ад 1492 да 1970 гадоў.

У лістападзе 1975 году, да навуковай канфэрэнцыі Віленскага ўнівэрсытэту з нагоды 450-х угодкаў ад выхаду Скарынавага Апостала, быў падрыхтаваны (палетувіску) й выдадзены бібліяграфічны паказьнік скарыніяны абмежаванага тэрытарыяльна засягу — ЛітССР — пад назвай "Франьцішак Скарына й Летува", апрацаваны Д. Гінэйтэнэ. У паказьніку рэгістраваныя артыкулы, зацемкі, колькі кніжных выданьняў, — разам 208 пазыцыяў [29]).

У 1977 годзе ў Маскве, выданьнем Дзяржаўнай бібліятэкі СССР, выйшаў паказьнік літаратуры пра Ф. Скарыну Е. Л. Неміроўскага [30]). Аснова яго — апублікаваны ў 1970 годзе паказьнік БІНіМ, зь некаторымі дапаўненьнямі аўтара ў галіне старой скарыніяны ды ўлікам скарыніяны пасьля 1970 году. У ім 1429 пазыцыяў. Паказьнік гэты не рэгіструе архіўна-летапісных ды літаратурна-мастацкіх матэрыялаў. Аўтар у запраўднасьці перавыдаў пад фірмай Дзяржаўнай бібліятэкі СССР працу падрыхтаваную й апублікаваную БІНіМ, перавыдаў, як свой арыгінальны твор.

Складальнік маскоўскага паказьніка, як зазначае ён сам, сьведама не даваў усю скарыніяну, але публікацыі з палітычным падборам, выпускаючы з уліку скарыніяны XX ст. тыя публікацыі, якія не адказвалі ягоным паглядам. Асабліва шмат публікацыяў не рэгістравана зь ліку тых, што зьявіліся на Захадзе, хоць у іх, асабліва ў паваенных гадох, зьявілася цімала каштоўных працаў, з публікацыяй нававыяўленых актавых запісаў, дакумантаў, якія сьветчаць пра бытнасьць Ф. Скарыны ў няведамых раней культурна-палітычных асяродках Эўропы.

Не рэгістраваныя ў паказьніку й працы тых аўтараў, якія ў СССР трапілі пад рэпрэсію (а некаторыя былі й зьнішчаныя),

але яшчэ не "рэгабілітаваныя". Адначасна ў паказьніку названа шмат публікацыяў, зьместам якія не зьвязаныя з Ф. Скарынам. Рэцэнзійны разгляд кнігі Е. Л. Неміроўскага дадзены ў "Запісы", БІНіМ, кн. 16, б. 129-137, 1978, Ню Ёрк.

### Агляды скарыніяны

У галіне крытычных аглядаў важнейшай толькі скарынаведнай літаратуры першым быў агляд П. В. Владзімірава ў 1888 годзе, дадзены на пачатку ягонай манаграфіі "Доктор Франциск Скорина" [31]). Агляд абаснаваны галоўна на публікацыях пра Скарыну названых у "Описании . . ." 1883 г. І. Каратаева, хоць прыводзяцца пры гэтым і некаторыя Каратаевым не адзначаныя агляды. Другі з чаргі агляд даў Уладзімер Пічэта — Scoriniana 1776-1926 [32]). Пічэтава "Скарыніяна" напісана з увагай на ўсплываючыя ў скарынаведных дасьледваньнях спрэчныя й няясныя пытыньні, як: месца друкаваньня Скарынам кнігаў — у Празе пад Варшавай, ці ў Празе Чэскай, справа веравызнаньня Скарыны, ягонага імя, сацыяльнага паходжаньня, мовы ягоных выданьняў ды іншых. Паважны недастатак аглядаў той, што ахоплівае ён толькі літаратуру ад 1776 году, але выпускае зь віду, хоць і не вялікую лікам, але вельмі цікавую скарыніяну часу папярэдняга, скарыніяну XVI-XVIII стагодзьдзяў.

Далейшы агляд старой і навейшай скарыніяны даў М. Алексютовіч у сваей кніжцы ў 1958 годзе [33]). Гэты агляд напісаны апіраючыся галоўна на літаратуры, якую згадваў у сваіх публікацыях чэскі гісторык-скарыніст А. В. Флароўскі. Агляд найнавейшай літаратуры, як дапаўненьне й прадаўжэньне Пічэтавай "Скарыніяны", у артыкуле, што друкаваўся ў менскім зборніку "450 год беларускага кнігадрукаваньня" (1968 г.) даў сам Флароўскі [34]).

У 1970 годзе, у Скарынінскім угодкавым зборніку Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва надрукаваны крытычны нарыс Вітаўта Тумаша пра навейшыя скарынаведныя публікацыі ды тую, што ня была ўзятая на ўвагу Ул. Пічэтам, скарыніяну старую, скарыніяну XVI-XVIII стагодзьдзяў [35]). У нарысе адзначаныя публікацыі менскія, віленскія, ковенскія й праскія. Зьвернутая ўвага й на паведамленьне М. Вайцехоўскай пра вялікі лік актавых запісаў датычных Франьцішка Скарыны ў архівах Пазнаня, з важнымі ў іх весткамі пра шырокую, міжнароднага засягу, гандлёвую актыўнасьць полацкіх Скарынаў, пра працу доктара Ф. Скарыны сакратаром і лекарам у віленскага біскупа Яна ды іншыя.

Дадзены ў нарысе агляд партыйных намаганьняў у БССР пры канцы 1920-х ды 1930-х гадоў асудзіць ды зганьбіць доктара Скарыну, як "сярэднявяковага манаха", "езуіта", ворага народу й навязаць яму імя, якім Скарына ніколі сябе не называў ды

выяўна яго й ня меў — "Георгій".

Разгледжаная ў нарысе й навуковая, паваенных гадоў, скарыніяна, у тым ліку й сыстэматычная скарынаведная праца Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва (БІНіМ), якая давяла да гэткіх важных знаходак, як актавы запіс у архіве падуанскага біскупа, з азначэньнем Ф. Скарыны "сакратар караля Дацыі", як выяўленыя факты, якія паказваюць на канфіскату каля 1520 году кнігаў Бібліі Скарынавага выданьня ў Вроцлаве, як разгляд тых гістарычных сьветчаньняў, якія раскрываюць факт паленьня Скарынавых выданьняў, як "гарэтычных", у Маскве, ды іншыя раней нязнаныя, ці мала ведамыя мамэнты Скарынавай біяграфіі.

* * *

[1]) Намаганьні замяніць імя **Францішак** доктару Скарыну імём **«Георгій»** настойліва вядуцца ў БССР і СССР ад 1940-х гадоў. Палітычныя матывы й мэты гэтага разгледжаныя ў нарысе: Сымон Брага. Пытаньне імя доктара Скарыны ў сьвятле актаў і літаратуры (Запісы Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва. Мюнхэн, 1964, кн. 4, б. 184-215).

[2]) Album studiosorum Universitatis Cracoviensis. T. II. Editionem curavit Adam Chmiel. Cracoviae, 1892, p. 91.

[3]) Statuta nec non Liber Promotionum philosophorum ordinis in Universitate studiorum Jagellonica ab anno 1402 ad annum 1849. Edidit Josephus Muczkowski. Cracoviae, 1849, p. 144.

[4]) Вітаўт Тумаш. Скарына ў Падуі (Запісы, кн. 5, БІНіМ, Мюнхэн, 1970, б. 35-79).

[5]) Тамсама, б. 49-50. Таксама: J. Sadoŭski. Skaryna's stay in Denmark (The Journal of Byelorussian Studies. Vol. II, № 1. London, 1969, p. 25-28).

[6]) Р. М. Хрысьціянскія сьвятыні Вільні ў XV-XVI ст. (Запісы, кн. 12, БІНіМ, Ню Ёрк, 1974, б. 68).

[7]) А. Надсон. Кніга Скарыны ў Капэнгагене (Божым шляхам. Лёндан, № 5(128), 1971, б. 9-11). A. Nadson. Skaryna's Prayer Book (The Journal of Byelorussian Studies. Vol. II, № 4. London, 1972, pp. 229-358).
Таксама: В. Тумаш. Знайшлася Скарынава Паскалія (Запісы, кн. 12, Ню Ёрк, 1974, б. 78-81).

[8]) В. Тумаш. Акрастыхі доктара Францішка Скарыны (Запісы, кн. 16, БІНіМ. Ню Ёрк, 1978, б. 99-107).

[9]) С. Брага. Доктар Скарына ў Маскве (Запісы, кн. 2, БІНіМ, Мюнхэн, 1963, б. 9-36).

[10]) В. Тумаш. Канфіската ў Вроцлаве кнігаў Бібліі Скарыны (Запісы, кн. 12. БІНіМ, Ню Ёрк, 1974, б. 3-13).

[11]) С. Брага. Кароль Альбрэхт і Скарына (Запісы, кн. 2(4), БІНіМ, Ню Ёрк, 1952, б. 40-44). Таксама: С. Брага. Доктар Франьцішак Скарына (Запісы, кн. 5, БІНіМ, Мюнхэн, 1970, б. 26-28).

[12]) В. Тумаш. Скарынавы кракаўскія прывілейныя граматы 1532 году (Запісы, кн. 5, БІНіМ, Мюнхэн, 1970, б. 113-120).

[13]) A. V. Florovskij. Nové správy o pobytu Františka Skoryny v Praze (Časopis Národniho Musea. Oddil Duchovědny. Roč. CX. Praha, 1936, s. 11-19).
Таксама: С. Брага. Доктар Франьцішак Скарына (Запісы, кн. 5, БІНіМ, Мюнхэн, 1970, б. 30-32).

[14]) В. В. Стасов. Разбор рукописного сочинения г. Ровинского: «Русские граверы и их произведения» (Отчет о седьмом присуждении наград гр. Уварова. СПб, 1864, с. 32).

[15]) В. Тумаш. Дрэварыты настаўніка Дюрэра ў Падарожнай Кніжцы Франьцішка Скарыны (Запісы, кн. 16, БІНіМ. Ню Ёрк, 1978, б. 3-43).
A. Nadson. Skaryna's Prayer Book (The Journal of Byelorussian Studies. Vol. II, London, № 4, p. 351).

[16]) В. В. Стасов, тамсама, б. 32.

[17]) Шицгал. Русский гражданский шрифт. Москва, 1959, с. 129.

[18]) В. Тумаш. Кнігі Скарыны на захадзе Эўропы ў пару ягоную й сяньня (Запісы, кн. 15, БІНіМ. Ню Ёрк, 1977, б. 35-38).

[19]) Тамсама, б. 37. Таксама: J. Krajcar. The Paschalia printed at Rome in 1596 (Oxford Slavonic Papers. Vol. III. Oxford, 1970, p. 107-118).

[20]) П. Н. Беркаў. Ф. Скарына і пачатак усходнеславянскага вершавання (У кн.: 450 год беларускага кнігадрукавання. Мінск, 1968, б. 245-261).
A. Nadson. Skaryna's Prayer Book (The Journal of Byelorussian Studies, Vol. II. London, № 4, 1972, p. 348, 357-358). Arnold B. McMillin. A History of Byelorussian Literature. Giessen, 1977, pp. 47-48, 60-61. Františka Sokolová. Nad nektérymi problemy života a dila Francyska Skoriny (Slavia, Praha, seš. 3, 1978, s. 319-323).

[21]) П. В. Владимиров. Доктор Франциск Скорина. СПб, 1888, с. 211-218.

[22]) Василий Сопиков. Опыт Российской библиографии, ч. 1. СПб, 1813, с. 9-19, 25-45, 183-184, 280-283.

[23]) И. Каратаев. Описание славяно-русских книг напечатаных кирилловскими буквами. Т. 1, СПб, 1883, с. 28-44, 56-67.

[24]) А. Купалов. Скорина, Франциск (Русский биографический словарь, т. 18. СПб, 1904, с. 602-603).

[25]) K. Estreicher. Bibliografia Polska, t. 28. Kraków, 1930, s. 190.

[26]) А. В. Флоровский. Чешская библия в истории русской культуры и письменности: Франциск Скорина и продолжатели его дела (Sbornik filologic-

ký, III. Třida česka Akademie Véd a Umění. Sv. XII. Praha, 1940-1946. s. 249-258).

27) A. Kawecka-Gryczowa, K. Korotajowa i W. Krajewski. Drukarze dawnej Polski. Zesz. 5. Wielkie Księstwo Litewskie. Wrocław-Kraków, 1959, s. 229-230.

28) В. Тумаш. Бібліяграфія скарыніяны (Запісы, кн. 5. БІНіМ. Мюнхэн, 1970, б. 181-268).

29) D. Gineitiené. Franciškus Skorina ir Lietuva. Bibliografiné rodyklé.

30) Е. Л. Немировский. Начало книгопечатания в Белоруссии и Литве: Жизнь и деятельность Франциска Скорины. Москва, 1978, 160 с.

31) П. В. Владимиров. Доктор Франциск Скорина. Его переводы, печатные издания и язык. СПб, 1888, с. 3 + XXVI + 351.

32) Уладзімер Пічэта. Scoriniana, 1776-1926 (Чатырохсотлецьце беларускага друку, 1525-1925. Інстытут Беларускае Культуры. Менск, 1926, б. 284-327).

33) М. А. Алексютовіч. Скарына, яго дзейнасць і светапогляд. Мінск, 1958, б. 6-18.

34) А. В. Флароўскі. Scoriniana (У кн.: 450 год беларускага кнігадрукавання. Мінск, 1968, б. 389-433).

35) В. Тумаш. Scoriniana nova, 1926-1966 (Запісы, кн. 5, БІНіМ. Мюнхэн, 1970, б. 145-180).

Міхась КАВЫЛЬ

## ОЙ, ЧАМУ Я СПАТКАЎСЯ З ТАБОЮ?

Ой, чаму я спаткаўся з табою
За сялом, дзе цьвітуць васількі?
Не знайду я нідзе супакою:
Мне вачэй тваіх сьніцца блакіт.

Тваю гнуткую, стройную постаць
Абдымаю я часта у сьне . . .
Ой, ня муч, адкажы мне навошта
Абяцала кахаць па вясьне?

Я снуюся, нібы зачарован,
І рукамі лаўлю я твой цень . . .
І нічога ня міла, ня нова,
Я кудысьці ішоў-бы, ляцеў . . .

Ой, чаму я спаткаўся з табою
За сялом, дзе цьвітуць васількі?
Не знайду я нідзе супакою:
Мне вачэй тваіх сьніцца блакіт.

Аўген Калубовіч

# НАШЫ ПАПЯРЭДНІКІ

(працяг)

Фэлікс Віславух із Рэчыцкага павету, былы студэнт Маскоўскага й Кіеўскага ўнівэрсытэтаў, пазьнейшы сябра К. Каліноўскага й У. Малахоўскага. Прыбыўшы із Кунэо на пачатку паўстаньня, ён быў прызначаны ў Троцкі павет, сьпярша на камандзера паўстанчага аддзелу, а ад 8-га чэрвеня 1863 году — на павятовага вайсковага начальніка. Па здушэньні паўстаньня зноў пайшоў на эміграцыю.

Баляслаў Калышка із Лідзкага павету. Сын эмігранта ў Парыжы. Камандзер зарганізаванага ім Дубіскага паўстанчага палка, зь якім у шматлікіх баёх біўся супраць расейскага войска. Разьбіты пад Біржамі 25-26-га чэрвеня 1863 году, узяты ў палон і павешаны ў Вільні.

Жыгімонт Мінейка із Ашмянскага павету. Па сканчэньні школы ў Кунэо — вайсковы начальнік Ашмянскага павету й камандзер злучанага паўстанчага аддзелу, у якім, праўдападобна, змагаўся й сябра ягоны па Віленскай гімназіі паэта Ф. Багушэвіч. Пацярпеўшы няўдачу пад Расолішкамі, хворы на тыфус, 3-га чэрвеня 1863 году ўзяты ў палон і засуджаны на кару сьмерці, замененую 12 гадамі катаргі. (Із Сібіры яму пашчасьціла ўцячы замежы. У 1897 годзе ён яшчэ ваяваў супраць туркаў за Крыт, удастоіўся ганаровага грамадзянства Грэцыі й дажыў да 1925 году).

Фэлікс Зянковіч із двара Макраны Пружанскага павету. Прыбыў із Лёндану з марской экспэдыцыяй паўстанцаў-эмігрантаў. Ад ліпеня 1863 году — сакратар краёвага паўстанчага цэнтру ў Вільні. 7-га жніveня 1863 году арыштаваны, прысуджаны да расстрэлу, але сасланы на 12 гадоў катаргі ў Сібірскія капальні.

Дадамо тут і знаёмага нам Г. Дмахоўскага. Пахаваўшы ў Філядэльфіі жонку, у 1861 годзе з уласнае волі вярнуўся ў Беларусь, улучыўся ў падрыхтоўку паўстаньня; а калі яно пачалося, быў вайсковым начальнікам свайго Дзісенскага павету. У красавіку 1863 году ён зарганізаваў паўстанчы аддзел у суседнім Лепельскім павеце, сам кіраваў ім у баі каля вёскі Парэчча Барысаўскага павету 26-га травеня 1863 году й, «прабіты 8 кулямі, упаў старац на рукі дарастаючай моладзі» [56]).

Паўстаньне 1863-64 гг. у Беларусі й Летуве сплывала крывёю. Супраць яго было кінута (паводле афіцыйных расейскіх дадзеных на 1-ае студзеня 1864 году) 144.786 жаўнераў, 146 гармат і 60 казацкіх сотняў [57]). Сёньня яшчэ невядома, колькі паўстанцаў забіта й паранена, але пакараных вайскова-палявымі судамі й «у адміністрацыйным парадку» (бяз суда) на 1-ае студзеня 1865 году было 18.507 (зь іх: 128 — расстрэлам і шыбеніцай, 853 — катаргай, 11.502 — ссылкаю ў Сібір і «внутренния губернии Империи», 6.024 — «оставлено в крае... с подвержением некоторых из них административным взысканиям и... с отдачею на благонадежное поручительство и под надзор полиции других» [58]).

Калі залпы расстрэлаў і скрып вісельняў яшчэ не заціхлі, а звон кайданаў гнаных у Сібір вісеў над Беларусьсю, — чарговая, 4-ая хваля масавай бела-

рускай эміграцыі вырушыла на Захад. Згодна з польскімі крыніцамі [59]), яна лічыла 7.000 найбольш актыўных паўстанцаў, разам — із Польшчы, Беларусі й Летувы.

Паадзіночныя й выключныя выпадкі гэтай хвалі датуюцца ўжо ад вясны 1863 году. Увосені, калі зьявіліся замаразкі й сьнег, і трымацца ў лесе стала цяжка, рух гэты пабольшыўся. Дзеля таго, што ён мог пагражаць далейшаму ходу паўстаньня, зьмяншаючы ягоныя кіраўнічыя кадры, 13-га сьнежаня 1863 году кіраўнік паўстаньня Кастусь Каліноўскі выдаў загад аб забароне выезду замежы без дазволу паўстанчага ўраду [60]), пазьней уважаючы яго «за адну із самых няўдалых сваіх пастановаў» [61]).

У гэтай хвалі эміграцыі ў Францыю, Швайцарыю, Ангельшчыну й іншыя краі Заходу ішлі:

Із краёвых кіраўнікоў —

Ян Казела (псэўдонім — Скала) із двара Сэрвач Вялейскага павету. Навуку здабываў у Пецярбурскай школе гвардзейскіх падпрапаршчыкаў і інжынернай акадэміі. Напярэдадні паўстаньня — адзін із заснавальнікаў паўстанчай арганізацыі ў Менску. Ад восені 1862 году — сябра краёвага паўстанчага цэнтру. Праз год — вайсковы начальнік Горадзенскага й Аўгустоўскага ваяводзтваў. Эміграваў у Францыю. Вярнуўшыся ў 1872 годзе ў Беларусь, быў арыштаваны й да 1883 году сасланы ў ссылку.

Інжынер Уладыслаў Малахоўскі із двара Маце Кобрынскага павету, блізкі паплечнік Кастуся Каліноўскага, паўстанчы начальнік Вільні (ў лютым-жнівені 1863 году).

Маляр Баніслаў Залескі (Ліцьвін) із двара Рачкавічы Слуцкага павету. У 1846 годзе за ўдзел у падпольным антырасейскім руху высланы ў Арэнбург, а праз два гады — у Аральскі край, дзе ссылку адбываў разам із Т. Шаўчэнкам. У 1856 годзе вярнуся дадому, а ў 1863 — далучыўся да паўстаньня. Эміграваў у Дрэздэн — Рым — Парыж (дзе ў 1880 годзе й памёр). Быў замежным палітычным прадстаўніком краёвага паўстанчага цэнтру.

Палк. Баляслаў Длускі із Віленскага павету. Ад 1862 году — сябра краёвага паўстанчага цэнтру ў Вільні, ад кастрычніка 1863 — вайсковы прадстаўнік цэнтру замяжою. 16-га сьнежаня 1863 году яму зь Вільні было даручана стварыць із новых эмігрантаў, «якія перад тым былі паўстанцамі й змушаныя былі эміграваць», вайсковую камісію, улажыць страявы статут для паўстанчых аддзелаў і па апрабаце яго выдаць друкам [62]).

ваяводзкіх —

Паўстанчы начальнік Менскага ваяводзтва Карнэль Пялікша.

Палк. Валеры Урублеўскі (пазьнейшы «гэнерал Парыскай камуны») із мястэчка Жалудок Лідзкага павету. Сурэдактар газэты «Мужыцкая Праўда», вайсковы начальнік Горадзенскага ваяводзтва.

Ігнат Арамовіч, настаўнік Беластоцкай гімназіі. У паўстаньні — ад'ютант В. Урублеўскага. У студзені 1864 году эміграваў у Швайцарыю, дзе апублікаваў свае ўспаміны з паўстаньня із тэкстамі беларускіх паўстанцкіх песьняў. Па звароце ў Беларусь арыштаваны, сасланы ў Казань, дзе ў 1875 годзе памёр.

Паэта Фэлікс Ражанскі зь Вялікай Берастовіцы Ваўкавыскага павету. Ад 1861 году ў Горадзенскай рэвалюцыйнай арганізацыі К. Каліноўскага. Сурэдактар «Мужыцкае Праўды», аўтар паўстанцкіх песьняў у беларускай мове. Ад 1863 году — у паўстанчых аддзелах В. Урублеўскага. Эміграваў у Аўстрыю.

паветавых —

Лекар Уладыслаў Барзабагаты із двара Рутка Наваградзкага павету, паўстанчы начальнік Наваградзкага павету, завочна засуджаны на кару сьмерці.

Паручнік артылерыі Ян Жукоўскі (псэўдонім — Каса). Па сканчэньні Пецярбурскага кадэцкага корпусу ў 1853 годзе 10 год служыў у расейскім войску. Ад красавіка 1863 году — паўстанцкі вайсковы начальнік Чэрыкаўскага павету. Сфармаваў паўстанчы аддзел і рушыў зь ім на Крычаў, каб захапіць там артылерыйскія гарматы. Пасьля няўдачы далучыўся да паўстанчага аддзелу Горацкага павету. Урэшце рэшт эміграваў.

Падпалкоўнік Аляксандар Лянкевіч із двара Панюкі Горадзенскага павету. 20-га красавіка падняў паўстаньне ў сваім павеце. 22-га травеня 1863 году каля вёскі Мілавіды Слонімскага павету аб'яднанымі аддзеламі горадзенскіх, ваўкавыскіх, слонімскіх і наваградзкіх паўстанцаў разьбіў расейскія аддзелы. Вайсковы начальнік Горадзенскага павету, завочна засуджаны на сьмерць.

Жыгімонт Буйніцкі зь Дзьвінскага павету, вайсковы начальнік інфлянцкіх паветаў Віцебскай губэрні. 15-га красавіка 1863 году ён быў арыштаваны, увязьнены ў Дзьвінскай крэпасьці, але дзеля нястачы ўлікаў звольнены. Хаваючыся ад уладаў, 3-га травеня 1863 году лістом у Дзьвінскую сьледчую камісію спрабаваў ратаваць графа Л. Плятэра, заявіўшы, што гэта ён, а не Л. Плятэр, быў арганізатарам і кіраўніком нападу паўстанцаў 13-га красавіка 1863 году на расейскі транспарт зброі пад мястэчкам Краслаўка. (Захапіўшы транспарт, паўстанцы сканфіскавалі 3 скрыні зброі, а вазы з-пад іх спалілі. Пры гэтым было забіта 3-х расейскіх жаўнераў, а 2-х паранена). Ужо будучы эмігрантам і з газэт даведаўшыся пра расстрэл Л. Плятэра, з-га ліпеня 1863 году ў лісьце з Парыжа да расейскага вайсковага начальніка Віцебскай губэрні гэн. Э. Длатоўскага ён выказаў сваё абурэньне. Ліст гэты закончыў так: «Я ня мусіў дабраахвотна выдаваць сябе ў рукі варожага нам ураду, я павінен быў ратаваць сябе для далейшай службы сьвятой справе патрыятызму. У кожным іншым выпадку мяне нішто ня ўстрымала-б ад асабістай заявы перад расейскім урадам аб нявінаватасьці гр. Л. Плятэра, і я не здрыгнуўся-б ад думкі пра непазьбежнасьць сваёй гібелі, каб толькі выратаваць невінаватага» [63]).

і камандзераў паўстанчых аддзелаў —

Лясьнічы Ян Ванькові із двара Сьляпянка пад Менскам, сын маляра Валянціна Ваньковіча, памерлага ў 1842 годзе ў Парыжы. У 1862 годзе ён у арганізацыі К. Каліноўскага рыхтаваў паўстаньне на Горадзеншчыне. 20-га травеня 1863 году вывеў групу паўстанцаў зь Менску. Камандаваў паўстанчым аддзелам у Берасьцейскім павеце.

Антон Трусаў із Барысава, былы студэнт Маскоўскага ўнівэрсытэту. Камандзер Менскага паўстанчага аддзелу.

Падпаручнік артылерыі Станіслаў Ляскоўскі, камандзер слаўнага паўстанчага аддзелу ў Ігуменскім павеце. Гэта супраць яго 9-га чэрвеня 1863 году ў Ігуменскія лясы было выслана 10 расейскіх рот пад камандаю гэн. Русінава; а паўстанцы ягоныя 23-га ліпеня 1863 году пад Ігуменам захапілі ў палон начальніка 3-ай пяхотнай дывізіі гэн. Грунта, які зь Ігумена выехаў на інспэкцыю сваіх войскаў.

Антон Баранцэвіч із Ашмянскага павету, падпаручнік Лібаўскага пяхотнага палка. У 1-ай палове красавіка 1863 году із групай афіцэраў беластоцкага гарнізону далучыўся да паўстаньня. Камандаваў конным партызанскім аддзелам у Горадзенскай губэрні. У студзені 1864 году эміграваў у Парыж.

Каморнік Кастусь Далеўскі із фальварка Кункулка Лідзкага павету. Сябра Ф. Багушэвіча й Ж. Мінейкі. (Браты ягоныя — Ціт, блізкі памочнік К. Каліноўскага, паўстанчы начальнік Вільні ў жнівені 1863 году, расстраляны на Лукіскім пляцы; а Францішак, сябра краёвага паўстанчага цэнтру, засуджаны на 20 гадоў катаргі). Паранены ў баі, ён эміграваў у Швайцарыю й Францыю, скуль некалькі разоў вяртаўся назад, каб дапамагчы перайсьці мяжу іншым. У 1871 годзе, у часе Парыскай камуны, расстраляны вэрсальцамі на фальшывы данос, быццам із вакна дому, у якім ён жыў у Парыжы, хтось страляў па вэрсальскіх жаўнерах.

Падпаручнік Паўлаўскага гвардзейскага палка Аляксандар Стаброўскі зь Меншчыны, 11-га красавіка 1863 году перайшоўшы на бок паўстанцаў. Камандзер 2-га паўстанчага аддзелу ў Троцкім павеце. Цяжка паранены ў баі, падаўся замежы. На пачатку 1864 году ішоў назад, у Беларусь, каб працягваць змаганьне, але на прускай мяжы быў затрыманы.

Ужо паза хваляю 1863-64 гг., у 1871 годзе, на эміграцыю ў Аўстрыю змушаны быў ісьці вядомы беларускі этнограф, археоляг і літаратар Адам Кіркор, каго ў 1882 годзе Расея нат дамагалася выдачы. На эміграцыі, у Кракаўскім тэхнічна-прамысловым музэі, у 1873 годзе ён чытаў лекцыі пра літаратуру славянскіх народаў, выдаўшы іх у наступным годзе асобнай кнігай [64]). У кнізе тэй А. Кіркор зрабіў адну із першых спробаў нарысу гісторыі беларускай літаратуры ад XII да сярэдзіны XIX стагодзьдзя.

У 1874 годзе магілёўская паліцыя мела арыштаваць былога студэнта Пецярбурскага й Кіеўскага ўнівэрсытэтаў, улучанага ў сьпіс 53-ох найбольш небясьпечных для імпэрыі «палітычных злачынцаў». Але той, каго паліцыя шукала, невядома куды зьнік. Нашчадак старога беларускага шляхоцкага роду, Мікола Судзілоўскі, быў актыўным сябрам народніцкіх гурткоў і, як Ігнат Грынявецкі, прымаў удзел у падрыхтове колькіх замахаў на цара. У нацыянальным пытаньні ён трымаўся пагляду, што «кожны народ ня толькі мае права быць самім сабою, але й павінен быць самім сабою, павінен імкнуцца захаваць свае асаблівасьці, бараніць сваю індывідуальнасьць і апрычонасьць» [65]). Ягоная эміграцкая адысэя ў працягу 56 гадоў блуканьняў па сьвеце пралягла праз 12 краёў Эўропы, Амэрыкі й Азіі — праз Швайцарыю, Ангельшчыну, Румынію (тут ён канчае ўнівэрсытэт з дыплёмам лекара), Баўгарыю, Францыю, Італію, Гішпанію, ЗША, Гавайскія абтокі (дзе ён арганізуе партыю незалежных палінезейцаў канакоў, выбіраецца сэнатарам у Гавайскі сэнат, а ў ім — на старшыню гэтага сэнату), Філіпіны, Японію й Кітай. На скрыжаваньнях гэтага «падарожжа» ён зыходзіцца з М. Бакуніным, Х. Боцевым, Г. Пляханавым, спатыкаецца з К. Марксам і Ф. Энгельсам. У розных мовах (ён ведаў 8 эўрапэйскіх моваў, канацкую, японскую й кітайскую) на палітычныя й іншыя тэмы публікуе артыкулы, нарысы, брашуры. У 1875 годзе ў Лёндане выступае на мітынгу, прысьвечаным 12-ым угодкам паўстаньня 1863-64 гг. Засумаваўшы па родным Фаставе (маёнтак бацькі ў Мсьціслаўскім павеце) і Магілёву, ён марыць вярнуцца дадому й робіць у гэтым кірунку захады: яшчэ із Сан-Францыска ў канцы 1880-х гг. праз свайго пацыента, царскага консуля; у 1917 годзе, пасьля перамогі бальшавіцкай рэвалюцыі, праз знаёмага, лекара Ульянавых А. Кудзьяна й трэці, апошні, раз на пачатку 1927 году беспасярэдня зьвярнуўшыся да ўраду СССР. Адказу чакаў больш за 3 гады, ды... не дачакаўшыся, у 1930 годзе памёр у Цяньцьзіне.

Ня ўсе аднак эмігранты ў чужым сьвеце служылі сваёй айчыне. Частка іх раней ці пазьней растаплялася ў асыміляцыйным моры новай нацыі й назаўсёды гінула для Беларусі. У лепшым выпадку выдатнай працаю для новай бацькаўшчыны яны праслаўлялі край свайго паходжаньня.

У Чылі шануецца імя Ігната Дамейкі із двара Нядзьведка пад Міром, які ў Парыжы (куды як паўстанец 1831 году із Прусіі ён трапіў праз Кэнігсбэрг і Дрэздэн) у 1837 годзе скончыў Горную школу й урадам маладой Чылійскай рэспублікі быў запрошаны на прафэсара хэміі й мінэралёгіі ў калэдж Какімбо, а пазьней і ў унівэрсытэт Сант'яга, дзе ў 1867-83 гг. 16 гадоў бесперапынна выбіраўся на рэктара. У Чылі І. Дамэйка паклаў пачатак шырокаму вывучэньню гэалягічнай структуры й мінэральных багацьцяў Андаў, пустэльні Атакамы, Араўканіі; адкрыў і здаў у эксплаатацыю колькі капальняў медзі, золата, серабра; знайшоў паклады салетры, прапанаваўшы здабываць яе на ўгнаеньне; заснаваў тры музэі й некалькі бібліятэк; выдаў шэраг падручнікаў зь фізыкі, хэміі, мінэралёгіі й 130 навуковых працаў. Ягоным імем названыя адкрытыя й дасьледаваныя ім адзін із горных хрыбтоў Андаў, мінэрал дамейкіт, выкапнёвы сьлімак Nautilus Domeykus, кветка Viola Domeykiana, чылійскі аманіт Amonites Domeykanus, а таксама места на поўначы краю — Дамейка й порт на паўдні Араўканіі — Пуэрта Дамейка. Калі ў 1889 годзе ён памёр, над ягонай труною прамаўляў прэзыдэнт Чылі. І . Дамейка быў абвешчаны народным героем, і ў Сант'яга яму пастаўлены помнік.

Кастусь Ельскі зь Ігуменскага павету. Па сканчэньні Менскае гімназіі ў 1853-56 гг. вучыўся на мэдычным факультэце Маскоўскага ўнівэрсытэту, у 1860 годзе скончыў матэматычна-прыродаведны факультэт Кіеўскага ўнівэрсытэту. Будучы настаўнікам Кіеўскай гімназіі прымаў удзел у падрыхтоўцы паўстаньня 1963-64 гг. Калі ўвесну 1863 году ў Кіеве пачаліся арышты, К. Ельскі нелегальна перайшоў румынскую мяжу. Працаваў заолягам у Турцыі й Францыі. У 1865 годзе выехаў із Парыжу ў францускую Гвіяну. Плаваў па рэках Ко, Аяпок, Тапраба, Мароні, Уасе; дасьледаваў і апісваў жыцьцё трапічных птушак, казурак, жывёл, расьлінаў; на абтоках Каралеўскім, Сан Жазэф і Чортавым лекаваў хворых, на Сярэбранай гары — пракажоных. У 1869 годзе пераехаў у Перу, дзе вывучаў фаўну каля Лімы. Разам із Я. Штольцманам дасьледаваў паўночныя раёны краю, расьлінны й жывёльны сьвет прырэчча Амазонкі. Ён адкрыў невядомы да яго від жывёлы Dinonys. Адзін від лаўра названы ягоным імем (Ocotea Jelscii).

Язэп Гракові́ч із фальварка Міхалёва на Меншчыне. Па сканчэньні вайсковай школы ў Пецярбургу служыў у палку, які стацыянаваў у Віцебску й Чанстахове. У 1863 годзе далучыўся да паўстаньня, у наступным годзе эміграваў у Парыж. Там скончыў інжынерную школу й выехаў у Баўгарыю, дзе будаваў чыгункі й масты. У 1881 годзе закантрактаваўся на будову чыгункі ў Гаіці. На францускім абтоку Марцініцы ў Караібскім моры вёў гэалягічныя пошукі. Памёр эмігрантам у 1912 годзе.

Трох братоў Кастравіцкіх із двара Дарашковічы Наваградзкага павету хадзілі ў паўстаньне 1863-64 гг. Двох зь іх было саслана ў Сібір. Трэцяму, Апалінару, удалося эміграваць у Італію. У Рыме ў 1880 годзе ягоная дачка Анэля нарадзіла няшлюбнага сына, зь якім у 1899 годзе пераехала ў Парыж. Праз два гады сын стаецца арыгінальным францускім паэтам, Вільгэльмам Кастравіцкім, пазьней — Гіёмам (і ў гонар дзеда) Апалінэрам. Калі паэтычная зорка Г. Апалінэра ўзыходзіла над Парыжам, там дажывала свой век Габрыэля Скакоўская, адзіная дачка

беларускага пісьменьніка А. Вярыгі-Дарэўскага, арганізатара паўстаньня 1863-64 гг. на Віцебшчыне. Яна — сама! дабраахвотна! — паехала за бацькам у Сібір, куды ў 1865 годзе ён быў сасланы. І пакуль цягнуў там гужы катаржніка на Усольскай саляварні пад Іркуцкам, на будове Кругабайкальскай дарогі ці здабываў золата на Алекмінскіх капальнях у Якуціі, — Габрыэля скрозь была ля яго, дабіваючыся ад уладаў еправоду хворага бацькі ў Цюмень Табольскай губэрні або ў іншае месца зь менш суровым кліматам. І калі не дабілася, а бацька ў 1884 годзе ў Іркуцку памёр, пахавала яго й назаўсёды пакінула Расею й Беларусь, эміграваўшы ў Парыж (пабраўшыся перад тым у Сібіры із таксама паўстанцам, былым студэнтам Горы-Горацкага земляробчага інстытуту Скакоўскім).

Невядома, ці захаплялася яна паэзіяй Г. Апалінэра, і ці ведала, што ён унук паўстанца, паплечніка бацькі. Таксама як і невядома, ці францускі паэта Г. Апалінэр, паміраючы 9-га лістапада 1918 году ў Парыжы, ведаў, што дзесь у далёкім краі ягоных прашчураў усяго на паўгода раней у тым самым годзе (20-га травеня 1918 году) памёр ягоны дзядзька, беларускі паэта Карусь Каганец, народжаны ў Табольску, у сям'і Караля Кастравіцкага, аднаго із тых сасланых у Сібір дзедавых братоў-паўстанцаў.

У 1897-1914 гг. ад безьзямельля й беспрацоўя ў каляніяльнай гаспадарцы Беларусі ў ЗША й Канаду адыйшла 5-ая хваля масавай беларускай эміграцыі, на гэты раз эканамічнай. Расейская статыстыка хавае ейныя, такія згубныя для беларускага народу лікі. Беларускі дасьледчык А. Смоліч ацэньвае яе прыпушчальна на 300-500 тысяч [66]).

Із палітычных эмігрантаў гэтае хвалі нельга не згадаць Цёткі й Ф. Аляхновіча, эміграваўшых у Аўстрыю. Першую, 1906-11 гг., як ужо знаную паэтку-рэвалюцыянерку, вызначнага сябру Беларускай Сацыялістычнай Грамады. Гэта тут у эміграцыі, у Жоўкве пад Львовам, яна выдае свае кнігі — паэтычныя зборнікі «Скрыпка Беларуская» й Хрэст на свабоду», публіцыстычную «Як мужыку палепшыць жыцьцё» й перакладную з украінскае мовы «Гасьцінец для малых дзяцей». Адсюль паходзяць і ейныя прачулыя словы:

Узьнялася-б, здаецца, расінкай на хмары,
А хмары-бы ветрам сказала я гнаць
Далёка, далёка, дзе сьняцца мне чары,
Дзе боры густыя над Нёмнам шумяць.
(З чужыны, Кракаў, 1. 1. 1909 г.)

І другога — будучага драматурга й тэатральнага дзеяча, які па трохгадовай эміграцыі (1910-13 гг.) паверыў у абвешчаную ў 1913 годзе амнэстыю з нагоды 300-годзьдзя дынастыі Раманавых, вярнуўся дадому, але царскім урадам быў пасаджаны на год у турму. (Пазьней савецкім урадам на доўгія гады сасланы на Салаўкі, а ў 1944 годзе — падступна падасланым бэрыяўскім агэнтам застрэлены на ўласнай кватэры ў Вільні).

У выніку 1-ай сусьветнай вайны, расейскай камуністычнай рэвалюцыі 1917 году й упадку Беларускай Народнай Рэспублікі (праклямаванай 1-ым Усебеларускім Кангрэсам у Менску 30-га сьнежаня 1917 году, незалежнасьць якое Рада БНР

абвесьціла 25-га сакавіка 1918 году), — Беларусь пакінула 122.000 [67]) ейных жыхароў із агульнага ліку 2.000.000 [68]) няпрымірэнцаў да савецкае ўлады, пайшоўшых на эміграцыю із цэлае прасторы былой Расейскай імпэрыі. Гэта была 6-ая хваля масавай беларускай эміграцыі. Часткава яна йшла, разам зь іншымі народамі Расейскай імпэрыі, на ўсход — у Манчжурыю (Харбін, Хайлар, Мулін) і Кітай (Шанхай, Цяньцьзін, Пекін) [69]), але асноўная маса кіравалася на захад — у Фінляндыю, Прыбалтыку, Нямеччыну, Чэха-Славаччыну, Францыю, ЗША.

К таму часу ў заходніх краёх Эўропы дзеілі, прызнаныя дэ юрэ ці дэ факто дыпляматычныя прадстаўніцтвы, місіі ці кансуляты БНР:

Прадстаўніцтва БНР пры ўрадах балтыцкіх дзяржаваў у Рэвелі на чале зь інж. Душэўскім,

Вайскова-дыпляматычная місія БНР у Латвіі й Эстоніі (шэф місіі — палк. К. Езавітаў, райцы — гэн. П. Вэнт і палк. Шаўкоў),

Прадстаўніцтва БНР пры ўрадзе Летувы (прадстаўнік А. Аўсянік),

Кансулят БНР у Рызе на чале з У. Пігулеўскім,

Вайскова-дыпляматычнае Прадстаўніцтва БНР пры ўрадзе Фінлядыі ў Гэльсінках (Прадстаўнік — гэн. А. Корчак-Крыніца-Васількоўскі, райца — палк. Ю. Эльвенір), пазьней — Прадстаўніцтва БНР з прадстаўнікам К. Цярэшчанкам,

Гэнеральны Кансулят БНР пры ўрадзе Турэччыны ў Канстантынопалі на чале з палк. І. Ермачэнкам,

Прадстаўніцтва БНР у Баўгарыі й на Балканах (прадстаўнік гэн. Галубінцаў),

Прадстаўніцтва БНР пры ўрадзе Чэха-Славаччыны (прадстаўнік М. Вяршынін),

Дыпляматычная Місія БНР у Нямеччыне (адвакат Л. Заяц, пазьней — А. Бароўскі) і іншыя. У Бэрліне Дыпляматычная Місія БНР выдавала ў нямецкай мове тыднёвы бюлетэнь «Весткі Беларускага Прэсбюро», а ў беларускай мове — газэту для ваеннапалонных «З Роднага Краю».

У Прыбалтыцы часова знаходзіліся таксама некаторыя фармацыі БНР:

у паўночнай Латвіі й паўдзённай Эстоніі — Асобны Атрад (каля 10.000 жаўнераў) пад камандаю гэн. С. Булак-Балаховіча; Атрад гэты, на аснове ўмовы паміж урадамі БНР і Эстоніі, да часу выхаду на сваю тэрыторыю, застаючыся асобнай вайсковай адзінкай БНР, падлягаў Эстонскаму Галоўнакамандаваньню;

у Летуве, згодна із умоваю паміж урадамі БНР і Летувы ад 11-га лістапада 1920 году, перабывалі адступіўшыя зь Беларусі пад ціскам бальшавікоў і палякоў (ці новасфармаваныя тут) Беларускі полк пяхоты, Беларускі швадрон, Горадзенскі батальлён былога Горадзенскага палка, 1-ая й 2-ая асобныя беларускія роты, асобны беларускі батальлён і інш.; на чале іх стаяў гэн. Кандратовіч, а па ягонай дэмісіі — беларускія афіцэры Лаўрышаў, Глінскі, Ружанцоў і іншыя. Для жаўнераў выдаваўся часапіс «Вайсковы».

На эміграцыю змушаныя былі йсьці й найвышэйшыя дзяржаўныя органы БНР — Прэзыдыюм Рады на чале з П. Крэчэўскім, Урад БНР (габінэт В. Ластоўскага), а таксама шэраг радных і некаторыя партыйныя цэнтры. Найбольшую актыўнасьць у сваёй дзейнасьці яны выявілі да 1923 году.

Напачатку Урад БНР выехаў у Латвію й распачаў тут акцыю кансалідацыі нацыянальных беларускіх сілаў замежамі для працягу змаганьня за незалежнасьць БНР. 20-га кастрычніка 1920 году на палітычнай канфэрэнцыі ў Рызе, у якой бралі ўдзел прадстаўнікі беларускіх эсэраў (В. Ластоўскі, Я. Мамонька, інж. К.

Душэўскі, інж. А. Галавінскі, А. Валькові ч), сацыялістых-фэдэралістых (П. Крэчэўскі, В. Захарка, Я. Варонка, К. Езавітаў, Ю. Гадыцкі-Цьвірка) і сацыял-дэмакратаў (А. Аўсянік), было пастаноўлена стварыць вакол ураду В. Ластоўскага адзіны нацыянальны блёк. Адначасна ўрад павёў акцыю, скіраваную на сарваньне рыскіх перамоваў паміж Савецкай Расеяй і Польшчаю аб падзеле тэрыторыі Беларусі. Аднак на падставе мірнага пагадненьня, падпісанага 11-га жнівеня 1920 году паміж урадамі Латвіі й РСФСР, з асобным параграфам, паводле якога Латвія забавязвалася спыніць на сваёй тэрыторыі дзейнасьць Ураду БНР, ягоных дыпляматычных інстытуцыяў і ўсіх іншых беларускіх эміграцыйных арганізацыяў, — Дыпляматычныя місіі БНР у Латвіі спынілі сваё існаваньне, а Урад БНР пераехаў у Летуву, куды ў лютым 1921 году пераехала й замежнае Бюро ЦК партыі беларускіх эсэраў — Т. Грыб, П. Бадунова й Я Мамонька.

Із Летувы Урад БНР зьвярнуўся да ўрадаў Антанты, Прыбалтыкі, Скандынавіі й Нямеччыны з просьбаю не дапусьціць да падзелу Беларусі ў Рызе. Да сярэдзіны лютага 1921 году ў гэтай справе было пададзена 26 мэмарыялаў і дэклярацыяў. Праз сваю Дыпляматычную Дэлегацыю на чале зь міністрам замежных справаў БНР палк. А. Ладновым у Парыжы Урад БНР прасіў урады Антанты паставіць на парадак дня Вэрсальскай канфэрэнцыі «беларускае пытаньне», дапамагчы БНР утрымаць сваю дзяржаўную незалежнасьць.

Заходні сьвет да ўсяе гэтае акцыі Ураду БНР быў глухі. 18-га сакавіка 1921 году торг паміж РСФСР і Польшчаю быў закончаны, і Беларусь была падзеленая. РСФСР дастала сабе большы кавалак Беларусі, зь якога частку далучыла да Расеі, а з рэшты выкраіла БССР. Польшча атрымала па-над 100.000 кв. кілямэтраў з насельніцтвам каля 4.000.000. Невялікія часткі Беларусі былі далучаныя да Латвіі й Летувы. Не дапамагло й Слуцкае паўстаньне 27. XI - 28. XII. 1920 году — адно із найбольшых антысавецкіх паўстаньняў у Беларусі — калі па падпісаньні (12-га кастрычніка 1920 г.) прэлімінарнае ўмовы аб падзеле Чырвоная армія пачала займаць Случчыну.

Із Летувы Урадам БНР рыхтавалася спроба падняць паўстаньне ў Заходняй Беларусі й БССР. Улетку 1921 году для гэтае мэты быў створаны Цэнтральны Беларускі Паўстанчы Камітэт (ЦБПК) на чале із сябрам ЦК партыі беларускіх эсэраў (былым кіраўніком Слуцкага паўстаньня) адв. У. Пракулевічам, высланым нелегальна ў БССР. І хоць да паўстаньня не дайшло, арганізаваны ЦБПК партызанскі рух на землях БССР — тварэньне г. зв. «зялёнай арміі» — занепакоіў органы савецкае ўлады. Паводле яе афіцыйных дадзеных [70]), толькі ў 6-х паветах тагачаснае БССР у травені 1921 году ўжо было колькі дзясяткаў аддзелаў «зялёнай арміі» з 2.000 партызанаў, у чэрвені колькасьць партызанаў дайшла да 3.500. Змаганьне супраць іх вялі спэцыяльна створаныя вайсковыя фармацыі ЧОНу (части особого назначения).

Для большае кансалідацыі беларускіх нацыянальных сілаў у эміграцыі Урад БНР склікаў на 25-28 верасьня 1921 году ў Празе чарговую, больш шырокую, Беларускую нацыянальна-палітычную канфэрэнцыю, на каторую зьехалася 37 прадстаўнікоў беларускіх нацыянальных і палітычных партыяў і арганізацыяў із Летувы, Заходняй Беларусі, Нямеччыны й Чэха-Славаччыны. Канфэрэнцыя выказала сваю салідарнасьць із Слуцкім паўстаньнем, прыняла рэзалюцыю супраць Рыскага падзелу Беларусі, пацьвердзіла Акт 25-га Сакавіка 1918 году, прызнала за адзіны заканадаўчы арган Беларусі Раду БНР, а за адзіны законны выканаўчы орган —

Урад БНР (габінэт В. Ластоўскага), заклікаўшы аб'яднацца вакол іх усе цэнтры беларускай эміграцыі.

На 10-ае красавіка 1922 году зь ініцыятывы ангельскага прэм'ер-міністра Д. Лойд Джорджа ў Гэнуі была склікана міжнародная канфэрэнцыя па эканамічных і фінасавых пытаньнях. У ёй брала ўдзел 29 краёў. На абмеркаваньне канфэрэнцыі ставілася таксама пытаньне аб палітычным упарадкаваньні ўсходняй Эўропы. Дзеля гэтага апошняга Урад БНР вырашыў выслаць на канфэрэнцыю й сваю дэлегацыю. 27-га красавіка туды прыбылі прэм ер-міністар В. Ластоўскі й міністар замежных спраў А. Цьвікевіч. Яны пачалі старацца паставіць на парадак дня канфэрэнцыі «беларускае пытаньне». 2-га травеня дэлегацыя БНР мела нарады з падобнымі дэлегацыямі Украіны, Грузіі, Азэрбайджану, Кубані й Усходняй Галіцыі. Таго-ж дня яна мела гутарку й з ангельскай дэлегацыяй. На наступны дзень была прынятая старшынёю Гэнуэскай канфэрэнцыі, прэм'ер-міністрам Італіі Л. Фактам, і даручыла яму мэмарыял Ураду БНР з просьбаю паставіць на абмеркаваньне канфэрэнцыі пытаньне аб ўняважненьні Рыскае ўмовы й аб прызнаньні БНР незалежнай дзяржавай. Тэкст гэтага мэмарыялу быў даручаны затым усім дэлегацыям канфэрэнцыі.

Мэмарыял Ураду БНР быў разгледжаны на паседжаньні Палітычнай камісіі канфэрэнцыі, дзе былі заслуханыя таксама й аргумэнты дэлегацыі БНР. Але дзеля рашучага супраціву савецкай дэлегацыі (міністра замежных спраў Г. Чычэрына) пытаньня пра лёс БНР не ўдалося паставіць на парадак дня канфэрэнцыі, якая хутка зь віны савецкай дэлегацыі наагул разваліласа.

2-га лістапада 1923 году, пасьля рэзыгнацыі прэм'ера В. Ластоўскага й рэарганізацыі (23-га жнівеня) Ураду БНР, Прэзыдыюм Рады й Урад БНР пераехалі із Коўні ў Прагу (ў Коўні застаўся толькі новы прэм'ер Ураду А. Цьвікевіч).

Беларуская эміграцыя 6-ай хвалі (часта зь ініцыятывы й з дапамогаю прадстаўніцтваў БНР) адразу пачала тварыць свае эміграцыйныя асяродкі й арганізацыі ў вольным сьвеце. Лепей ёй гэта ўдалося ў Латвіі, Летуве, Чэха-Славаччыне, ЗША й Францыі.

У Латвіі [71]) ад 1919 году яна гуртавалася вакол Рады Беларускай Калёніі ў Рызе, дзе былі зарганізаваныя Беларускае культурна-асьветнае таварыства «Бацькаўшчына», Беларускі клюб, Курсы беларусаведы й пачаў выдавацца часапіс «На чужыне». Аднак дзеля згадванае ўмовы паміж урадамі Латвіі й РСФСР усе арганізацыі беларускіх эмігрантаў у Латвіі былі ў канцы 1920 году забаронены, аж пакуль у 1924 годзе яны не пачалі аднаўляцца. У Рызе тады ізноў паўсталі беларускія асьветныя таварыствы «Рунь» (старшыня — А. Шчорс) і «Беларуская хата» (таршыня — М. Дзямідаў). Таварыства Беларускіх настаўнікаў адчыніла й утрымлівала ў месьце 4 беларускія прыватныя школы й Беларускую гімназію, выдавала часапіс «Школа і жыцьцё». «Беларускае Выдавецкае Таварыства ў Латвіі» выдавала беларускія кніжкі, брашуры й месячны часапіс «Беларуская школа ў Латвіі». Было заснавана таксама «Беларускае Навукова-Краязнаўчае Таварыства». Пад рэдакцыяй К. Езавітава ў 1925-30 гг. выходзіла газэта «Голас беларуса». У 1934 годзе, калі да ўлады ў Латвіі прыйшоў дыктатар К. Ульманіс, блізу ўсе арганізацыі беларускіх эмігрантаў ізноў былі забароненыя.

У Летуве да 1927 году галоўным асяродкам беларускіх эмігрантаў была Коўня. Беларускія эмігранты ядналіся вакол Беларускага Нацыянальнага Камітэту (старшыня — інж. А. Галавінскі), Беларускага Культурна-Асьветнага Таварыства й Беларускага Выдавецкага Цэнтру (кіраўнік — В. Ластоўскі). Тут выдаваліся бела-

рускія кніжкі, часапісы «Беларускі Сьцяг» і «Крывіч».

У Чэха-Славаччыне эміграцыйны рух канцэнтраваўся сьпярша каля Прадстаўніцтва БНР, пазьней — каля Беларускай Рады ў Празе й іншых эміграцыйных арганізацыяў — Беларускага Культурнага Таварыства імя Францішка Скарыны, Беларускага Таварыства «Сокал», Аб'яднаньня Беларускіх Студэнцкіх Арганізацыяў, каторае было сябрам Міжнароднай Студэнцкай Канфэдэрацыі (СІЕ) і цэнтраляй усіх беларускіх студэнцкіх арганізацыяў у Празе (тут было болей за 100 беларускіх студэнтаў), Бэрліне, Рыме, Мюнхэні, Брусэлі, Лілі, Варшаве, Вільні, Рызе й г. д. Аб'яднаньне выдавала свой «Бюлетэнь», а Таварыства імя Ф. Скарыны — часапіс «Іскры Скарыны». Тут жылі й тварылі беларускія паэты У. Жылка (1923-26 гг.) і Л. Гэніюш (ад 1938 г.).

У 1921 годзе быў заснаваны Беларускі Камітэт у Канстантынопалі. Ад 1920 году там сярод эвакуяваных, галоўна з Крыму, афіцэраў і жаўнераў расейскай арміі было шмат беларусаў, якія пазьней выяжджалі із Турэччыны ў ЗША й іншыя краі вольнага сьвету. Камітэт даручыў палк. Я. Ермачэнку навязаць лучнасьць із Урадам БНР у Летуве, куды ён і выехаў. Ад прэм'ера В. Ластоўскага Ермачэнка атрымаў намінацыю на дыпляматычнага прадстаўніка БНР пры Турэцкім урадзе й на гэнеральнага консула БНР на Балканах, куды таксама эміґравалі беларусы пасьля расейскай бальшавіцкай рэвалюцыі 1917 году. Па звароце ў Канстантынопаль ён злажыў свае акрэдытуючыя паперы старшыні Турэцкага ўраду Тэффік Пашы, а, па ягонай парадзе, і камісарам акупацыйных уладаў у Турэччыне — амэрыканскаму, ангельскаму, францускаму, італьянскаму й грэцкаму. Ад трох апошніх урадаў (францускага, італьянскага й грэцкага) хутка былі атрыманыя прызнаньні БНР дэ-факто. Амэрыканскі й ангельскі камісары заявілі, што ня будуць Прадстаўніцтву БНР перашкаджаць у ягонай дыпляматычнай дзейнасьці. Дыпляматычнае Прадстаўніцтва БНР у Канстантынопалі ў тым-жа, 1921, годзе заснавала кансуляты БНР у Баўгарыі й Югаславіі.

У ЗША паўсталі два цэнтры беларускай эміграцыі — у Ню Ёрку й Чыкага. У Ню Ёрку ў 1921 годзе быў створаны Беларускі Нацыянальны Камітэт і Камітэт Помачы работнікам і сялянам Заходняй Беларусі. У Чыкага — Беларуска-Амэрыканскі Нацыянальны Саюз (зь бібліятэкаю, асьветнай камісіяй і прэсавым бюро) і Беларуска-Амэрыканскі Клюб. Дзейнасьць гэтых арганізацыяў асібліва ажывілася, калі ў ЗША прыехаў былы прэм'ер Ураду БНР Я. Варонка. Ён ад кастрычніка 1926 году пачаў выдаваць у Чыкага газэту «Беларуская Трыбуна».

Арганізацыйнае жыцьцё беларускае эміграцыі ў Францыі пачалося ад 1926 году. Найбольш зактывізавалася яно ў 1930 годзе, калі з Прагі сюды пераехалі інж. М. Абрамчык і інж. Л. Рыдлеўскі, чыім стараньнем тут быў заснаваны «Хаўрус беларускай працоўнай эміграцыі» з цэнтрам у Парыжы й 5-цю філіямі на правінцыі. «Хаўрус» выдаваў свой часапіс «Рэха».

Некаторыя эміґранты ў Празе й Парыжы падпалі пад камуністычныя ўплывы. Адзін зь іх, М. Падгаецкі з-пад Менску — афіцэр расейскага экспэдыцыйнага корпусу ў Францыі, здэмабілізаваны ў 1919 годзе ў Парыжы — у 1927 годзе вярнуўся ў Беларусь і колькі гадоў працаваў карэспандэнтам менскай расейскай газэты «Рабочий». Расчараваўшыся ў камунізьме, ён уцёк назад у Фрацыю й выдаў там пафранцуску кніжку сваіх успамінаў «Чырвоная навальніца»[72]), паказаўшы ў ёй на канкрэтных выпадках з жыцьця запраўдны таталітарна-дэспатычны твар камунізму ў БССР.

У пошуках працы й лепшых умоваў жыцьця ў 1924-39 гг. із Заходняй Беларусі рушыла 7-ая хваля масавай беларускай эміграцыі. Меней — у Францыю (дзе, разам із эміграцыяй 6-ай хвалі, колькасьць беларусаў дайшла да 20.000 [73]), Бэльгію й Канаду; болей — у краі паўдзённай Амэрыкі, дзе, паводле прыблізных падлікаў Згуртаваньня Беларусаў у Аргэнтыне, разам із эміграцыяй 4-ай хвалі, іх было каля 350.000. 120.000 — у Бразыліі, 100.000 — у Аргэнтыне (зь іх каля 60.000 у Буэнос Айрэсе й ягоных ваколіцах), 60.000 — у Урагваю, 60.000 — у Парагваю й 10.000 — у Чылі [74]).

З гэтае хвалі эканамічнай эміграцыі нам ведамыя (апрача згадванага «Хаўрусу» ў Францыі) колькі беларускіх грамадзка-культурных арганізацыяў у Аргэнтыне (у Буэнос Айрэсе й на правінцыі): Беларускае Культурна-Асьветнае Таварыства, паўсталае ў сьнежані 1934 году, Беларускае Таварыства «Культура» зь бібліятэкаю імя І. Луцкевіча й Беларускае Таварыства «Белавежа», паўсталыя ў кастрычніку 1938 году.

У вапошнім годзе 2-ой Сусьветнай вайны, улетку 1944 году, перад новай акупацыяй Беларусі Чырвонай арміяй і зваротам на беларускія землі расейска-савецкага тэрору й дэспатыі, зь Беларусі пакацілася 8-ая хваля масавай беларускай эміграцыі. У ёй на Захад крануліся розныя нацыянальныя беларускія ўстановы, арганізацыі й вайсковыя фармацыі — Беларуская Цэнтральная Рада на чале з прэзыдэнтам Р. Астроўскім, Сабор япіскапаў Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы на чале зь мітрапалітам Панцялейманам, 10.200 сяброў [75]) Саюзу Беларускае Моладзі із сваім Галоўным Штабам, Слонімскі батальён Беларускай Службы Бацькаўшчыне [76]), Менская Беларуская афіцэрская школа [77]), некаторыя вайсковыя аддзелы Беларускай Краёвай Абароны [78]), Беларускі чыгуначны батальлён [79]) і г. д. Адначасна — шэраг сьвятароў усіх хрысьціянскіх веравызнаньняў. Беларуская інтэлігэнцыя — паэты, пісьменьнікі, кампазытары, артыстыя, навукоўцы, настаўнікі, лекары, юрыстыя, інжынеры . . . і сяляне.

Ехалі цягнікамі, выпадковымі аўтамі, ішлі на пяхоту — як хто мог. Сяляне — часам цэлымі вёскамі, абозам із дзецьмі й убогімі пажыткамі на вазох, запрэжаных коньмі ці каровамі. Шмат іх затрымалася ў Прусіі, дзе хутка Чырвоная армія іх насьцігла, пагнала назад. Лёс іхны невядомы.

Гэта была самая вялікая хваля беларускай палітычнай эміграцыі ў некалькі сот тысяч (без ваеннапалонных і прымусова вывезеных на працу). Хваля кацілася ў кірунку Нямеччыны, Аўстрыі, Чэха-Славаччыны, Даніі, Швэдыі, скуль пазьней, перажыўшы жахі невядомай да таго ў гісторыі прымусовай рэпатрыяцыі — выдачы вялікай ейнай часткі ўрадамі ЗША, Ангельшчыны й Францыі ў СССР — яна разьлілася па ўсяму сьвету. Апрача пазасталых у Нямеччыне й Швэдыі, найбольш — у Ангельшчыну, Бэльгію, Францыю, Аргэнтыну, ЗША, Канаду, Аўстралію. Меней — у Бразілію, Вэнэцуэлю, Марока. Невялікія групы (ці адзінкі) — у Італію, Гішпанію, Інда-Кітай, Новую Зэляндыю, Танганайку, на абток Мадагаскар . . .

Але гэта ўжо паза нашаю тэмаю, бо 8-ая хваля эміграцыі — ня нашыя папярэднікі, а мы самі. . .

56) Там-жа, б. 33.

57) Там-жа, б. XXXVII і документ № 40.

58) Там-жа, документ № 38.

59) Wielka Encyklopedia Powszechna, PWN, Warszawa, 1963, t. 3, s. 418.

60) «Восстание . . .» документ № 29 і зацемка 9 да яго.

61) Там-жа, б. 70.

62) Там-жа, документ № 24.

63) Там-жа, документ № 272.

64) A. H. Kirkor. O literaturze pobratymczych narodów słowiańskich, Kraków, 1874.

65) Час. «Полымя», Мінск, 1974 г., № 5, б. 197.

66) А. Смоліч. Эканамічнае становішча Беларусі перад вайной і рэвалюцыяй — Зб. «Беларусь» (пад рэдакцыяй А. Сташэўскага, З. Жылуновіча й У. Ігнатоўскага), Менск, 1924 г., б. 54.

67) БелСЭ, т. 12, Мінск, 1975 г., б. 55.

68) Большая Советская Энциклопедия, т. 30, Москва, 1978 г., столбец 475.

69) а. Язэп Гэрмановіч. Кітай, Сібір, Масква. Мюнхэн, 1962 г., бб. 8, 12-15 і інш.

70) А. Зимионко. Оккупация и интервенция в Белоруссии, Минск, 1932, стр. 33.

71) Тут мы не бярэм на ўвагу грамадзкага й культурнага руху на этнаграфічна-беларускіх землях былых Дзьвінскага, Люцынскага й часткава Рэжыцкага й Дрысенскага паветаў Віцебскай губэрні.

72) L'ouragan rouge, 2-e édition, Paris, 1936.

73) Алесь Вініцкі. Матар'ялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне ў 1939-1951 гг., ч. 3, Лос Анжэлас, 1968 г. (машынапіс), б. 114.

74) Bielorrusia y los Bielorrusos en la Republica Argentina, Editado por Asociacion Bielorrusa en la Argentina, Buenos Aires, 1953, pg. 48.

75) А. Вініцкі, ч. 1, бб. 14, 17. Паводле неафіцыйных інфармацыяў іх было ў Нямеччыне болей — 15-20.000 (Там-жа, б. 32).

76) Там-жа ,бб. 42-43.

77) Час. «Беларуская моладзь», Ню Ёрк, 1964, № 20, бб. 14-17.

78) Газ. «Раніца», Бэрлін, № 38(200) за 17-га верасьня 1944 г.; № 41(203) за 8-га кастрычніка 1944 г.; № 45(207) за 5-га лістапада 1944 г.

79) Там-жа, № 37(199) за 10-га верасьня 1944 году.

А. ЦЯУЛОУСКІ (Аргэнтына)

# ПАНЯМОНСКІ БОР

Гэй, ты Нёман, сьветлы Нёман, як-жа ты маешся? Тваіх цудаў і знароваў навек не забуду . . .

Помню, добра помню, калі васеньняю парою бор шумеў сваю адвечную калыханку, птушкі чародамі адляталі ў вырай, навокал пусьцела, а Нёман з дня на дзень зьнікаў у імгле шаругі. Пасівелі спакойныя воды, зацягнуліся бельмам туманаў. Старыя дубы скідалі на вецер пажоўклае лісьце . . . Сумна закаркаў крумкач з бору, рэха адбілася па лесе й заглохла. Ні птушкі, ні зьверы не выказвалі жыцьця. Усё замоўкла, неяк тулілася да маці-зямелькі чакаючы, што будзе далей, якія наступяць зьмены. Толькі старыя людзі казалі:

— Ой, дзеткі, не на дабро крумкач варожыць. Да пары Нёман цярпіць!

Шэра міналі дні. Цяжка было разрозьніць, калі пачынаўся ранак, а калі сумеркі. Валавяныя хмары прасоўваліся па чубкох дрэў. Набрыняў Нёман — падняўся крыху аспалы, выступіў зь берагоў ад Стоўпцаў па Стары Сьвержань, ад Альбуці па Сіняўскі лес.

Неяк зьнячэўку ўначы выскачыў марозік ды скляпаў сям-там ледзяны панцыр і прысадзіў ваду. Наступнай ноччу больш паправіў сваю справу . . . Сонца нібы ўсьміхалася, але без ветлівасьці й прыемнага цяпла, толькі заглядала касабокам з-за хмараў, як кітаец з-пад акуляраў. Вось так унезаметку надыходзіла зіма . . . Пасыпаўся сьнег на падмерзлую пасьцельку й забяліў усё наваколье. Толькі бор у Альбуці непаслухмяна трос галавою, горда паказваючы цёмназялёную чупрыну.

А па Нёмане й сьлед загінуў . . . Драпежнікі перасмыкалі ўздоўж і ўпоперак па закутых лёдам яго грудзёх. Людзі санкамі снавалі, не зважаючы на масты. Гэтую прыродную зьяву старыя людзі камэнтавалі па сваёму:

— Ой, гэтая зіма, ня сьцерпіць цябе наш Нёман . . .

Праўда, цішыня ня трывала доўга. Разгарэлася вайна . . . Узброеныя людзі пераходзяць то на адзін, то на другі бераг. Бор стаўся апякуном слабейшых і асланяў іх ад рознага ліха ды холаду. Тут чалавек зямлянкамі ўгрызься ў караністую зямлю, зжыўся з борам. І Нёман маўчаў . . . Аднак, калі дні даўжэлі, грудзі пачыналі напухаць, дзе-ні-дзе сьнег асядаў, раскісаючы ў безнадзейнасьці. Зьгінула яго шорсткасьць, белая пэўнасьць зьмянілася ў шэрую масу, проста чэзнуў са сьвету . . .

А бор, як заўсёды, шумеў сваю адвечную калыханку, прымаў зварачэнцаў з выраю простадушна без пагрозы.

Неўзабаве прачнуўся Нёман, выпраставаўся, адсапнуўся, аж паржавелы панцыр трэснуў. Выступіў зь берагоў. Ледзяныя крыгі з рэшткамі сьнегу прымерзлыя да дрэў, кустоў ды берагоў хацелі ўтрымаць у сваёй дысцыпліне, але Нёман ня даўся: расьпіхаў грамад-



Натальля Арсеньнева з школьнаю моладзьдзю ў Ню Ёрку ў 1960-х гадох.



**Адзначэньне 70-х угодкаў Натальлі Арсеньневай у Ню Ёрку. Др. В. Тумаш вітае юбілярку. На здымку таксама А. Адамовіч, кс. П. Татарыновіч, М. Кунцевіч і інш.**

ныя крыгі, штораз набіраў большае сілы. Цяпер ён забушаваў — засьпяваў сваю песьню, якой ня мог ані вецер заглушыць, ані бор паўстрымаць. Расьпіхаў крыгі, пашыраў берагі, набіраў разгону. Бяда й няшчасьце для дрэваў-сьмельчакоў, якія шмат гадоў пілі яго жыцьцядайныя воды, стройна глядзелі ў ягонае люстра, нават насьмейваліся зь ягонае дабраты. Цяпер разам з крыгамі, з карэньнямі рваў іх і нёс у далечынь.

А што-ж зь людзьмі? Людзі думалі, што жалезам з цэментам зашпіляць берагі для свае выгады, зрабілі мост. Нават цягнікі пусьцілі па мосьце. Гэта гонар людзкое тэхнікі: усё абдумана, падпора каменная, лёдарэзы стальныя, усё давінчана на шрубы. Ну, і што з таго, калі сабралася сіла нясумерная . . . Нёман крыгамі кідае, быццам ігрок картамі, паднёс ваду, і ўся людзкая мудрасьць пачала дрыжэць ліхарадкаю. Патрэбны быў лекар ды не абы які. Дзень і ноч стаялі людзі на месьце, узрывалі тротылам запоры. Вада зь лёдам пырскала фантанамі. Нёман патрабаваў ахвяраў, гэта й людзей не пакінула. Нёман зьнёс нейкія будынкі зь берагоў, а ў месьце Стоўпцы пачаў па вуліцах даходзіць да жылых будынкаў. Пакорныя жыхары пакідалі свае сялібы ды адыходзілі далей ад бяды. Нёман іх жывіў, Нёман можа забраць іх здабытак. Але Нёман ня мсьцівы — паказаў сваю моц і нэрвы ўспакоіў.

Гэтаю парою ні адзін рыбак не асьмельваўся ў душагубцы выплываць на яго воды, бо калі-б рушыў, то хто ведае ці вярнуўся-б . . . Можна было аглядаць шчупакоў, якія карыстаючы з паводкі пускаліся ў нераст па залітых лугох, а сьмялейшыя ў часе не вярнуўшыся ў свае бухты, аставаліся на пагібель. Нёман вярнуўся ў свае берагі, і шчупакі засталіся варонам на прысмакі.

Жыцьцё пачыналася нанова. Зазіхацелі ізноў серабрыстыя хвалі, а на дне прасьвечваў ясна-жоўты пясочак. Бор засьпяваў ня толькі сваю песьню, але басаваў зграям птушак, якія тут загаспадарыліся. Сонца ад самага ранку так люба ўсьміхалася, а наваколье быццам цяплом аддыхала. Нават плакучая бярозка павесялела выпускаючы зялёныя лісточкі, далікатна шумела.

Усё адыходзіла ў забыцьцё. Бліндажы, якія былі ўмураваныя на крутых берагох, зарасталі дзікім хмелем і ракітай, толькі дз-ні-дзе разьзявіўшы цёмную чэлюсьць запрашалі на прытулак вандроўных птушак. Паплылі стройным шнурком, як наваксаваныя жывіцай сасонкі, а зь імі неразлучна плытнікі са сваімі песьнямі . . .

Бор і Нёман іх карміў і атуляў ад злыбяды. За плытнікамі прыходзяць касцы, пахучы мурожнік скосяць, падсушаць і зьвязуць у гумна. Па скошанай сенажаці расплывецца гаспадарская жывёла. Рыбакі пачынаюць заглядаць пад карчы, або закідаюць сеці на глыбейшыя бухты. На Новасьвержанскіх пласкагор'ях залоціцца збожжа, пакуль ня прыйдуць жнейкі й пакінуць радкі ўложаных мэндлікаў.

Як-жа часта дудка пастушка падхопіць песьню плытнікаў, касцоў або жнеяк ды расплывецца ў бары далёкім рэхам. Тут захоўваўся багаты збор песьняў пад Купальле ці Пятроўку, а да гэтага даходзілі

гістарычныя з часоў Сушкі, Радзівілаў, паўстанцаў Аскеркі й з чужых войнаў. А старыя людзі мяркуючы па запоўненых даброи гумнах прыгаварвалі:

— Ой, ты Нёман, ты людзям часамі шкодзіш, але й дабром адплачваеш . . . А Нёман нібы разумеючы прыказкі старых людзей, заліваўся серабрыстым сьмехам у зьзяньні сонца.

Бор-жа, як з прадвеку шумеў сваю песьню, якая мяшалася з пчаліным звонам. Тут панаваў прыемны халадок прасычаны бальзамам жывіцы, пахам дзікіх кветак. Любіцелі птушыных галасоў маглі слухаць ўсю ноч салаўёў . . .

Наднёманскі бор ведаў усю гісторыю Нёману напамяць, — ані хваліў яе, ані дзівіўся ёй, толькі гарманійна злучаў усё ў вадну чароўную казку, — якая была праўдай жыцьця . . .

---

Міхась КАВЫЛЬ

## ВАСІЛЁЧКІ

Расьцьвіталі ў полі васілёчкі,
Васілёчкі ўсюды, дзе ні кінь . . .
Ой, чаму кароценькія ночкі,
Ой, чаму вялікія дзянькі?

Дзень цалюткі жыцейка я жала,
Мае ножкі, ручанькі баляць . . .
Ой, чаму ты, ночанька, так мала?
Няма часу зь мілым пагуляць.

Вунь ідзе дарожанькай каханы —
Перасталі, ножкі не баляць . . .
Ня будзі, матуленька, так рана . . .
Дзень цалюткі спрытна буду жаць.

Расьцьвіталі ў полі васілёчкі,
Васілёчкі ўсюды, дзе ні кінь . . .
Ой, чаму кароценькія ночкі,
Ой, чаму вялікія дзянькі?

Менск, 1943

---

Кожны інтэлігентны Беларус павінен самаахвярна й адважна змагацца за поўную незалежнасьць свае Бацькаўшчыны!

Уладзімер Глыбінны (ЗША)

# ВЯЛІКІЯ ДАРОГІ

(раман)

працяг

## 9. НАСУСТРАЧ НЕЧАКАНАМУ

Ня думаў, не гадаў Кастусь, што яму ізноў прыдзецца сустрэцца з тым, ад чаго ён у той-жа дзень уцякаў. Яму было няведама, што этап, які ён пакінуў на прывале, на прыдарожнай пасецы, пазьней абагнаў яго, калі ён салодка драмаў у ляску ў палоне трывожных бачаньняў. Яшчэ здалёк Кастусь заўважыў дзіўны натоўп людзей, якія прытуліліся на левым баку каля дарогі. Толькі дзе-каторыя зь іх стаялі наводдалі ад самае гушчы людзкога зборышча, што сядзела на зямлі, паадстаўляўшы ногі наперад. Калі падыйшлі бліжэй, Кастусь пазнаў, што гэта калёна зьняволеных. Але ён яшчэ не дапускаў думкі, што гэта тыя-ж людзі, зь якімі ён кагадзе ішоў і ўзьбіваў пыл на Магілёўскай шашы. Толькі калі параўнаўся зь імі, ён убачыў, што гэта тыя-ж самыя небаракі, зь якімі ён да сяньняшняе раніцы падзяляў лёс і з стану якіх яму пашэньціла гэтак неспадзявана выйсьці. А колькі фігураў наводдалі — нішто іншае, як канваеры з вінтоўкамі.

Вострае адчуваньне небясьпекі адразу ўкалола сьведамасьць Кастуся. Нешта нібыта абарвалася ў сярэдзіне, захаладзела нутро. Ногі адмаўлялі паслухмянасьці. "А што, як заўважаць, або нехта пакажа пальцам ды скажа канваеру: "Вось ён той самы бягляк, якога не далічыліся, як варочаліся з рачулкі. За яго нам усім было адмоўлена ісьці да вады. Гэта дзеля яго, гада, мы паўдня цярпелі смагу ды ледзь вытрымалі без вады. Хапайце яго людзі!" — рысавалася ўяўленьню Кастуся страшная сцэна, якой магла скончыцца здабытая адвагаю воля. "Але-ж хіба ім цяпер да мяне? Ды хто пазнае мяне, акрамя маіх аднакамэрнікаў? Ды й яны не павераць сваім вачам. Падумаюць, ім здаецца. Хіба магчымая такая мэтамарфоза: учора яшчэ быў разам зь імі, а цяпер на волі зь іншымі, вольнымі людзьмі. Хутчэй падумаюць, што якісь чалавек падобны да тога, які быў зь імі ў камэры. Дарэмна пужацца. Трэба ўзяць сябе ў рукі", — падбадзёрваў сябе Кастусь ды крочыў у тым-жа кірунку. Праўда, голаў ён увагнуў яшчэ больш у плечы й пастараўся трымацца далей ад краю дарогі, каб засланіць сябе ад вачэй этапнікаў. Аднак тут на дарозе, як на ліха, ня было шмат людзей, каб схавацца ад цікавых вачэй зьняволеных. Але тыя абыякава пазіралі на вольных людзей, праводзячы ўсіх аднолькавым паглядам зайдрасьці да лепшае долі.

Кастусь мусіў змагацца з жаданьнем глянуць на тых, зь кім яго лучыў нядаўні агульны лёс. Ён баяўся гэта рабіць дзеля небясьпекі.

Сілком пераадольваў спакусу зірнуць хоць краем вока на сваіх нядаўніх калегаў. Нарэшце, калі ўжо параўнаўся з этапам, ягоная цікавасьць узяла верх над пачуцьцём перасьцярогі. Ён рашуча павярнуў голаў у бок людзей, якія былі так блізка ад яго. За колькі мэтраў ад яго былі тыя, ад якіх яго цяпер адлучала, здавалася, непераходная мяжа. І вось дзіва, сярод зьняволеных, якраз бліжэй да дарогі, сядзеў чалавек у белым летнім гарнітуры й проста глядзеў на Кастуся. Ягоны пагляд выдаваў вялікае зьдзіўленьне, на твары віднела зьбянтэжанасьць, перамяшаная з радасьцю пазнаньня знаёмага чалавека. Ён нібы не верыў і пільна ўглядаўся ў Кастусёў твар, прымяркоўваючы, той гэта ці ня той, што яшчэ надоечы ў турме прыцягнуў ягоную ўвагу й якога ён надоўга запамятаў.

Кастуся аж абдало холадам. Ён маланкава адарваў свой пагляд ад сьвідруючых вачэй знаёмага па камэры агранома. Пазнаў напэўна, няма сумненьня. Вось, каб толькі ні сказаў каму іншаму. Канваеру ён ня скажа, можна спадзявацца, бо ён не такі чалавек", — мільганула думка, але ня прынесла спакою. І яшчэ доўга пасьля дарогаю адчуваў ён на сваёй сьпіне той-жа сьвідруючы зрок аграномавых вачэй. І далей ён ішоў ўтуліўшы голаў. "Быць вольнаму, ці ня быць? Жыць ці ня жыць? Варта толькі пальцам ткнуць на мяне канваеру, як адразу мне тут і канец быў-бы", — разважаў Кастусь. І ўраз ўва ўсёй жорсткай канкрэтнасьці ўспомніў апавяшчэньне перад пачаткам паходу: крок ўправа ці ўлева будзе лічыцца спробай уцёкаў і будзе карацца растрэлам на месцы. Вось тут і было-б гэта відавочным спосабам ажыцьцёўлена на маім прыкладзе, для навукі іншым вязьням.

І хоць Кастусь ужо далёка адыйшоў ад тога зласнага месца непажаданага спатканьня, аднак ён яшчэ доўга ішоў засмучаны й утрапёны. Ягоныя вочы выяўлялі спалох і трывогу. Новае знаёмства пачынала Кастуся бянтэжыць, наводзіла непатрэбныя думкі.

"Але-ж, як цяпер пазбавіцца гэтага дарожнага сяброўства? Ня кінеш-жа й не пабяжыш ад іх зьнянацку. Тады сапраўды што-небудзь благое падумаюць. Не, трэба чакаць лепшае нагоды, так, каб гэта выйшла натуральна й само сабою. Можа ў часе налёту, калі ўсе пабягуць у поле ці лес. Ці ў які небудзь іншы зручнейшы час. Гэта трэба зрабіць, каб ніякіх падазраньняў ня выклікаць ні ў іх, ні ў тых, каму яны могуць расказаць. А цяпер буду трымацца зь імі. Дайду да Сьмілавічаў, а там пабачу. Магчыма, адшукаю там свайго стрыечнага брата, пра якога калісьці чуў, што працуе ні то ў пажарнай камандзе, ні то ў міліцыі. Але як адшукаць яго?.. Ніякага адрасу ня маю... Прыдзецца пытацца ў людзей..."

Нечаканае відовішча перапыніла думкі Кастуся. Чамусьці людзі запыняліся каля прыдарожнае даўгое й глыбокае канавы, што цягнулася неадступна ўздоўж шляху. Кастусь таксама падыйшоў да краю й убачыў тое страшное, ад якога ён, кіруючыся дазнаньнем, і ўцякаў цяпер. Адзін за адным поруч на дне глінянага рова ляжалі забітыя людзі. За плячыма некаторых былі відаць сялянскія палат-

няныя кайстры. Выглядала, што іх яшчэ нядаўна гналі ў нейкім этапе з турмы й застрэлілі па дарозе. Дзеля таго, што ўсе яны выглядалі старымі й змарнелымі, Кастусю ясна ўявіўся абраз жахлівае расправы з тымі, хто ня мог пасьпяваць за ўсімі. Толькі за тое, што яны былі слабейшыя, мусілі разьвітацца з жыцьцём. Нелюдзі з рэвальвэрамі ў руках спакойна адрабілі сваю катнюю справу й пагналі іншых далей для чарговае расправы. У Кастуся ад абурэньня сьціснуліся кулакі. Вусны шапталі словы пракляцьця тым, хто адабраў жыцьцё бездапаможным людзям.

Адзін высокі й хударлявы стары, яшчэ стаяў у рове, абапёршыся аб гліняную ўзбочыну. Зьбялелы твар перасмыкаўся чырвоным струменем сьвежае крыві. Правая нага час ад часу сударгава ўздымалася ўгору й затым падала зьмярцьвелай долу. Па часе яна ізноў павісала ў паветры й пасьля, як дасюль, валілася ўніз. Напаўадплюшчаныя вочы нібы яшчэ прасілі літасьці, калі душа ўжо пакідала чалавека.

Далей ішоў Кастусь разважаючы аб страшной гіроніі лёсу, які зьдзекаваўся з людзкіх уяўленьняў аб справядлівасьці й дастачаў крыважэрнай машыне тэрору столькі ахвяраў, — працаўнікоў ральлі й духу, сыноў працоўнага народу. Яшчэ доўга відовішча тога рову стаяла ў ваччу Кастуся. А далей ізноў на вялікім жоўта-пясочным пляцы прыдарожнага ўзвышша, ляжалі доўгім шэрагам забітыя ў жаўнерскай зялёна-жаўтаватай форме замежнага пакрою. На гарачым сонцы іхныя твары распухлі, вочы павылупліваліся й тварылі жудаснае падобішча сьмерці. Людзі казалі, што гэта літоўскія жаўнеры, якіх давялі сюды, каб тут даканаць.

Кастусь пастараўся не запыняцца каля гэтых новых доказаў масавага забойства чалавека чалавекам. Крыху далей ля дарогі ізноў ляжаў забіты чалавек у чорным гарнітуры. Недалёка стаяў грузавік з колькімі чырвонаармейцамі на ім і патрулём на доле. Той тлумачыў зьдзіўленаму народу, што гэта ляжыць нямецкі шпіён.

Кастусь сабе падумаў: "Усе ў вас — шпіёны. Праўду казаў той Дастаеўскі ў "Бесах", што ўсе яны будуць у палоне шпіёнаманіі, кожны будзе адзін за другім шпіёніць і даносіць. Вось яна праўда, як абяртаецца. Простаму чалавеку гэтак убілі ў голаў пра паўсюдных шпіёнаў, што ён ужо не ўяўляе сабе забітага чалавека іначай, як шпіёна. А таго ня ведае, што кожнага, хто ў этапе не пасьпявае ісьці, таму канваеры да ілба дула нагана прыстаўляюць. Такі-ж гэта няшчасны чалавек, як і ўсе пазабіваныя на дарозе. А колькі іх сяньня ўслалі сабою бальшакі ўздоўж шырокага фронту — аднаму толькі Богу ведама!"

Зьнячэўку Кастусь зьвярнуўся да Ўсявышняга: "Памажы, Божа Ўсемагутны, ім, бязьвінным, да твайго багаслаўленьня дайсьці. А неразумным, якія ня ведаюць, якое яны зло твораць на зямлі, памажы дайсьці да розуму. Асяні іх зразуменьнем сваіх чорных справаў, твораных імі на жаданьне дыябальскае навалы, што апанавала нашу зямлю сьвятую".

Калі па дарозе да Сьмілавічаў ногі ўва ўсіх моцна падбіліся, яны

зьвярнулі ў першы густаваты лясок наводдалі ад дарогі. Там у зацішку яны затрымаліся. Вельмі-ж прыемна было нагам і ўсёй постаці адчуць асалоду адпачынку на мяккай траўцы й перасохлым імху, што суцэльным дываном слаўся ад аднаго дрэва да другога. Калі ізноў выйшлі на дарогу, сонца перайшло свой зеніт і пачынала хіліцца да долу.

— Ого, колькі мы ў лесе праседзелі . . . Паглядзеце на сонца, яно было проста над галавою, а цяпер ужо вунь да тых вяршалінаў наблізілася, — першым выказаўся аб гэтай зьмене малы Ягорка.

Калі ўваходзілі ў мястэчка Сьмілавічы, сонца села яшчэ ніжэй. Кастусь пачаў пакрысе пазбаўляцца ад свайго невясёлага настрою. Новя ўражаньні, прыліў бадзёрасьці, змусілі забуяць уздымным настроям. Ён ішоў ізноў з высока паднятымі вачыма, стараўся зацеміць усё, што пасылала доля ягонай цікаўнасьці. Ягоныя вочы стараліся не прапусьціць ніводнае зьявы, усяго таго, што тварыла жывы ход штодзённага местачковага жыцьця.

Кастусь уважліва прыглядаўся да драўляных пабудоваў. Неяк нечаспадзявана проста ў прасьцягу вуліцы ён ўбачыў могілкі з невялікай белаю царкоўкай пасярэдзіне, а вакол вялікі натоўп людзей. "Што за ліха, — мільганула ў галаве Кастуся, — няўжо яны ізноў абагналі мяне й цяпер расьселіся якраз на нашым шляху. Ня можа быць такога супадзеньня . . . Няўжо гэта лёс гэтак зьдзекуецца нада мною?"

Кастусь ізноў пільна ўгледзеўся ўперад. Яму здалося, што той-жа аграном, які гэтак узіраўся ў яго тады, цяпер ізноў сядзіць на першым пляне й якраз тварам насустрач Кастусю. "Гэта яны, — як электрычным токам праняла думку, — трэба мяняць кірунак хады. Але як гэта зрабіць? Не магу-ж сказаць аб гэтым Гэлі ці ейнаму бацьку. А марудзіць нельга. . ."

І вось наўсуперак развагам розуму, неяк інстынктоўна й нясьведама, Кастусь раптам запыніў крок, павярнуўся назад і, нічога нікому ня кажучы, спакойным крокам пайшоў да першага павароту вуліцы. Тут ён павярнуў налева. І як толькі апынуўся схаваным ад вачэй тых, зь якімі ішоў у кірунку могілак, ён пачаў бегчы. Ягоны розум у гэты момант не даваў сабе справаздачы, што гэтым, наадварот, ён мог прыцягнуць увагу да сябе іншых людзей у мястэчку.

Дабегшы да чарговага рогу вуліцы ён павярнуў направа, а затым налева. Прабегшы колькі кварталаў, ён супыніўся й прайшоў паволі некалькі невядомых вуліц. Сэрца моцна калацілася ў грудзях. Аддыхаўшыся, спытаў нейкае жанчыны, ці няма тут у мястэчку якое харчоўні, каб перакусіць ці чаго купіць зьесьці. Жанчына паказала кірунак, якім можна дайсьці да будынку сельска-гаспадарчага тэхнікума. Там, паводле ейных словаў, усім бежанцам даюць хлеб.

Крыху абнадзеяны, Кастусь хутка знайшоў тую тэхнікумскую камяніцу. Аднак, ужо было позна, ніякага хлеба больш не давалі. Казалі, што ўвесь раздалі.

Ідучы ні з чым, ён ўбачыў, што перад ім ізноў тыя могілкі, на якіх адпачываў этап. Праўда, на гэты раз могілкі выглядалі пасірацелымі.

Толькі адзінотныя ўцекачы-падарожныя дзе-ні-дзе прыткнуліся да зарослых дзірваном магілак, каб даць перадышку сваім нагам. Кастусь, асьцярожна аглядаючыся па бакох, каб не натрапіць на бяду, падыйшоў да могілік. Упэўніўшыся, што бяда мінула, а этап пайшоў далей сваім шляхам, ён прысеў на часінку на зваленую мармуровую пліту й прызадумаўся.

"Ну вось я й адзін. Каля мяне ні Гэлі, ні ейнага дапытлівага бацькі. А ці лягчэй мне? Здаецца, наадварот. Зь імі было хоць адчуваньне локця, што пад бокам ёсьць нейкія людзі, зь якімі магу гаварыць, дзяліцца ўражаньнямі. Усё-ж гэта неяк скрашвала маю адзіноту. А цяпер я застаўся ізноў з маімі трывогамі, якіх ніхто ня можа разьвеяць, адцягнуць маю настырлівую думку аб доме, пакінутых бацькох у Менску. О, Божа мой, што-ж зь імі цяпер? Як-бы я хацеў, каб ім Бог паслаў вестку, што я тут, жывы й здаровы, а галоўнае — на волі. Так, на волі! О, сьвятое слова в о л я ! Я цяпер маю цябе, я паўнапраўны чалавек, дарма, што гіцлі бегаюць побач, каб накінуць пятлю й запыніць жыцьцё. Але цяпер, калі што, жывым ня дамся. Лепш загінуць, чым стацца паслухмяным баязьліўцам. Калі я не пабаяўся кінуцца на волю амаль што з-пад дула нагана, дык цяпер падаўна пазмагаюся за яе. Цяпер маё права й мой сьвяты абавязак прыняць на сябе б о й да рэшты, як казаў той паэт. Я мушу прабіцца ў Менск, што-б гэта мне не каштавала. Хоць на дарогах стаяць заставы й страляюць кожнага, хто варочаецца ў Менск, я пайду й прайду. Я мушу пабачыць сваіх бацькоў. І ніхто мяне цяпер ня спыніць . . . Вялікая любоў будзе кіраваць мною на гэтым шляху. Іду . . ."

І ў гэты час нешта ўнутры яго зусім выразна й чутна, нібы ў голас, гаварыла: "Ідзі, ідзі . . . Там чакае цябе вялікая радасьць сустрэчы. У родным месьце, дарма што разбураным, ты залечыш свае раны й адшукаеш сваё шчасьце . . . Ідзі, ідзі . . ."

## 10. НА ПАЖАРЫШЧЫ РОДНАГА МЕНСКУ

Калі Кастусь вяртаўся ў Менск, наводдалі час-ад-часу ўзрывалася зямля. Даносіўся гул цяжкіх гарматаў. Падарожныя былі ў яўным страху. Найбольш людзей ішло зь Менску. Толькі некалькі сем'яў кіравалася ў бок места. Усе іншыя йшлі на ўсход уцякаючы ад ваеннае навалы. Было небясьпечна, каб хто ні запытаў, чаго яны сунуцца назад, калі ўсе ўцякаюць ад немцаў. Аднак звычайным уцекачом было ні да гэтых лічаных, што трымаліся іншага кірунку.

Кастусь ў дарозе пасябраваў з аднэю дзяўчынаю й яны разам чуліся неяк бесьпячней. Магло выдавацца, што маладая сям'я шукае сваю хату каля Менску. Надзя мела сёе-тое зь ежы, вось тым яны й падтрымвалі сябе. Яна кіраваліся ў бок Менску ў пошуках сястры й маці ў прыместавай вёсцы за Серабранкай. Калі заціхалі гарматы, яны патроху прасоўваліся на захад. Калі-ж пачыналася кананада, яны разам зь іншымі хаваліся ў лясох абапал дарогі. На другую раніцу яны ізноў выйшлі на дарогу. Па галоўнай дарозе на Магілёў

ужо гналі вялікія калёны аўтамашын і матацыклетак зь нямецкімі вайскоўцамі. Немцы не зьвярталі ўвагі на цывільных падарожных. Так прыйшло зразуменьне, што яны ўжо знаходзяцца на акупаванай зямлі. Гарматны гул адсоўваўся далей на ўсход.

— Цяпер, калі фронт мінуў нас і пасунуўся далей на ўсход, значыцца, што Менск ужо ўзяты й туды можна сьмялей кіравацца, — сказаў Кастусь Надзі. Аднак ён ня выказаў той палёгкі, якая абняла ягонаю душу ад усьведамленьня, што мінула небясьпека, якая пагражала яму, як уцекачу з этапу. Цяпер ён цешыўся свабодай, якая так нечакана прыйшла. "Канц усім страхам, — думаў Кастусь. — Нарэшце, я вольны й ня трэба баяцца людзей, што дзень і ноч асочвалі цябе й даносілі ў тую ўстанову, што наводзіла жах на ўсіх і ўся. Нарэшце, я вольны чалавек. Праўда, кіруюся ў родны Менск, акупаваны ворагам. Але спадзяюся, што гэты вораг ня будзе такім бязьлітасным да чалавечай годнасьці. Урэшце-ж, яны таксама людзі, хоць нам і чужыя . . .

Так развsituating ажаючы, Кастусь зрабіўся негаваркім. Надзя заўважыла перамену ў настроі Кастуся, ды не прыдавала гэтаму значэньня. Яна сама думала пра хуткую сустрэчу з сваёю раднёю, зь якой разлучылася год назад, калі пашла вучыцца на фэльчарскія курсы ў месьце Чэрвені. Цяпер ёй ня было іншага шляху, як ісьці шукаць сваіх родных, каб разам вырашыць, што рабіць далей. Кожны зь іх думаў цяпер пра свае турботы ды клопаты. Кастусь пачаў больш думаць пра сваіх бацькоў. "Дзе яны цяпер, што робяць у тым ваенным агні, што ахапіў, відаць, і іх хату?" Ён не згадваў свайго адзінага малодшага брата Сяргея, што загінуў у далёкім выгнаньні ў Сібіры яшчэ задоўга да вайны. Галава круцілася ад сьвідруючай думкі аб лёсе ягоных родных.

Перад увахoдам у Менск на дарозе стаялі нямецкія жаўнеры. Трэба было прайці праз іхні кантроль. Але ці прывыкаць Кастусю да гэтага. Ён сьмела падаўся да маладых, у шэра-зялёнай форме канваераў, якія на ўсіх паглядалі з усьмехам. Адзін з жаўнераў зьняў з Кастусёвай галавы шапку, і убачыўшы пастрыжаную галаву адно ўсьміхнуўся, відаць падумаў, што Кастусь з салдатаў. Аднак прапусьціў, нічога не сказаўшы. Пераступіўшы за мяжу кантролю, Кастусь пайшоў у места. "Маглі падумаць, што жаўнер варожай ім арміі, але нічога, у палон не бяруць, дазваляюць вяртацца ў места. Чалавек усюды мусіць спагадаць іншаму чалавеку, бо ўсе ад Бога . . . Вось-жа людзі ўсюды застаюцца людзьмі, калі імі не валодае чалавеканенавісьніцкая ідэялёгія".

Неўзабаве Кастусю прышлося разьвітацца з сваёй спадарожніцай, бо яна пайшла праз Серабранку да свае вёскі, а ён падаўся праз места па вуліцы Валадарскага, затым праз Пляц Волі ды Нізкі рынак, далей па Старавіленскай вуліцы да Сэмінарскага завулка. Ужо тут ён пабачыў на ўзгорку пажарышча. Толькі высокі комін застаўся на мейсцы тога дому, які ён пакінуў колькі дзён таму, калі яго забралі ў лёхі Менскае турмы.

На самым перакрыжаваньні вуліц Кастусь спыніўся й убачыў, што ўвесь правы бок вуліцы, як сягнуць вокам, ляжаў у руіне. Ніводнага дому на тым баку не захавалася. Яшчэ й цяпер дзе-ні-дзе дымелі рэшткі будынкаў. "Але дзе-ж бацькі?" — сьвідравала голаў думка. Недалёка прайходзіў нейкі чалавек. Кастусь яго запыніў і голасна запытаўся, ці ня ведае што-небудзь пра лёс людзей, што жылі ў гэтым згарэлым доме на ўзвышшы. Той ледзь пасьпеў паціснуць плячыма, што не, ня ведае, як з-пад яблыні на прысядзібнай зямлі пачуўся гэтак знаёмы Кастусю голас.

— Косьця!

Кастусь зірнуў у бок голасу, і аж затрымцеў ад раптоўнай радасьці.

— Мама! — толькі пасьпеў прамовіць і пабег пад тую яблыньку.

— Вы жывыя і, бачу, здаровыя. Дзякуй Богу! А дзе-ж бацька? — і ён пачаў абдымаць маці. Бацька сядзеў наводдалі на дошцы, пакладзенай на каменныя апоры. Ад узрушэньня ня здолеў рушыцца да сына. Так і сядзеў, калі да яго падыйшоў Кастусь. Кастусь падхапіў яго пад пахі ды прыўзьняў над зямлёю шэпчучы: "Дзякуй Богу, дзякуй Богу, што мінула вас гэтая ліхаманка. Важна, што жывыя, а па хаце не бядуйце, знойдзем другую. Цяпер у месьце шмат пакінутых кватэраў. Людзі паўцякалі ў чым стаяць. Як я цешуся, што вы жывыя . . ."

Маці тым часам паднесла сыну сухар з вадою. Гэта тое, чым яны жывуць пасьля пажару. Агонь так хутка ахапіў іх хату, што не прышлося шмат зь яе вынесьці. Ды ня было ў старых сілы выносіць рэчы ці кнігі. Маці колькі кніжак са стала захапіла, якія Кастусь перад арыштам чытаў вечарамі, ды вынесла іх у гарод. Ды яшчэ вынесла мяшэчак сухароў, што трымала на ўсялякі выпадак яшчэ перад вайною, бо людзі ўсё казалі, што вайна не за гарамі. А цяпер тыя сухары, як знаходка, жыцьцё ад голаду ратуюць. Маці пачала апавядаць пра здарэньні апошніх дзён. Кастусь уважліва слухаў і аглядаў навакольле. Бацькі гэтак і засталіся пасьля пажару сядзець на пажарышчы. Куды было дзявацца, калі ўсё скрозь гарэла . . .

Трымала старых пры сваёй, хоць і спаленай хаце, яшчэ й тое, што можа сын вернецца нейкім цудам і знойдзе іх на гэтым наседжаным месцы. Дзеля таго, што дзень пачаў хіліцца бліжэй вечару, Кастусь наважыўся таксама праседзець тут ноч. Ён выйшаў глянуць на вуліцу. Каля плоту былой сэмінарыі стаяў пакінуты грузавічок. Прайшоўшы каля яго, Кастусь заўважыў, што на ягонай плятформе ляжала адарваная нага ў жаночай панчосе. Пад нагамі валяліся скруткі тэлефоннага дроту, а між імі абарваныя з слупоў электрычныя правады. Хадзіць было небясьпечна, каб не наступіць на нешта небясьпечнае. Пасьля кароткай праходкі, Кастусь вярнуўся да бацькоў.

Тым часам сонца пачынала садзіцца. Трэба было думаць пра начлег. Маці расклала на зямлі сухую траву ды заслала яе прасьціною. На такім прымітыўным пасланьні ўсе разам леглі адпачываць. Маці яшчэ доўга расказвала Кастусю пра падзеі апошніх дзён. Яна расказала пра тое, як нямецкія матацыклісты спыніліся на рагу вуліцы

й абстрэльвалі адступаючых чырвонаармейцаў па вуліцы Горкага. У колькіх мэтрах ад іх стракаталі куляметы, праносіліся стрымгалоў машыны з узброенымі ваякамі, ішоў бой, але іх не чапалі. Гэтак і праседзелі, бадай што пад агнём, той дзень і ноч. Пасьля бой заціх, чуліся толькі далёкія адгалоскі гарматных узрываў . . .

— Трэба шчыра дзякаваць Богу, што ўратаваў вас ад няшчасьця, — сказаў Кастусь. Яго перамагаў сон. Усе заціхла . . .

## 11. НА ПРЫСЬВІСЛАЦКАЙ ЛУГАВІНЕ

На золаку Кастусь прачнуўся. Птушынае рознагалосьсе поўніла навакольле. Ён ляжаў і думаў пра свой лёс, пра сьвет, пражыцьцё. Думаў і пра свае кнігі. Ён іх марудна зьбіраў, ратаваў ад зьнішчэньня, а цяпер усё загінула ў вагні. А былі-ж гэта й “Гісторыя беларускага мастацтва” Шчакаціхіна й акадэмічныя выданьні М. Багдановіча, А. Гаруна, выданьні Інстытуту Беларускай Культуры. Былі творы беларускіх дзеячоў часоў адноснага лібэралізму, калі яшчэ можна было выдаць сёе-тое навуковае без аглядкі на ідэялёгію. Там былі, бадай што ўсе творы ранейшых маладнякоўцаў ды ўзвышэнцаў. Былі рэдкія рукапісы неапублікаваных ды забароненых твораў . . . Агонь зьнішчыў усё . . . Але зь лёсам трэба пагадзіцца. Трэба неяк пачынаць жыцьцё спачатку. . .

З гэтымі думкамі Кастусь падняўся, за ім усталі бацькі. Гэтак ажыла разбураная пажарам мясьціна й пачаліся звычайныя дзённыя турботы. Маці расклала агонь і між двума каменьнямі на жэрдцы павесіла імбрычак з вадой, каб заварыць гарбаты. Бацька тупаў больш для фатыгі каля сухароў. Неўзабаве сямейка пачала сьнедаць. Гаркавая гарбата ды сухары выдаваліся вялікім прысмакам. Наступіла летняя раніца. Паказаліся людзі. Адны шукалі сваіх родных, іншыя ішлі на пошукі чагосьпажыўнага. Ля Кастуся спыніўся чалавек з партфэлям. Ён выглядаў разгубленым і галодным. Яго запрасілі на гарбату. Незнаёмы з радасьцю прыняў прапанову. Ён жадліва паглынаў запіваны гарбатай сухар і апавядаў, што ён уцёк з свайго навукова-дасьледчага Інстытуту ў часе бамбардыроўкі места й з тога часу блукаў за местам. Пасьпеў захапіць толькі сваю працу ў партфэлі, і ад тога часу ня быў дома. Ня ведае, ці стаіць той дом, дзе ён жыў на прывакзальнай вуліцы. Людзі казалі, што ўвесь той раён згарэў. Расказаў ён Кастусю, што немцы ўсіх дарослых мужчын зьбіраюць на полі каля Драздоў. У месьце расклеяны абвесткі, што мужчыны ад шаснаццаці гадоў і да 60-летняга веку мусяць ісьці да тога месца. Хто ўхіліцца, таму пагражае сьмерць. Такі загад ваеннае камэндантуры.

— Выглядае, што й мне прыйдзецца ісьці, калі такі загад выдалі, — сказаў Кастусь. — Баюся толькі аднаго, каб не пагналі тых людзей у Нямеччыну, як палонных.

— Як-бы там ня было, але калі загад такі выдалі, значыць трэба ісьці, пакуль ліха перамелецца,— сказала маці, шкадуючы сына.

Счакаўшы, Кастусь схадзіў на рог вуліцы Максіма Горкага й сам прачытаў той загад. Загад выдаваўся вельмі суровым: за непадначаленьне адна толькі кара — сьмерць. "Трэба йсьці. іншага выхаду няма. Нельга адразу быць непаслухмяным, бо з вайсковаю ўладаю жартаваць цяжка," — наважыўся Кастусь ды вярнуўся да бацькоў. Яму было шкода іх, бо ня мелі кватэры, а дапамагчы ім ня было калі. Ён ня ведаў калі вернецца назад, можа гэта й зацягнуцца. Прыдзецца ім самым даваць сабе рады ды шукаць лепшы прытулак. Кастусь абняў маці й пацалаваў яе ў мокры твар.

— Ня доўга цешылася, бо кароткім выпала нашае спатканьне, — сказала маці. — Ну, але дапаможы Божа, каб усё было добра. Каб вярнуўся бяз шкоды. Маці Божая, абараняй майго сына!

І яна ізноў прыціснула да грудзей сына й пацалавала. Бацька наводалі сядзеў панурым. Кастусь разчулена разьвітаўся зь ім і пайшоў на вуліцу. За ім засталіся пагляды заплаканых вачэй бацькоў.

Ня доўга Кастусю прышлося быць вольным чалавекам. На былой Аляксандроўскай вулцы немцы ўжо гналі вялікую калёну такіх зьбіраных з усіх куткоў места мужчын. Яшчэ здалёку нямецкі канваер даў знак Кастусю, каб далучаўся да калёны. Калёна рухалася хутка, але гэта не перашкаджала немцам бясконца гарлапаніць: "Шнэль, шнэль, шнэль!" Людзі й бяз гэтага ледзь ні беглі, бо канваеры паслугоўваліся ўжываньнем прыкладаў сваіх стрэльбаў . . .

Якое-ж было зьдзіўленьне, калі людзей праз Пярэспу па дарозе ў Дразды падвялі да нізкага рэчышча Сьвіслачы, дзе ў вялікай, як вокам сягнуць лукавіне, на мокрым сподзе сядзелі й ляжалі ўжо тысячы такіх, як яны людзей. Загналі й іх у гэтую масу. Людзі ляжалі хто начым. Адны прымайстраваліся на коўдрах або нечым іншым, але большасьць сядзела на зямлі ў тым, у чым яны трапілі сюды. Відаць, найгорш прыходзілася людзям ноччу на гэтым балотным тарфяным полі. Аднак, больш уражала тое, што большыня людзей была галодная. Людзей сабралі сюды, але есьці не даюць. Некаторыя прынесьлі ежу з дому, але большасьць аб гэтым не падумала. Нятутэйшым было найгорш, ім ня было ніякае дапамогі. Іншым сваякі прыносілі ежу, але знайсьці свайго чалавека ў такім натоўпе ня было так проста. Трэба было выгукваць прозьвішча іншы раз даволі доўга.

Гэтак здарылася й з маці Кастуся. Ён даведаўся толькі праз гадзіну або дзьве, што ягонае прозьвішча дзесьці выгукаецца. Адшукаў маці зь цяжкасьцю, бо гэта было ня так проста ў такім скапленьні людзей. Маці прынесла збанок зупы й хлеба. Яны ўселіся на грудок, і Кастусь пачаў сілкавацца. Хутка маці трэба было вяртацца дамоў, і ці хочаш, ці ня хочаш, прышлося разьвітацца.

Па некім часе Кастусь прайшоўся праз усю даўжыню тае лугавіны й апынуўся ля ракі. Ніжэй плыла тая самая рака, якую ён любіў зь дзяцінства. Па той бок ракі хадзілі канваеры, пільнуючы інтэрнаваных. Але на гэтым беразе некалькі асоб плюхалася ў вадзе на жоўтым чыстым жвіры. Канваеры, здавалася, не зьвярталі на іх увагі.

Кастусь таксама наважыўся апусьціцца ў ваду. Нейкі мужчына, відаць, задалёка забрыў на той бок ракі, і канваер выстраліў па ім. Зірнуўшы на канваера, Кастусь хуценька вылез на бераг ды падаўся ад тога небясьпечнага месца. "Ліха ведае, што можа прыйсьці ў галаў таго канваера. Проста можа захацецца паказаць сябе гаспадаром-пераможцам і даць волю свайму жаданьню забіць нейкага "унтэрмэнша". Лепш далей ад бяды. Беражонага Бог беражэ!" — думаў Кастусь. . .

Вярнуўся на тое самае месца, дзе праседзеў ноч і раніцу. Недалёчка гурт людзей слухалі чалавека, які даводзіў, што нацыянал-сацыялізм — найноўшая й самая прагрэсыўная партыя ў сьвеце. Яна прапагуе справядлівасьць у Эўропе ды хоча пакласьці канец панаваньню плютакратаў і бальшавікоў. Канец бальшавізму ўжо відавочны . . .

Кастусь глянуў у твар прапаведніку новае ідэялёгіі, і аж зьбянтэжыўся. Ён адразу пазнаў тога самага "таварышча" Вечара, які згуляў ролю правакатара яшчэ ў канцы трыццатых гадоў. Гэта тады Вечар быў перакінуты ГПУ з Бабруйска ў Менск студэнтам Беларускага Пэдагагічнага тэхнікума, дзе ён выдаваў сябе за прыхільніка апазыцыйных групаў, уваходзіў у давер студэнцкай моладзі, каб вынюхваць іх думкі ды даносіць у ўстанову з трох літараў. Гэта ён прычыніўся да пазьнейшага арышту й выгнаньня Кастуся. Пазьней ён працаваў у Беларускім Унівэрсытэце, дзе выконваў сваю каінаву работу да самай вайны. А цяпер ён выступае прапагандыстам новай ідэялёгіі. Ёсьць-жа на сьвеце такія шэльмы й нягоднікі . . . І Кастусь пастанавіў трымацца далей ад такіх Хрыстапрадаўцаў . . .

Адышоўшыся далей, Кастусь усеўся сярод мірнае групоўкі людзей і мочкі наглядаў навакольле. Зусім нечакана зьявіўся малады немец у чорнай форме з рэвальвэрам на баку. Гаварыў ён крыху па-расейску. Спыніўшыся недалёка ад Кастуся, ён пачаў расказваць аб прывабнасьцях жыцьця пасьля нямецкае перамогі. Гутарка яго была зласьліва-нахабнаю. Потым ён дастаў наган і прыўзьняў яго высока над галавой, а затым хуценька апусьціў яго й выстраліў наўздагад у натоўп людзей . . . Безадказнасьць за жыцьцё людзей была відавочнаю . . . Адважны ваяка пайшоў . . . Людзі акружылі маладога чалавека з прабітаю нагою. Ніжэй калена цякла стужка крыві. Нехта перавязаў рану хустачкай. Ні бінту, ні ёду тут ня было. Прышлося раненаму аддацца на волю лёсу . . .

"Гадкі чалавек, — падумаў Кастусь і пайшоў бліжэй да выхадная брамы. — Дабра тут не дачакаешся. Трэба прыглядзіцца, ці няма якога ратунку з гэтага хаосу". Падыйсьці да брамы было ня лёгка. Сотні людзей ціснуліся да выхаду . . . А там, на драўляным узвышэньні немец ломанай расейскай гаворкаю выкрыкваў:

— Каторі тут немці, будіт выходзіл вперёд. Немці, каторі немці, на свобода . . .

Кастусь зразумеў, што гэта выпускаюць людзей нямецкага паходжаньня. Аднак такіх было мала . . . Некаторых Кастусь пазнаў. Ніколі ня думаў, што яны немцы. Выглядалі яны тут такімі-ж абдзёр-

тымі й жалю годнымі, як і ўсе іншыя.

Кастусь абіваўся каля брамы мусіць з гадзіну. Ажно чуе, што выклікаюць ізноў кагосьці. Ён прыслухаўся. Выклікалі вадаправодчыкаў. Ён ужо раней заўважыў, што праверка павярхоўная. Адважыўся назвацца вадаправодчыкам. “Абы выбрацца адсюль. А калі прыдзецца працаваць вадаправодчыкам, буду працаваць і ад іншых вучыцца”. А немец усё выкрыкваў‘

— Каторі труба чыніль, будзіт выходзіль. Каторі труба чініль, ідзі тут . . .

Аднак, выходзіла мала. Відаць, ня было тут вадаправодчыкаў. Кастусь дайшоў да брамы й назваўся. Яго прапусьцілі за браму. На полі за брамаю можа з дзесятак “спэцыялістаў” таўкліся ў чаканьні. Канваер у чорнай форме адвёў усіх у бок і пачаў правяраць дакуманты. Кастусь меў толькі вайсковы білет, бо пашпарт забралі пры арышце. У ім чорным па белым у графе аб прафэсіі было напісана: навуковы работнік. Кастусь баяўся, што выявіцца хлусьня. Але немец ня вельмі ўчытваўся. Зірнуўшы на дакумант, ён хутка вяртаў яго собсьніку. Затым паставіўшы ўсіх у шарэнгу, загадаў ісьці ў бок места. Усе рушылі ўперад. Праз колькі часу агледзеліся, што іх ніхто не праводзіць. Ступілі яшчэ колькі крокаў калёнаю, а затым рассыпаліся, і кожны пайшоў сваёй дарогай дамоў.

О, як прыемна было Кастусю ізноў адчуць сябе вольным. Ён ішоў Пярэсьпінскай вулкай у места й нібыта чымсьці ганарыўся. Чым, ён і сам ня ведаў. Адчуваў сябе нібы прывілігаваным . . . Жыхары Пярэспы выглядалі з-за весьніцаў сваіх домікаў і пыталіся, ці ўжо выпускаюць інтэрнаваных. Кастусь казаў, што толькі спэцыялістаў . . . А рэшта яшчэ за агарожаю . . . Кастуся бязьмежна радавала адчуваньне волі й жыцьця наогул. Моцна пахла цьвітучым язьмінам. Вочы ўбіралі рознакаляровыя фарбы кветак. Навокал усё выдавалася такім звычайным і штодзённым. Малыя дзеці безтурботна гулялі на вуліцах. “Трэба жыць, ізноў змагацца трэба за лепшую долю народу, за тыя ідэялы, якімі значылася ягонае маладое жыцьцё на пачатку жыцьцёвай дарогі,” — думаў Кастусь, ідучы дахаты. А хаты ў яго цяпер ня было. “Ды дарма, што няма дзе жыць, але ёсьць ідэя. Можа цяпер удасца аднавіць Беларусь ды здабыць ёй дзяржаўнасьць, — разважаў Кастусь падыходзячы да свайго пажарышча. Бацькі чакалі яго кожную хвіліну, бо разьнесьліся чуткі, што немцы пачалі вызваляць людзей ды адсылаць іх дамоў.

Радасьці не было канца, хоць і прыходзілася начаваць пад голым небам. Радасьць напаўняла сэрцы й Кастуся й ягоных бацькоў . . .

(далей будзе)

---

Змагацца за Вольнасьць, Роўнасьць і Незалежнасьць Беларусі — пачэсны абавязак кожнага беларуса!

---

В. СЕНЬКЕВІЧ (Гішпанія)

# ІВАН НАСОВІЧ

## Выдатны беларускі вучоны, лексікаграф, фальклярыст і этнаграф.

Адзін зь першых буйнейшых дасьледнікаў Беларускага Краю — Іван Насовіч нарадзіўся ў 1788 годзе ў вёсцы Гразівец ці Гразіўцы Быхаўскага павету Магілёўскай губэрні ў сям'і дзяка, пазьней рукапакладзенага ў сьвятары, у доме якога гучалі беларускае слова, беларускія песьні, захоўваліся народныя традыцыі. Адукацыю атрымаў у Магілёўскай гімназіі, потым у духоўнай сэмінарыі, якую пасьпяхова скончыў у 1812 годзе. З гэтага часу й пачынаецца напружанае працоўнае жыцьцё Івана Насовіча.

Спачатку ён працуе выкладчыкам вышэйшага адзьдзяленьня й інспэктарам у Аршанскім духоўным вучылішчы. Праз год ён быў пераведзены ў Мсьціслаўскае духоўнае вучылішча, дзе выкладчыцкую работу плённа спалучае з культурнаасьветніцкімі мерапрыемствамі сярод мсьціслаўцаў.

У 1818 годзе Іван Насовіч займае пасаду рэктара Магілёўскага духоўнага вучылішча. У 1822 годзе з духоўнага ведамства ён пераходзіць у Міністэрства народнае асьветы, якое даручае яму арганізацыю Дзьвінскай гімназіі. У Дзьвінску ці Дынабургу Іван Насовіч затрымаўся нядоўга й пераехаў у Маладэчна, пачаўшы працаваць наглядьнікам дваранскага пяцікляснага вучылішча. Хутка аднак пакінуў яго й перайшоў у Сьвянцяны на пасаду наглядальніка й выкладчыка расейскае славеснасьці.

Атрымаўшы раптоўна ў 1843 годзе адстаўку, Іван Насовіч пераежджае на сталае месцапражываньне ў Мсьціслаў. Тут ён у 55-гадовым веку купляе сабе домік, займаецца гаспадарчымі справамі ды літаратурнай і навуковай працай. Як зазначае Іван Цішчанка ў сваім нарысе пра Насовіча, зьмешчаным у часапісе «Полымя» за 1983 год: «Першай спробай пяра Івана Насовіча быў артыкул «Аб барацьбе набожнасьці з забабонамі і памылкамі ў часы старазапаветнай царквы». Няўрымсьлівая натура Івана Насовіча, — кажа Цішчанка, — шукала месца для прымяненьня сваіх нерастрачаных сіл і энэргіі не ў сямейна-гаспадарчых клопатах, а ў літаратурнай рабоце, у пільнай увазе да духоўных скарбаў свайго народу, да творчага асэнсаваньня яго багатай мовы, нарэшце, у выяўленьні самога сябе як асобы. Вось гэтая ўнутраная патрэба выказаць сябе залежала ад выбару поля дзейнасьці. Такім полем дзейнасьці, аблогаю, якая быццам стагодзьдзі чакала свайго гаспадара, руплівага й дбайнага, стала для Івана Насовіча, — працягвае аўтар нарысу, — мова й вусная паэзія беларусаў».

Цікавасьць да беларускай вусна-паэтычнай творчасьці ў Івана Насовіча выявілася яшчэ ў юнацкія гады. Пэдагагічная праца й інспэктарская служба, частыя зьмены месца работы й зьвязаныя з гэтым паездкі й пераезды па службе ў Воршу, Мсьціслаў, Магілёў, Маладэчна, Сьвянцяны, Дзьвінск, а таксама мэтавыя падарожжы па Магілёўскай, Менскай і Горадзенскай губэрнях, калі Насовіч знаходзіўся на пэнсіі, давалі яму магчымасьць паўней пазнаёміцца з жыцьцём народу, зь ягонай багатай вуснай творчасьцяй, дыялектнай мовай і рэгіянальнай лексыкай, адчуць жывыя асаблівасьці беларускіх гаворак, грунтоўна пазнаёміцца з народнай песеннай творчасьцю, сабраць багаты лексычны й фразэалягічны матэрыял з розных

рэгіёнаў Беларусі.

За зьбіраньне фальклёрна-моўных матэрыялаў Іван Насовіч узяўся жывучы ў Мсьціслаўлі. Праўда, ён не абмяжоўваецца Мсьціслаўшчынай, выяжджае ў розныя губэрні й паветы Беларусі. За некалькі гадоў зьбіральніцкай дзейнасьці ён назапасіў багата фальклёрных і моўных запісаў, якія, — як адзначае Іван Цішчанка, — давалі базу для пэўных вывадаў і назіраньняў, і ён робіць спробу навуковага асэнсаваньня сабраных разнастайных матэрыялаў. У 1850 годзе Насовіч дасылае ў Акадэмію Навукаў рукапісную працу, у якую ўвайшлі філялягічныя назіраньні над беларускай мовай, невялікі зборнік беларускіх словаў і калекцыя прыказак (каля тысячы твораў).

«Так, — кажа Цішчанка, — адбыўся хоць і запозьнены, але трыумфальны дэбют першага беларускага фальклярыста й мовазнаўцы. Упяршыню ў гісторыі айчыннай фальклярыстыкі Іван Насовіч паспрабаваў растлумачыць сэнс беларускіх прыказак і прымавак, паказаць генэзіс і функцыянальнае ўжываньне». Праца гэтая атрымала станоўчыя водгукі. Гэтак, паводле вядомага расейскага вучонага-славесьніка Ізмаіла Сразьнеўскага, яна заслугоўвала пільнай увагі ня толькі з прычыны велічыні зборніка, але й з прычыны ўнутранай яго каштоўнасьці. Насовіч бо ня толькі ўмеў узяцца за справу, умела дасьледваць яе, але зробленае ўмеў правяраць, гэта значыць быў аб'ектыўным, што, натуральна, выклікала давер да аўтара.

Акрылены першымі навуковымі посьпехамі, Іван Насовіч аддаецца любімай справе зь яшчэ большым запалам. Неўзабаве ён перасылае Сразьнеўскаму два новыя зборнікі фальклёрных твораў: адзін — легенды, паданьні, быліны, байкі; другі — песьні. Слоўнікавы матэрыял Насовіча Адзьдзяленьне Акадэміі Навук перадало Івану Грыгаровічу, выдатнаму беларускаму гісторыку, археографу й мовазнаўцу, які ў гэты час працаваў над «Слоўнікам заходнерускай мовы». Аднак раптоўная сьмерць 13-га лістапада 1852 году рэдактара прыпыніла работу.

Пасьля сьмерці Грыгаровіча, Іван Насовіч меркаваў, што Акадэмія запрапануе працягваць работу над слоўнікам яму. Да гэтай думкі схіляліся й некаторыя вучоныя ў Акадэміі. Але, як выглядае, глыбокі век Івана Насовіча прымусіў кіраўнікоў Адзьдзяленьня ўстрымацца ад такое пастановы, і справу перадалі маладому беларускаму мовазнаўцу Станіславу Мікуцкаму, які падаваў вялікія надзеі. Гэтую вестку Іван Насовіч успрыняў з болем, аднак рук не апусьціў. У 1853 годзе ён перасылае Акадэміі першапачаткавы варыянт складзенага ім абласнога слоўніка й просіць паведаміць, ці працягваць распачатую працу.

Археалягічная камісія Акадэміі й этнаграфічны Адзьдзел Рускага Геаграфічнага Таварыства прапанавалі Насовічу падрыхтаваць гістарычны слоўнік беларускай мовы паводле пяцітомнага збору Актаў і Граматаў Заходняй Русі XIV-XVIII стагодзьдзяў. Як адзначае Іван Цішчанка ў прыгаданым нарысе пра Насовіча, надрукаваным у кастрычніцкім нумары «Полымя» за 1983 год: «Каб ацаніць па-сапраўднаму ўсю складанасьць і цяжкасьць разгорнутай Іванам Насовічам новай работы, трэба прыгадаць той факт, што падобных слоўнікаў, якія маглі-б паслужыць аўтару ўзорам, у тагачаснай Расеі не існавала, ня было нават ніякай распрацоўкі прынцыпаў іх пабудовы».

Пяць гадоў напружанай працы аддаў Іван Насовіч слоўніку. У 1857 годзе праца была завершаная й прадстаўленая Акадэміі Навукаў. Слоўнік называўся «Альфабэтны паказальнік старых беларускіх словаў, выбраных з Актаў, што адносяцца да гісторыі Заходняй Расіі», і ўключаў 12 тысяч рэестравых слоў, якім

давалася тлумачэньне й лексыкаграфічная інтэрпрэтацыя. Давалася таксама этымалёгія многіх слоў, прытым словы лацінскага паходжаньня суправаджаліся лацінскай этымоніяй. Удала былі падабраныя й адпаведныя лексычныя эквіваленты расейскай мовы.

«Для ацэнкі слоўніка, — піша І. Цішчанка ў сваім нарысе «Першапраходзец», зьмешчаным у «Полымі», — была створана спэцыяльная камісія ў складзе буйнейшых вучоных-акадэмікаў Вастокава, Каркунова [redacted] Сразьнеўскага. Галоўны рэцэнзэнт Ізмаіл Сразьнеўскі адзначыў, што складальнік «выканаў сваю задачу з рэдкай цярплівасьцю й добрасумленнасьцю». Слоўнік быў своеасаблівым даведнікам у галіне граматаў і старадаўніх дакумантаў, дапамагаў чытаць і разумець іх. У рэцэнзіі на яго ўказвалася на арыгінальнасьць працы. «...пану Насовічу належыць яшчэ й тая заслуга, — пісаў Сразьнеўскі ў 1-ай кнізе 8-га тому «Запісак» Імпэратарскай Акадэміі Навук з 1865 году, — што такім чынам складзеная першая выдатная праца гэтага роду, таму што да яго ні па якім іншым адзьдзеле старажытных помнікаў рускай мовы не існавала слоўніка, падобнага паказальніку».

У 1865 годзе Акадэмія Навук гістарычны слоўнік Івана Насовіча ўдастоіла поўнай Увараўскай прэміі, камісія выказалася за надрукаваньне яго. Але, як зазначае Цішчанка, — лёс працы склаўся няўдала: яна **застаецца ў рукапісе** й захоўваецца ў бібліятэцы Акадэміі Навук СССР (у Ленінградзе). А шкада! Бо паводле сьведчаньня аўтарытэтных беларускіх вучоных-лінгвістаў, паказальнік ня страціў сваёй актуальнасьці ў нашы дні, паранейшаму застаецца буйнейшым дасягненьнем беларускай гістарычнай лексыкаграфіі. У распрацоўцы прынцыпаў пабудовы слоўніка Насовіч выступіў піянерам. Ён упершыню стыхійна ўжыў структурны аналіз пры гістарычным вывучэньні лексыкі, тэаратычныя асновы й практычнае прымяненьне якога атрымалі прызнаньне толькі спагадзя сто гадоў.

Адначасова з работай над паказальнікам І. Насовіч напружана працаваў над слоўнікам жывой беларускай мовы, займаючыся таксама й зьбіраньнем фальклёрных матэрыялаў. У той-жа час ён усьведамляў, што, займаючыся навуковай дзейнасьцяй у глухім правінцыянальным мястэчку, яму ня ўдасца зьдзейсьніць свае пляны. Насовіч адчуваў вострую патрэбу ў кваліфікаваных кансультацыях, у беспасрэдным кантакце з вучонымі-філялёгамі, патрэбу быць бліжэй да галоўнага тагачаснага цэнтру навуковай думкі — Акадэміі Навукаў і да фундамэнтальнай бібліятэкі. У выніку ён пераяжджае ў Пецярбург і ўладкоўваецца на працу ў Публічнай бібліятэцы. Пецярбургскі пэрыяд жыцьця для Насовіча (1864-1870 гады) аказаўся плённым, спраўдзіўшы ягоныя многія надзеі.

За калекцыю беларускіх прыказак (тры тысячы твораў) Рускае Геаграфічнае Таварыства ўзнагародзіла яго залатым мэдалём, а праз год выбрала Насовіча сваім сябрам-супрацоўнікам. Ягоны пераезд у Пецярбург спрыяў асабістаму знаёмству з выдатнымі вучонымі й выдаўцамі, адкрываў шырокія магчымасьці для друкаваньня. Пачынаючы з гэтага часу, амаль кожны год у друку зьяўляюцца ягоныя працы.

Гэтак, у 1867 г. асобным выданьнем выходзіць яго «Зборнік беларускіх прыказак», які годам пазьней перадрукавалі «Записки» Рускага Геаграфічнага Таварыства з прадмовай Івана Насовіча. У 1869 годзе ў тых-жа «Записках» друкуюцца «Дапаўненьне» да «Зборніка» й «Беларускія загадкі». У 1870 годзе выходзіць з друку «Слоўнік беларускай мовы» Насовіча. Праз тры гады Таварыства друкуе «Беларускія песьні, сабраныя Іванам Насовічам» зь вельмі цікавай прадмовай,

якая ўяўляе сабою асобную навуковую працу, а ў 1874 годзе выходзіць з друку яшчэ адзін «Зборнік беларускіх прыказак», у якім было зьмешчана 3.500 запісаў гэтых цудоўных згусткаў народнай мудрасьці. Праўда, далёка ня ўсе яны ёсьць прыказкамі. Каля аднэй чацьвертай часткі матэрыялаў зборніка складаюць прымаўкі. Але зборнік адразу стаў буйной зьявай у гісторыі беларускай фальклярыстыкі другой палавіны XIX стагодзьдзя.

Як адзначае І. Цішчанка ў сваім нарысе пра І. Насовіча: «І што важна, спагадзя больш сто гадоў з часу выхаду ў сьвет ён паранейшаму застаецца аўтарытэтным навуковым выданьнем, бо асноўнаю крыніцай пры яго падрыхтоўцы зьяўлялася жывая народная мова. Гэты зборнік Івана Насовіча, — кажа Цішчанка, — быў першым асобным выданьнем беларускіх прыказак і сьведчыў, што прыказкі як фальклёрны жанр у беларусаў моцна разьвіты й вылучаецца глыбокім зьместам і высокімі паэтычнымі якасьцямі. З прыказак і прымавак, надрукаваных Насовічам, паўстае вобраз беларускага народу-працаўніка, гуманіста патрыёта й інтэрнацыяналіста».

Значэньне зборніка Івана Насовіча «Беларускія прыказкі» яшчэ і ў тым, што ён выйшаў за рамкі фальклярыстыкі й стаў адначасна прыкметнай лінгвістычнай зьяваю, бо праз вусна-паэтычнае, прыказковае слова прадэманстраваў сілу й выразнасьць беларускай мовы, ейную прыгожасьць. Зборнік гэты заняў асобае месца ня толькі ў гісторыі беларускай фальклярыстыкі другой паловы XIX стагодзьдзя, але і ў фальклярыстыцы ўсходніх славян. На думку І. Цішчанкі, працу Насовіча «Беларускія прыказкі» справядліва будзе назваць фразэалягічна-тлумачальна-этымалягічным зборнікам. «Такога выданьня, — адзначае Цішчанка, — усходнеславянская філялягічная навука ня ведала». Ды й праз сто зь лішнім гадоў нічога падобнага ні ў беларускай, ні ў расейскай, ні ў украінскай фальклярыстыцы не зьявілася. Ня дзіва тады, што аўтар нарысу называе Насовіча першапраходцам, бо, — як ён кажа, — Насовіч «першы ў гісторыі ўсходнеславянскай фальклярыстыкі ўзяўся за справу, зьдзейсьніць якую не адважваліся масьцітыя фальклярысты».

Зь імем Івана Насовіча зьвязана таксама выданьне прыгаданага раней вялікага зборніка беларускіх народных песьняў, у якім зьмешчана некалькі сот тэкстаў і некалькі апісаньняў абрадаў. Галоўную частку калекцыі складае вясельная паэзія, астатнія песьні калядныя, жніўныя, жартоўныя, бяседныя, любоўныя, рэкруцкія, салдацкія, балядныя, калыханкі й іншыя. Паводле І. Цішчанкі, апублікаваныя Насовічам песенныя тэксты, за вельмі нямногім выключэньнем, вылучаюцца высокімі паэтычнымі якасьцямі. Асаблівую цікавасьць маюць разважаньні й назіраньні І. Насовіча над народнай песьняй, выкладзеныя ім у прадмовах да кожнага разьдзелу зборніка. Ён высока ставіў мелас беларусаў, як мастацкую творчасьць простага народу, падкрэсьліўшы, што песьня праўдзіва выказала пачуцьці й думкі «прасталюдзіна» й стала яго вернай спадарожніцай пры сама розных жыцьцёвых абставінах. Насовіч указвае на старажытнасьць песеннай творчасьці беларусаў.

Аднак вяршынёй зьбіральніцкай і навуковай дзейнасьці Івана Насовіча, асноўнай і найбольш значнай яго працай, якой ён аддаў трыццаць гадоў свайго жыцьця, ёсьць ягоны «Слоўнік беларускай мовы», які выйшаў з друку ў 1870 годзе. У ім сабрана й растлумачана звыш трыццаці тысяч слоў, уключаная вялікая колькасьць прымавак, прыказак і іншых арыгінальных народных выразаў і ўрыўкі зь песьняў.

Апрача філялягічных матэрыялаў у слоўніку шмат этнаграфічных вестак. Вылучаючыся арыгінальнасьцяй паводле задумы й багацьцем матэрыялаў, слоўнік

даволі поўна адлюстраваў жывую беларускую мову сярэдзіны XIX стагодзьдзя, ахапўшы ўвесь дыялекны ляндшафт тагачаснай Беларусі. Ён быў першым і грунтоўным дасьледаваньнем у галіне беларускай лексыкаграфіі, які адлюстроўваў багацьце лексычных рэсурсаў гутаркавай беларускай мовы. Выданьне яго стала вялікай падзеяй у культурным жыцьці беларускага народу; зьявай выключна знаменальнай, якая заклала асновы сапраўды глыбокага, грунтоўнага і ўсебаковага вывучэньня беларускай мовы. «Слоўнік беларускай мовы» Івана Насовіча — выключная зьява ня толькі ў беларускім, але наагул у славянскім мовазнаўстве. На ўсіх этапах разьвіцьця беларускай лексыкаграфіі ён служыў выдатным узорам на які арыентаваліся шматлікія ўкладальнікі перакладных двухмоўных слоўнікаў беларускай мовы.

Арыгінальнасьць гэтага слоўніка яшчэ і ў тым, што ён ёсьць фактычна тлумачальна-этымалягічна-перакладным слоўнікам. Гэта была адзіная ў сваім родзе праца ўва ўсходнеславянскім мовазнаўстве.

Як адзначаюць Камароўскі й Шадурскі ў сваім артыкуле «Вяха ў гісторыі мовазнаўства», надрукаваным з нагоды стагодзьдзя з дня яго выхаду, у тыднёвіку «Літаратура і Мастацтва» з 22-га студзеня 1971 году: «Слоўнік беларускай мовы» Насовіча зьдзівіў навуковую грамадзкасьць таго часу маштабнасьцю й глыбінёй дасьледаваньня лексычнага матэрыялу... У гэтым слоўніку дадзенае месца ўсякаму слову, якое ўжываецца ў беларускай мове. Побач з агульнаўжывальнай лексыкай, у ім разглядаюцца й тыя словы, якія вядомыя толькі ў асобных мясцовых гаворках або абмежаваныя сфэрай іх выкарыстаньня.

Асабліва каштоўным у слоўніку, — працягваюць аўтары артыкулу, — зьяўляецца надзвычай багаты лексычны матэрыял, які, нароўні з фанэтычнымі, марфалягічнымі й сынтаксычнымі асаблівасьцямі, надаваў беларускай мове асаблівы нацыянальны калярыт. Гэта перш за ўсё каранёвыя назвы і ўзьнікшыя на іх аснове афіксальныя ўтварэньні, пашыраныя ў народнай гутарковай мове, стылістычна нэўтральныя й сэмантычна ўстойлівыя. Побач з гэтай агульнавядомай лексыкай у слоўніку Насовіча, — кажуць Камароўскі й Шадурскі, — значнае месца займаюць словы, якія ў далейшым разьвіцьці беларускай мовы ня сталі літаратурнымі, а ўжываюцца ў некаторых сучасных гаворках як дыялектныя».

Каштоўнасьць слоўніка Івана Насовіча заключаецца яшчэ і ў тым, што ён дае магчымасьць прасачыць эвалюцыю лексычных значэньняў слоў, адміраньне адных словаў і зьяўленьне новых, якія адлюстравалі паняцьці новага часу, а таксама, што ён выходзіць за рамкі лінгвістыкі. Шматлікія прыказкі, прымаўкі, прыгаворкі, прыслоўі, фразэалягізмы, загадкі, урыўкі зь песьняў, прыведзеныя ў якасьці ілюстрацыйнага матэрыялу, маюць сваё самастойнае значэньне й з посьпехам выкарыстоўваецца сёньня дасьледнікамі народнай вусна-паэтычнай творчасьці й асабліва складальнікамі пры выданьні шматтомнага збору беларускага фальклёру. Як слушна адзначыў І. Цішчанка ў сваім нарысе пра Насовіча, сучаснае беларускае мовазнаўства ўзбагацілася выдатнымі перакладнымі, тлумачальнымі й этымалягічнымі слоўнікамі, але «Слоўнік беларускай мовы» Івана Насовіча застаецца жывым помнікам нацыянальнай культуры беларусаў».

Зьбіраньнем фальклёрна-этнаграфічных матэрыялаў і навуковым іх аналізам Іван Насовіч займаўся да канца свайго жыцьця (ён памёр 25-га ліпеня 1877 году). Працы-ж, якім ён аддаваў усё сваё жыцьцё да апошніх дзён, выходзілі ў сьвет і пасьля ягонай сьмерці.

За 30 год самаадданай навуковай працы Іван Насовіч сабраў і апублікаваў вялізарную колькасьць фальклёрна-этнаграфічных і мовазнаўчых матэрыялаў. Яны адыгралі вялікую ролю ў першапачатковы пэрыяд разьвіцьця беларускай навукі. Ня страцілі яны свайго значэньня і ў нашыя дні. Беларуская грамадзкасьць павінна быць удзячная выдавецтву «Беларускай Сав. Энцыкляпэдыі» й заходненямецкаму выдавецтву Ота Загнэра ды навукоўцам Фрайдгофу, Гарбачу й Косьце за факсымільнае перавыданьне «Слоўніка беларускай мовы» Івана Насовіча. Як вядома, беларускае савецкае выданьне адрозьніваецца ад першага тым, што ў яго ўключаны ў канцы кнігі «Дадатак да беларускага Слоўніка». Гэтыя 22 старонкі не парушаюць структуры выданьня, а сабраныя ў адно месца лексыкаграфічныя працы Насовіча значна дапаўняюць Слоўнік. Заходненямецкае выданьне ў двух тамах было зьдзейсьненае ў 1984-86 гадох. Абодва яны — цэнны ўклад у беларускую культуру.

---

Марыян Пецюкевіч (Польшча)

# У ПОШУКАХ ЗАЧАРАВАНЫХ СКАРБАЎ

## УСПАМІНЫ

(працяг)

### ЗАХОДНЯЯ БЕЛАРУСЬ У СКЛАДЗЕ ПОЛЬСКАЙ ДЗЯРЖАВЫ

Польская вайна з савецкай Расеяй закончылася Рыскім дагаворам, у выніку якога Заходняя частка беларускіх зямель апынулася ў складзе міжваеннай Польшчы. Хутка па заканчэньні вайны Польшча ўзялася за арганізацыю свае дзяржаўнае й адміністрацыйнае ўлады на акупаваных беларускіх землях бяз удзелу мясцовага беларускага насельніцтва. Дзясяткамі тысячаў з польскіх абшараў пацягнуліся бесьперапынным патокам чыноўнікі, паліцыя ды розныя «культурныя дзеячы», каб лепш і хутчэй узяць у клешчы гэтыя «адвечна польскія» землі й далучыць іх арганічна да «Macierzy».

Пачаліся арганізоўвацца й школы, але пра школы беларускія ня было нават мовы ў акупантаў. Польскія ўлады арганізавалі на беларускіх землях пачатковыя й сярэднія школы выключна польскія, а на настаўнікаў назначалі перадусім польскі імпартаваны элемэнт. З месных назначалі толькі тых асобаў, якія афіцыяльна залічалі сябе да польскай нацыянальнасьці й пры тым так-сяк ведалі польскую мову. Гэтым ня зусім дапечаным і мала кваліфікаваным настаўнікам арганізоўваліся спэцыяльныя пэдагагічныя курсы, на якіх загартоўвалі іх у нацыяналістычным духу, пашыралі іхную агульную й пэдагагічную веду ды вучылі мэтадаў апалячваньня беларускіх дзяцей. Бацькі заахвочвалі й мяне рабіць стараньні, каб трапіць на настаўніцкую працу. Лічылі яны мяне адпаведным кандыдатам, як былога памочніка ў іпаўскай школе й «дырэктарам» у цяцерскай.

Не хацелася мне йсьці на такую рызыку, але ня мог супраціўляцца бацьком, якія жадалі мне толькі дабра ды лепшай будучыні. Паслухаў іх. Напісаў папольску, як умеў, «поданьне» школьнаму інспэктару ў Глыбокім (тэй парою наша ваколіца

належала да Глыбоцкага павету) і, карыстаючы з аказіі, з бабуляй у трэйцім калене, Мядзьведзіхай, паехаў асабіста да інспэктара са сваім «поданьнем».

Ня ведаю, хто ў інспэктараце прыняў мяне, нясьмелага, сьціплага вясковага хлапчыну, сам інспэктар, ці які чыноўнік зь мясцовых глыбоцкіх мяшчанаў або акалічных шляхтуноў. Узяў ад мяне «поданьне» й пачаў чытаць. А я стаяў перад ім і чакаў зь вялікай трывогай і хваляваньнем, як прысуду на катаргу. Скончыўшы чытаць, нешта запытаўся ў мяне і, іранічна паглядзеўшы на «кандыдата» ў настаўнікі, сказаў: "Jaki z ciebie może być nauczyciel, chłopcze, jeżeli ty nie umiesz rozmawiać po polsku i pisać. U was wdomu chyba poprostemu rozmawiają? . ."

Я кіўнуў галавою на пацьверджаньне ягонай здагадкі. Наша кароткая гутарка аб прыняцьці мяне на працу настаўніка кончылася тым, што той чыноўнік, ці можа й сам інспэктар, мне параіў: "Jedź, chłopcze, do domu i pomagaj ojcu w pracy przy gospodarce". Пераначавалі мы з бабуляй у ейнай сястры ў Глыбокім і па сьнеданьні паехалі дамоў. Так, іншага выхаду ня было як брацца за канкрэтную працу, пазбыцца фантазійных нерэальных плянаў ды мараў на «лёгкі хлеб». Ажно да позьняй восені працаваў я на гаспадарцы, а вольныя хвіліны пасьвячаў на чытаньне кніжак.

Ад гэтага часу пачынаецца новая старонка ў гісторыі майго жыцьця. Гэты новы паварот бяссумлеўна вызначыў маю будучыню.

Мой бацька бачыў маю схільнасьць і моцнае жаданьне да навукі, хоць сам быў поўанальфабэт. Ён дацэньваў маю цягу да веды й асьветы, але ня было ніякіх сродкаў да стварэньня магчымасьці вучыцца. У пачаткавую школу я быў перарослы, у сярэднюю малаграматны, а прыватна рыхтавацца ў гімназію ня было за што наняць карэпэтытара. Хацелася ў рай, але «грахі» ня пускалі. «Прадукцыя» нашай трохдзесяцціннай гаспадаркі з адной каровай і адным сьляпым канём Мішкам ня была ў стане забясьпечыць нармальнай вэгетацыі дзевяціасабовай сям'і, а скуль-жа маглі быць сродкі на навуку?

Аднойчы мой бацька даведаўся ад барадзеніцкага пробашча, ксяндза Віктара Шутовіча (беларуса), актыўнага грамадзкага дзеяча, аб тым, што ад 1919 году ў Вільні існуе беларуская гімназія (прыватная), а таксама даведваецца й аб адкрыцьці польскай гімназіі ў Дзісьне. Гэта найбліжэйшая нам сярэдняя школа (80 вёрст ад Цяцерак). Ксёндз Шутовіч раіў майму бацьку лепш паслаць мяне ў беларускую гімназію. Аднак, практычна абмяркаваўшы гэтую справу, пра Вільню й мовы не магло быць. Далёка, дарагі даезд, і зусім няма сродкаў ані на кватэру, ані на аплату за навуку ў прыватнай беларускай гімназіі. Калі ўжо адважыцца на маю навуку, дык заставалася паслаць толькі ў Дзісну.

І так, абмеркаваўшы ўсебакова справу мае навукі было канчальна вырашана паслаць мяне ў дзісенскую гімназію. Думалася, тут пад бокам будзе каштаваць толькі кут, а харчы з дому падашлюцца.

На шляху да рэалізацыі гэтай пастановы былі яшчэ вялікія перашкоды, менавіта: каб быць прынятым у польскую гімназію перш-наперш трэба было ведаць польскую мову, вусную й пісьмовую паводле школьнай праграмы. А я ня ведаў ні праграмы, ні мовы ды ня ведаў нават у якую клясу падавацца. У ніжэйшыя клясы ня мог трапіць, бо шмат перарослы. Апрача гэтай, былі яшчэ й іншыя перашкоды, аб якіх афіцыяльна не гаварылася — гэта няпольская нацыянальнасьць і мужыцкае паходжаньне. Усё гэта не давала добрых прагнозаў трапіць нават у дзісенскую гімназію.

## РЫХТАВАНЬНЕ У ГІМНАЗІЮ

Неяк бацька даведаўся, што ў нашым валасным мястэчку Ёды, польскія ўлады адкрылі сямікласную пачаткавую школу, у якой працуе аж чатыры настаўнікі. Кіраўніком яе назначаны дэмабілізаваны капраль Франьцішак Бажык, вельмі «адукаваны» чалавек. Ён ахвотна возьмецца падрыхтаваць мяне ў дзісенскую гімназію па ўсіх прадметах (на польскай мове). «За аплату таргавацца ён ня будзе», — так сказаў дзядзька маёй маці, Адам Даргель — сталы жыхар Ёдаў, які пры кожнай аказіі ганарыўся сваім «мяшчанствам». «Я-ж вам не які мужык падобскі ці цяцерскі, а ёдзкі мешчанін». І вось гэты «мешчанін» заахвоціў майго бацьку наняць пана кіраўніка для рыхтаваньня мяне ў гімназію. І так, падагнаўшы ўсе асноўныя работы ў гаспадарцы, позьняй восеньню бацька прывёз мяне ў Ёды і ўладкаваў на кватэру ў дзеда Адама Доргеля (ёдзкага мешчаніна). Бабуля называлася Ганна. Жылі яны самі, абое былі вельмі пабожнымі. Кожнае нядзелі, незалежна ад надвор'я, езьдзілі маліцца ў барадзеніцкі касьцёл — 10 км. ад Ёдаў. За кватэру й харчаваньне бабуля Ганна проста й шчыра сказала майму бацьку: «Калі будзеш вучыць яго на ксяндза, то нічога зь цябе ня возьмем». Відаць, бацька мой згадзіўся на ўмову, бо старыя дагаджалі мне, як свайму роднаму сыну, і вельмі сачылі за маёй пабожнасьцяй. Я кожны дзень, і ўраньні і ўвечары мусіў маліцца, укленчыўшы перад абразамі, разьвешанымі на покуці. Чым даўжэй маліўся, тым смачнейшыя й тлусьцейшыя бліны пякла мне бабуля Ганна.

Кіраўнік школы Ф. Бажык сапраўды не таргаваўся за падрыхтоўку. Быў ён халасьцяком і таму, хіба, жыў на «падножным корме» — на сухіх харчох, бо ў Ёдах ня было яшчэ сталоўкі. Ён сказаў бацьку:

— Wynagrodzicie mnie prowiantem: masło, jajka, słonina, ser i czas od czasu chleba bułkę przywieziecie.

Такая заплата кіраўніку за маю навуку не была пад сілу маім бацьком. Для нашай сям'і ўсяго гэтага не хапала. Ну, але неяк давалі рады, бо часамі й бабуля Ганна памагала сырам ці кавалачкам сала заплаціць кіраўніку. Навука ў Бажыка працягвалася ад кастрычніка да травеня. Заняткі адбываліся толькі вечарамі, бо ўдзень Бажык заняты быў у школе.

Было нас трох перарослых кандыдатаў у дзісенскую гімназію. Бронька Карсон зь вёскі Густаты, Антось Тоўкань зь Ёдаў і я. Узровень нашай веды быў аднолькавы. Розьніца між намі была тая, што Бронька Карсон быў вельмі здольны да матэматыкі. Ён любую мог рашыць задачу без паясьненьня й дапамогі Бажыка. Да прадмету гуманістычнага больш сьхільнасьці й здольнасьцяў меў я, а Антосю Тоўкіню ўсё ішло тугавата. Штопраўда, ён вялікіх аспірацыяў ня меў. Хацелася яму крыху падвучыцца пісаць папольску і лічыць, каб дастаць працу пісарчука ў воласьці, дзе ягоны дзядзька Вільгельм Тоўкінь быў пісарам, прытым заядлым ворагам беларусаў. Кандыдатамі ў дзісенскую гімназію былі толькі Бронька Карсон і я, а таму сваю падрыхтоўку трактавалі мы сур'ёзна. Але, як пазьней аказалася, пан Бажык і сам ня меў адпаведнай адукацыі, каб нас падрыхтаваць за тры клясы гімназіі. Пакуль ягоная веда ня вычарпалася, мы карысталі зь ягоных лекцыяў. Усё-ж навучыў чатыры арытмэтычныя дзеяньні, крыху працэнтаў і прапорцыі, так-сяк пісаць і чытаць папольску, ну й прытым гаварыць. Але як дайшло да пачаткаў альгебры, геамэтрыі ды фізыкі, то тут заграз і сам наш «прафэсар». Прытым ані Бажык, ані мы ня ведалі, дзе граніцы сярэдняй школы, ня ведалі, чаго

мы й зь якіх падручнікаў вучымся. Усё йшло ў сьляпую. Калі Бажыкова веда цалкам вычарпалася й ён ня мог нічога новага навучыць, пачалася «навука музыкі». Сам Бажык іграў на мандаліне, я пілікаў на іскрыпцы, а Бронька бздрынкаў на гітары або балалайцы. Зьбіраліся мы штовечару на сыгрыўку. Да нашага трыё далучыўся й Антось Тоўкінь з цымбаламі. Вечары мінаді хутка й даволі весела, але падрыхтоўка адбывалася днямі саматужна. Бронька падцягваў нашу групу ў матэматыцы, а я ў гуманістычных прадметах. Бажык быў карысны для нас толькі ў нямецкай мове, бо ён сам паходзіў з тэй часткі Польшчы, якая была пад аўстрый-скай акупацыяй. Нямецкая мова ў мяне падавалася гладка, бо я любіў пафарсіць перад равесьнікамі сваёй «высокай адукацыяй». Затое для Броньkі была гэтая мова кітайскай граматай.

У часе навукі ў Ёдах мы кожнае сыботы адпраўляліся дамоў, каб выкупацца ў сваёй лазьні, зьмяніць бялізну ды сустрэцца з родзічамі й суседзямі, па якіх зажурыліся за тыдзень. А таму, што нам стукнула па семнаццаць гадкоў, то хоць і сарамліва, але ўжо заглядаліся на дзяўчатак, пакульшто сваіх равесьніц-суседак. Хадзілі на вясковыя вечарынкі й нават прабавалі тое-сёе станцаваць. Кажнага панядзелку з сумам у сэрцы пакідалі мы — я свае родныя й блізкія майму сэрцу Цяцеркі, а Бронька Густаты — і, спусьціўшы галовы, панура вярталіся ў асяродзьдзе мястэчка Ёды, да якога ніяк мы ня прывыклі за паўгода й не знайшлі тут нікога блізкага й сардэчнага для нас. Усе глядзелі на нас звысока, з пагардай, падкрэсьліваючы сваю важнасьць, сваю лепшую катэгорыю грамадзянства. Для мяне роднымі, блізкімі, сардэчнымі былі толькі дзядуля Адам і бабуля Ганна, якая не пераставала верыць у тое, што я «выйду» на ксяндза, і каб гэта зьдзейсьнілася, малілася шчыра на гэту інтэнцыю. А я тымчасам, вытыпаваны бабуляй Ганнай і цёткай Паўлінай (цяцерскай) кандыдат у ксяндзы, якому з кожным днём выступаў гусьцейшы пушок пад носам, пачаў спадцішка заглядацца на местачковых дзяўчатак і адважней захоўвацца пры сваіх вясковых равесьніцах. Дома я баяўся здрадзіць сваю зацікаўленасьць дзяўчатамі перад цёткай Паўлінай, а ў Ёдах перад бабуляй Ганнай, бо тут мог-бы пазбыцца кватэры й добрых харчоў. Аднак усё адбывалася згодна з правам натуры, усё йшло ў пары з гадамі ды фізычным і разумовым разьвіцьцём. У сэрца непрарыўнай смугой закрадалася чыстая цяга да адменнай плоці, нейкая туга па нейкім анёле, які дае нейкае духовае шчасьце. Тужыў і сумаваў па дзяўчыне, якую хацелася пакахаць чыстай душой і гарачым сэрцам.

Мроі хутка збыліся, а зь імі нарадзіўся духовы неспакой. Гэраіняй маіх лятункаў, думак, тугі й неспакою сталася красуня на ўсё наваколье — Геня Шпачышка зь вёскі Барадзенічы (ці, як у нас называлі — Бардзінічы). Была яна дачкой сьветлага селяніна Юстына Шпака (Шпаковіча), які з прычыны малазямельля бальшыню свайго жыцьця праводзіў на мястовых працах у Пецярбурзе, ды Рызе. Быў гэта мужчына гарманічнага складу, высокі, стройны, прытым з багатымі духовымі вартасьцямі. Хоць малапісьменны, але адароны здаровым розумам, рассудкам ды развагай, чалавек з прагрэсыўным сьветапаглядам, палітычна ўзброены. А жонкай яго, значыцца, маці Гені была Ганна Рыдзічышка з тэй-жа вёскі, калісь выдатная красуня, энэргічная, зарадная жанчына. Была яна на ўсю вёску правадыркай у «бабскім царстве», першая й да «танцу й да ружанцу», галасістая выканальніца народных песьняў.

А дачушку яна спарадзіла яшчэ хіба лепшую за сябе. Прырода ўзнагародзіла

Геню ўсім найлепшым, што мела ў сваіх засеках. Але ня доўга яна красавалася на гэтым Божым сьвеце й упрыгожвала яго сваёй прыгажосьцяй, песьціла саймі гарачымі вачыма. На васемнаццатым лецейку, пасьля доўгай, але скрытай ды нявылечальнай хваробы, разьвіталася назаўсёды з родзічамі, з роднай вёскай, зь сяброўкамі й сябрамі, з гуртком беларускае моладзі, з хорам, з калектывам беларускай мастацкай самадзейнасьці ў Барадзенічах, зь беларускай песьняй, якой сваім выкананьнем чаравала слухачоў, што прыходзілі ў народны дом духова адпачыць. Тады яшчэ неасэнсаваная хвароба, сухоты, вырвала зь вянка беларускай актыўнай моладзі найпрыгажэйшую кветку — Геню Шпачушку, па якой сумавала і ў вечны шлях праводзіла шматлікая навакольная беларуская моладзь. На магілу Гені сплыло многа гарачых сьлёзаў родных, блізкіх і сяброў. Галасьба зь імправізаванымі прычытаньнямі разьдзірала сэрцы прысутных і, здавалася, разгоніць цёмныя хмары, якія засланілі неба й ахуталі душы прысутных. Плакалі ўсё й плакала неба. Ад імя беларускай арганізацыі моладзі прамаўляў я над магілаю Гені. Да выступленьня я зусім не рыхтаваўся. Прамова мая, хоць і перапоўненая камякамі, што сьціскалі горла, была нейкая асаблівая, не ксяндзоўская, а нейкая іншая, якая плыла ад сэрца й да халоднага сэрца Гені, да збалелых горам сэрцаў усіх прысутных на магілках. Я перад сабою ня бачыў ні магілы, ні жалобных людзей. Я ўпіўся вачыма ў несправядлівае неба, якое вырвала ад нас, якое вырвала з майго сэрца Геню назаўсёды. Я нешта імправізаваў, а ўсе прысутныя плакілі, галасілі...

## НА ЭКЗАМЕН У ДЗІСНУ

Рыхтаваньне да гімназіі закончылася ўвесну. Пан Бажык стараўся пераканаць і нас і нашых бацькоў, што мы падрыхтаваныя з усіх прадметаў больш, як у 4-ю клясу. Значыцца, няма чаго дрыжэць перад экзаменамі. Але ані наш «прафэсар» Бажык, ані мы ня ведалі, чаго будуць экзамінатары вымагаць ад нас. І ніхто ня ведаў, у якую клясу здаваць экзамены. Урэшце пастанавіў Бажык, сказаўшы: «У пятую клясу можа крыху замала падрыхтаваныя, у чацьвертую-ж аж занадта добра».

У заяве, высланай у дзісенскую гімназію, прасілі мы залічыць нас у кандыдаты 4-е клясы. Аб даце ўступных экзаменаў паведаміла нам дырэкцыя гімназіі загадзя, і гэтая вестка прымусіла нас рыхтавацца яшчэ больш інтэнсыўна.

Канец школьнага году быў наступным актам на сцэне, на якой разыгрывалася драма ў пошуках зачараваных скарбаў. Гэта прыпала на канец вясны і пачатак лета 1922 году. Трэба было здабываць штурмам «доты» дзісенскай гімназіі. Наладаваныя поснай, лёгкай ведай у пана Бажыка, адправіліся мы з Бронькам Карсонам пехатой у далёкую дарогу (каля 80 вёрст). Маці нашыя падрыхтавалі нам хатулі, у якіх было па бохану хлеба, па сыру, крыху сала й ручнік. Мыла тады яшчэ ня было даступнае для вясковых людзей. Бацькі далі па пару злотаў на дробныя выдаткі, каб заплаціць за начлег, паблаславілі нас, і мы ў добры час падаліся на ўсход.

За адзін дзень, нават так рана выйшаўшы з дому, мы не маглі перамагчы такую адлегласьць. Прыблізна на паўдарозе давялося начаваць. Таму што абодвы мы былі сарамлівыя, то не заходзілі нідзе прасіць ані яды, ані вады, ані нават начлегу. Як пацямнела, мы зайшлі ў нейкае гумно, што стаяла блізка пры дарозе, але аддаленае ад хаты, і, выбраўшы там адпаведнае месца зарыліся ў леташнюю салому,

што пахла мышамі, ды пераспалі. Рана-раніцай прабудзіліся ад галасьлівых пеўняў ды рыку выганяных у поле кароваў. На росных абочынах гасьцінца, што йшоў ад Гарманавіч на Дзісну, зблізжаліся да мэты. Рабілі мы часта перапынкі, бо цэлы папярэдні дзень маршу зь нялёгкімі хатулямі на плячох перамучыў нас. Папярэдні дзень быў цяжкі яшчэ й таму, што папаўдні амаль бязупынна ліў дождж з грымотамі. Мы йшлі босыя, бо гліністы гасьцінец зусім раскіс і нават босыя ногі ледзь адрываліся ад клейкай гразі. Хатуль і хлеб у ім разьмяклі, усё ўдвая пацяжэла, а вопратка прамокла аж да цела. А пры гэтым і настрой пацяжэў на сто працэнтаў, таму начлег у саломе ня даў нам добрага адпачынку. Наступны дзень выдаўся пагодным, высахла на нас вопратка й палягчэў хатуль. Ня зьменшваўся толькі цяжар на душы. Чым бліжэй мы падыходзілі да Дзісны, тым больш павялічвалася трывога, няпэўнасьць і няведам'е таго, што нас чакае тут у чужым месьце.

Дабрылі мы ў Дзісну пад вечар другога дня падарожжа, фізычна вычарпаныя й духова прыгнечаныя, бо не да маці й не да цёткі прыйшлі. Яшчэ ня ведама дзе спынімся, дзе пераначуем, дзе будзем адпачываць па такой стоме. Дзісна была для нас першым «вялікім» местам, якое мы бачылі на яве. Такім, як сяньня мог-бы паказацца Нью Ёрк ці Токіё. Спыніліся мы на аднэй з вуліцаў і разглядаліся, ці ня відаць тут дзе гумна, каб забрацца туды на начлег. На жаль, гумна ня было відаць, стаялі адна пры аднэй прытуліўшыся, жыдоўскія драўляныя хаты й дзе-ні-дзе цагляная, большая. Пад адкрытым небам начаваць не выпадала, бо яшчэ й ночы былі халодныя. Трэба было шукаць начлегу ў хаце. Стаім, разглядаемся па бакох, раімся, што рабіць. Неўзабаве праішла каля нас маладая жанчына зь вёдрамі на каромыслах у бок студні. Калі яна вярталася з вадою, мы адважыліся запытаць, дзе нам пераначаваць. Яна паставіла вёдры, прыгледзелася да нас і сказала: «Ідзеце са мной у заездны дом да Шлёмкі Фішара, я ў яго працую служанкай».

Гэтую ноч начавалі мы ў цёплай хаце зь іншымі начлежнікамі. Праўда, усю ноч жэрлі нас блохі й клапы, але мы ня вельмі ўжо адчувалі гэтую нявыгоду, бо здарожыліся йператаміліся. Раніцай перакусілі сваіх харчоў, заплацілі за начлег і пайшлі шукаць гімназію.

Мясьцілася яна ў вялікім будынку, мураваным з чырвонай цэглы. Гэтая ўстанова зрабіла на нас моцнае ўражаньне нечага магутнага й страшнога. На другі ці трэйці дзень, крыху фізычна адпачыўшы, прыступілі мы з Бронькам да ўступных экзаменаў, але нашая падрыхтоўка аказалася нагэтулькі слабая, а веды польскай мовы ды літаратуры нагэтулькі нізкія, што ўсё гэта загварантавала нам поўны правал на экзаменах. Я павінен шчыра прызнацца, што з такіх рэзультатаў паломніцтва ў Дзісну я ў душы быў задаволены. Бо гэтая гімназія і ўся абстаноўка разам з настаўнікамі й навучэнцамі выдаліся мне вельмі чужымі, нават ненавіснымі. Бяз жалю ў сэрцы на другі дзень пакінулі мы Дзісну і, аднаўляючы вадзяныя мазалі на ступнях, пасунуліся дахаты з благімі для бацькоў весткамі. У дарозе мазалі палопаліся й мы на трэйці дзень ледзь дабраліся дамоў, месцамі нават на каленях паўзьлі, а боль хапаў за сэрца...



Яраслаў Я н о в і ч (Беласточчына)

# УНУТРАНАЕ АДЧУВАНЬНЕ МОВЫ

## (Занатоўкі да справы беларускага правапісу)

Рэформа беларускага правапісу поўная непасьлядоўнасьцяў. Напрыклад прынята, што так як раней у родным склоне пішацца: капіталізму, расізму, але чатыры словы іначай: сацыялізма, камунізма, ленінізма, марксізма, але далей: анархізму, сындыкалізму. Няцяжка заўважыць, што ўсё адмоўнае скланяецца па-беларуску; чатыры «прагрэсыўныя» -ізмы па-расейску. Значыць адсталасьць зьвязана зь беларускасьцю, прагрэс з Расеяй. Можна сказаць, што гэтыя чатыры «паступовыя» словы цесна зьвязаныя з палітыкаю, прапагандаю, усім тым, што мае свой асяродак у Маскве й таму скланяецца па-расейску. Гэта «палітычныя» словы й гэтак іх называцьмем далей. Можна знайсьці тут таксама і іншы, «унутраны» падтэкст. Канчатак **-у** маюць у родным склоне назоўнікі мужчынскага роду зборныя, абстрактныя. Канчаткам **-а** даецца адчуць, што іншыя -ізмы разьбітыя на часткі, неманалітныя, а тыя чатыры наадварот — суцэльныя, маналітныя. Ці-ж гэта не адгалос слаўнага «культу асобы» званага па-польску трапней «культам адзінкі»? Бо ў меру таго, як «культ адзінкі» выкараняецца з палітычнае рэчаіснасьці і дапускаецца шматформнасьць сацыялізму, розныя мадэлі, канчатак **-а** адступае, што відаць ужо ў моўнай практыцы.

Застаўляюць нас цяпер пісаць у родным склоне: народа, года. Гляньма на словы з канчаткам **-од**: лёд, мёд, ход, род, агарод, паход, сход, увод. Усе яны маюць канчатак **-у**, адно народ і год пакрыўджаныя. Чаму? Бо толькі народ і год маюць дачыненьне да палітыкі, чаго нельга сказаць пра мёд ці род. Але дазволена гаварыць «з году ў год», бо гэта настолькі ўстойлівае словазлучэньне, што няма на яго сілы. Гэтаксама можна сказаць: шмат народу, у сэньсе натоўпу, не нацыі. Няўжо народ як натоўп, некалькі дзесяткаў або сотня людзей зьявіўся творцам рэформы чымсьці больш аб'ёмністым, зборным, складаным або абстрактным чым народ як нацыя, як мільёны людзей? Проста народ-натоўп ня мае ніякага палітычнага значэньня і хай сабе скланяецца як хоча. А можа і тут знаходзім сьлед «культу адзінкі»? Натоўп, як зборышча ўсякіх асобняў, індывідуальнасьцяў, а народ як адзінка, якая поўнасьцю падтрымлівае Сталіна, поўнасьцю змагаецца з немцамі ды наагул усё робіць поўнасьцю?

Або гэткія словы як: кангрэсу, зьезду, зьлёту, сходу, калектыву, актыву і савета, камітэта, саюза, прэзыдыума. Усе яны абазначаюць зборы людзей і як усе зборныя назоўнікі (мужчынскага роду ў родным склоне) павінны мець канчатак **-у.** І многія яшчэ маюць! (Зьезд ужо вельмі рэдка). Але якая-ж тут непасьлядоўнасьць! Даволі калектыў перайменаваць на камітэт і ўжо са збору маем адзінку. Даволі, што група людзей сыдзецца замест зьехацца і ўжо з адзінкі зрабіўся збор. Вядома камітэт ці зьезд шмат палітычнейшыя чым калектыў і сход і таму скланяецца па-расейску. А можа і таму, што зьезд як і народ усё робіць поўнасьцю, а на буржуазных кангрэсах і вясковых сходах усяляк бывае. З саветам справа іншая. Слова саветаваць не існуе

ў беларускай мове і бытаваньне ў ёй слова савет не апраўданае. Затое ёсьць словы раіць (радзіць) і рада, але каб было ўсё ў парадку «вучоныя» дайшлі да вываду, што рада ёсьць архаізмам і такім чынам маем пару: раіць — савет. Покуль што савет яшчэ раіць і мае сваіх дарадчыкаў, але незадоўга пэўна пачне саветаваць і карыстацца дапамогаю саветнікаў.

Або назвы дакумантаў. Непалітычны тэкст, друк, запіс, рукапіс, летапіс адразу мяняе свой канчатак, калі яго назваць палітычна дакумантам мінулага, мэмарандумам і адна кніжка мяняе свой характар залежна ад таго, ці назаву яе проста запісам ці дакумантам. (Словы: зборнік, сшытак, гурток маюць канчаткі памяншальныя і таму маюць у родным склоне канчатак -а).

Сучасная палітычная дзейнасьць гэта слоўная траскатня, якое ня чулі яшчэ нават нашыя дзяды. І гэта можа нам растлумачыць тую кар'еру ўсякіх скарачэньняў: райкомаў, завучаў, пэдфакаў і не шанаваньне мовы (называюць яе белмоваю!). Кажуць, што лягчэй гаварыць. Няпраўда! Палякі кажуць: фізычная культура, ваяводзкі камітэт і языкі іх не баляць. Трэба толькі гаварыць тады, калі хочаш нешта сказаць, а язык напэўна не забаліць!

А як-жа справа выглядае са зьмякчэньнямі ў словах неславянскага паходжаньня. Пакінута некалькі адно слоў у арыгінальным гучаньні, як мэта, сэнс. І ізноў непасьлядоўнасьць! Ад мэты ёсьць мэтазгоднасьць, але ад сэнсу ўжо сенсуалізм. Сумленьне рэфарматараў не дазволіла ім загадаць нам гаварыць «у сеньсе» замест «у сэньсе», але на сенсуалізм ужо згадзілася!

Чаму: момант, лямант, атрамант, але дакумент. «Э» неакцэнтаванае пераходзіць у «а», але скуль-жа тая мяккасьць? Бо калі так, то дакумент (націск на -энт), але момянт (таксама мякка, але ўжо без акцэнту на -энт). Але не гавораць аднак ані атрамянт ані атрамент. Дык чаму-ж мелі-б гаварыць парламент (таксама-ж без акцэнту на -энт)? Чаму не лямант і пар/лямант?

Дарога гэтых слоў у беларускую мову была наступная:

лямэнт — лямант
момэнт — момант
атрамэнт — атрамант
докумэнт — дакумант
парлямэнт — парлямант
цэмэнт — цымант
фундамэнт — фундамант

Чаму з адных «мэнтаў» узьніклі «манты», а з другіх «менты» і «мянты»?

Многія скажуць, што прапанаваныя мною канчаткі -у ёсьць палянізмам (не паланізмам, бо «паляк, Польшча» а не «палак, Полшча»). Няпраўда! Беларуская мова мае больш сьхільнасьцяў да іх чым польская, большае адчуваньне зборнасьці і абстрактнасьці. Прыкладна:

| | |
|---|---|
| па-польску | па-беларуску |
| сэра | сыру |
| ценя | ценю |
| огня | агню |
| овса | аўсу |

| | |
|---|---|
| енчменя | ячменю |
| каменя | каменю |
| вэнгля | вугалю |
| сьвята | сьвету |
| духа | духу |
| яловца | ядлоўцу |
| дзенгеля | дзягелю |

Нехта можа сказаць, што калі трэба гаварыць «году», дык чаму ня «месяцу», «дню». Па першае, няма дзеля гэтага падставы ні ў якіхсьці «ўстойлівых словазлучэньнях», ні ў якім колечы дыялекце, ні правапісе. Па другое, скланеньне месяца магло ўзяцца ад таго, што абазначае ён таксама Месяц, а дзень ёсьць чымсьці шмат больш «канкрэтным» чым год.

А можа гэта таму, што месяцы і дні маюць свае назвы, яны быццам-бы «ўчалавечаныя», а годы і вякі маюць адно нумары (абстрактныя-ж), час і момант нават гэтага не. (Тыдні звычайна ня маюць назваў, але калі «дня» то і «тыдня»).

дзень — аўторак
месяц — жнівень

але

год — 1981
век — XX
момант, час — той

Магчыма справа ў тым, што дзень — найменшая натуральная частка часу; тыдзень і месяц не зьяўляюцца натуральнымі і толькі год першы паяўляецца ў гэтым шэрагу, як натуральны цыкль. Тыдзень, месяц падзяляюцца на аднолькавыя дні, так як мэтар на аднолькавыя сантымэтры. Але год не падзяляецца на аднолькавыя месяцы. Дзень, тыдзень, месяц гэта меры і таму скланяюцца яны як меры (з канчаткам -а). Сутнасьць тыдня ў тым, што гэта сем дзён, месяца — што гэта каля трыццаці дзён. А сутнасьць году ня ў тым, што ён налічвае 365-6 дзён, а ў тым, што гэта поўны, натуральны цыкль. Бо можна запытаць, чаму тыдзень мае сем дзён, а не восем, або адзін месяц 30, а іншы 31 дзён ды і зьмяніць гэта, скажам, урадавым дэкрэтам, як калісь у Францыі можна. Але колькасьць дзён у годзе не закругліш на 400. Бо паняцьце году засноўваецца не на патрэбе меры, а на пачуцьці цыклю. А чаму пішам «веку»? Бо 100 цыкляў таксама цыкль. Калі пішам «веку», дык трэба пісаць і «году», няма рады!

Таксама «сэзону», «кварталу» (як «пэрыяду»), бо квартал гэта тры чарговыя месяцы, а не, скажам, студзень, сакавік і чэрвень.

Магчыма, што трэба гаварыць: панядзелку, аўторку, чацьвяргу, бо гэтыя назвы не акрэсьліваюць ніякіх натуральных якасьцяў адно чарговасьць, і пад словам аўторак няма меры, толькі збор усіх дзён аддзеленых ад сябе шасьцю іншымі днямі. «Аўторак», «чацьвер», «панядзелак» гэта проста нумары: першыя два — яўныя, апошні — «зашыфраваны» (як серада).

Можна прыняць, што канчатак **-у** абавязвае тады, калі палова данае рэчы захоўвае ўсе асноўныя ўласьцівасьці цэласьці. Прыкладна: вылі з бутэлькі палову соку — тое, што застанецца будзе ў 100% сокам з усімі папярэднімі ўласьцівасьцямі. Але адрэж палову дуба — і ўжо адна палова будзе без карэньня, другая без галінаў ды абедзьве страцяць свае ўласьцівасьці і ніхто ня скажа, што яму ўсё адно, якую палавіну дастане. Бо тыя палавіны будуць няроўныя і страцяць найважную сваю ўласьцівасьць — здольнасьць жыць, расьці, разьвівацца. (Адрэж толькі галінку — надалей расьціме). Таму дуба-дрэва і дубу-матарыялу.

Ці-ж калі-б ворагі расстралялі нам палову нацыі, дык мы перасталі-б быць народам, з асноўнымі сваімі асаблівасьцямі, не маглі-б жыць, разьвівацца, як той дуб? А можа зьменшылася-б колькасьць людзей, так як дзьве паловы вядра вугольля важаць удвая менш асобна чымсьці разам, але захоўваюць асноўную ўласьцівасьць — могуць гарэць.

Усе зборы людзей могуць распалоўленыя надалей жыць і разьвівацца. Бо людзі, як кавалкі вугольля — кожны іншы, але твораць яны сабою быццам жывы матарыял і часта трактуецца іх як матарыял, на жаль не заўсёды ў мовазнаўстве. І таму пішацца «планктону», бо ён, хоць і жывы, але яго можна дзяліць не забіваючы. Хоць кожны «планктонік» трохі іншы, як людзі. Так як няма-ж дзьвюх аднолькавых сьняжынак, але пішацца «сьнегу». Камітэт распалоўлены таксама не памрэ і розуму ня страціць ды збуяе ў яшчэ большы.

Таксама ўсякія запісы. Ці-ж палова дакуманту не дакумант? Ці-ж рэдакцыйны калектыў газэты не павінен скланяцца так, як і сам калектыў? Вядома, рэдакцыі як і сацыялізмы прыйшлі да нас з Расеі, дык і скланяцца мусяць па-расейску! Сацыялізм ужо трохі абеларусіўся, прынамсі ў рэдакцыях. Можа ўрэшце абеларусяцца і самі рэдакцыі, усе зьезды, камітэты (сходы і калектывы яшчэ беларускія).

Слова «плот» павінна скланяцца, як матарыял, бо мае цыклічную будову: слупік, два паясы, штыхеты і ізноў тое самае.

У беларускай мове ёсьць выразны падзел на галосныя моцныя і слабыя. Да першых належаць «о» і «э». Можам уявіць сабе гэткую сытуацыю: у нашай мове паяўляецца новае слова, прыкладна «момэнт», у якім ёсьць аж два гукі, што маюць права на акцэнт. І абеларушанаю формаю гэтага слова мог-бы быць «момант» або «мамэнт». У гэтым выпадку перамагла першая, з націскам, як у арыгінале.

«Э» перад націскам амаль заўжды пераходзіць у «а» і тое «а» добра падкрэсьлівае наступаючы пасьля яго акцэнт. У нерэфармаванай беларускай мове датычыла гэта і другога складу перад націскам, калі беспасярэдна перад націскам ня было галоснага «а», як: «нятутэйшы» але «неахайны».

А цяпер гляньма, як тая рэформа ўскладняе справу:

| | |
|---|---|
| раней: (гаворачы хутка) | ня ўпорысты |
| | ня йначай |
| (гаворачы памалу) | ня упорысты |
| | ня іначай |

цяпер: (гаворачы хутка) ня ўпорысты
ня йначай
(гаворачы памалу) не упорысты
не іначай

У даўнейшым правапісе такія ўскладненьні магчымыя толькі тэарэтычна, літаральна ў некалькіх выпадках.

Куды прапала тая сьпеўнасьць нашае мовы? Мова нашая пачынае заікацца на расейскі лад, усюды чуеш: ай, ой. Напрыклад:

«З той прычыны не меў новай вопраткі і хадзіў з старой торбай.» Навошта гэтак войкаць ды айкаць? Ці ня лепш было-б:

«З тае прычыны ня меў новае вопраткі ды хадзіў са старою торбаю.» Цяпер словы закончаныя галоснымі гукамі, лягчэй спалучаюцца ў сказ, няма зьбегу націскаў — «старой торбай», націскі натуральна пазбываюцца свае энэргіі ў наступных складах, замест менш выразнага «вопраткіі» маем «вопрадкіды».

Але дзе-ж будуць гэтак пісаць, калі дайшло да таго, што калі аднойчы ў прэсе шмат пісалася пра аўтара «Гісторыі беларускае літаратуры», дык шматлікія газэты і часапісы баяліся напісаць загаловак арыгінала і пісалі: «...беларускай літаратуры». Бо як-жа так груба пісаць «беларускае» ды яшчэ на першай старонцы? Селянін або пісьменьнік хай сабе піша гэтак, але мы, не! А рызыкі ніякае ня было! Гэта-ж цытата і можна было-б лёгка апраўдацца перад «начальствам», калі-б была такая патрэба!

Відавочна, што з гэтым адчуваньнем музычнасьці мовы ў нас кепска, і вельмі нямногім баліць вуха, калі чуе: «ён не хоча, не добры».

Амаль што зьвялася ў практыцы форма: «магчымасьцяў, цяжкасьцяў». Усюды пішуць: «магчымасьцей, цяжкасьцей», а гук «а», як слабейшы кудылепш падыходзіць на заканчэньне сказу чымсьці моцны «э».

Таксама канчатак **-ый** ненатуральны ў беларускай мове:

«Димитрий» па-беларуску «Дзьмітры» (Зьмітрок)
«Григорий» па-беларуску «Рыгор»
«новый» па-беларуску «новы».

Тады «камэнтарый, пралетарый, барый» павінна пісацца «камэнтар, пралетар, бар» (як «сакратар, камунар»). Ці-ж камунар гэта не пралетар? Таксама «традыцыяў» а не «тадыцый» (традыцыя-ў).

Ёсьць шмат кніжак, у якіх апісана шматформнасьць нашае мовы. Але як іх успрымаць, тыя апісаньні, калі аўтар піша, што можна карыстацца такімі формамі, як «магчымасьцяў, традыцыяў, рабіцьме, магчыме, чыстае вады», але сам, на працягу сотняў старонак друку не карыстаецца ніводнаю зь іх літаральна ні разу? Быццам-бы кажа нам: «можна гэтак пісаць, але я вам ня раю. Гэта адсталасьць, сялянскасьць або пісьменьніцкія выдумкі». Сьмелы пісьменьнік напіша: «ягоны сябра, іхны дом» (іхны а ня іхні, бо «ус/іхны».) Вельмі сьмелы напіша: «ейны сын», але гэта ўжо скрэсьляць яму ў рэдакцыі.

Занадта сялянскае слова, гноем аддае. Беларуская мова мае яшчэ поўны камплект гэткіх «няпрыстойных» словаў: мой, твой, ягоны, ейны, наш, ваш, іхны, свой, усіхны, нічыйны.

Слова «ейны» ўжо зацкавана. Ягоны і іхны яшчэ сяк-так дыхаюць. Хіба таму, што ў яго/ным і іх/ным месьцяцца «яго» і «іх», а ў ейным «яе» не зьмяшчаецца і зашмат яно адстае ад расейскае мовы. [2])

Незадоўга пэўна пачнем гаварыць: яе аловак, іх дом, цябе сшытак, нас школа. Не, не! Такое пасьлядоўнасьці ня будзе. Падраўняем адно да польскай і расейскай мовы.

Як вядома, рэформа зьліквідавала мяккія знакі там, дзе ёсьць двайное зьмякчэньне. Прыкладна: «смех» замест «сьмех». (Многіх пацяшае факт, што тэарэтычна вымаўленьне не зьмяняецца, але цешыцца няма чым, бо ўзьнікае такое зьявішча, што замест памякчаць моцна, памякчаецца слаба, як у расейскай мове, а ў словах падобных да расейскіх, дзе памякчэньня няма зусім, яно рэдукуецца. (Напрыклад з «ць» робіцца «ть»).

Можна гэта акрэсьліць як фанэтычную русіфікацыю. У такіх выпадках здаецца, што чалавек гаворыць па-расейску і толькі прыслухаўшыся заўважаем, што аднак гаворыць па-беларуску.

Аналягічна многіх супакойвае тое, што пішацца «не трэба», «не хоча», «без грошай», але чытаецца па-даўнейшаму «ня трэба», «ня хоча», бяз грошай». Быццам-бы нічога не зьмянілася і няма чаго лямантаваць. Але пакажы мне такога чалавека, які беспамылкова чытацьме тое асобнае «не». І цікавая рэч — там, дзе тое «ня» пішацца, ніхто не памыляецца.

Паблытана справу з апострафам, бо раз ён памякчае, а раз не, а калі, то ўжо сам мусіш ведаць. У словах «кан'як, з'езд» памякчае, а ў словах «кар'ера, бар'ер» — не. Але чаму пішацца «мільён», а не «міл'ён»?

Рэфарматары-ж лічаць, што кожны ведае, калі вымаўляць мякка. Але ў «мільёне» падмаглі чытачу правільна прачытаць. Чаму не зрабіць гэтаксама і ў «каньяку» і ў «зьезьдзе», а там, дзе вымаўляецца цьвёрда пакінуць апостраф. Тады ўрэшце быў-бы нейкі парадак.

Усяляк калісь пісалася канчатак **-ох.** Напрыклад: на дварох, палёх, вачох, дзьвярох, царох. Апошнім часам прынята, што выступае ён толькі ў назоўніках мужчынскага роду зь цьвёрдаю асноваю: на дварох, царох, гарадох — але на палях, канях, вачах. Думаю, што гэткае рашэньне павінна задаволіць усіх і варта было-б прыняць гэта хоць-бы як альтэрнатыўную форму, бо апраўдана гэта націскам. Вядома, што калі гаворым «цароў» а не «цараў», дык таму, што акцэнт падае на другі склад а не на першы. «А», як гук слабы, ня вытрымаў-бы таго націску і таму, згодна з «музыкаю мовы» на ягонае месца ўвайшло «о». А ці-ж не аналагічная справа з канчаткам **-ох?** — цароў, царох, царом (-оў, -ох, -ом) і прынцыпаў, прынцыпах, прынцыпам (-аў, -ах, -ам)

Ці арганізм павінен скланяцца як «капіталізм», ці як «зьвер»? Зьвер паняцьце вужэйшае, абазначае нешта на чатырох лапах. Арганізм можа абазначаць і расьліну, і дзяржаўны арганізм. Ці зьвер падзелены на паловы можа спаўняць сваю асноўную функцыю — жыць? Не. А арганізм? І тут ужо справа няпростая, бо калі арганізм ёсьць зьверам, то ўсё ясна, але калі ён ёсьць арганізмам рэвалюцыйнага руху, «сукупнасьцю фізычных і душэўных якасьцяў чалавека» (амаль што характар) то што тады? Таму магчыма, што ўсякія -ізмы павінны скланяцца аднолькава. Тое самае датычыць і такіх словаў, як «інструмант». Але «іхтыязаўр/а», бо гэта проста назва, «імя» зьвера.

Цяпер пагартайма трошкі «Тлумачальны слоўнік беларускай мовы» выданы ў Менску пад рэдакцыяй акадэміка Кандрата Крапівы. Колькі-ж у ім непасьлядоўнасьці. Паўстае пытаньне:

Чаму хору але аркестра?
Фальсыфікату (адмоўны) і арыгінала (пазытыўны)?
Арбітражу але суда?
Флоту, фронту, эскорту, канвою але ар'ергарда, атрада? Ці-ж палова атраду не атрад?
Артыкула але тэксту, друку?
Абшару але арэала, аазіса?
Кагалу але каўгаса?
Інтэрдыкту (царкоўны) але эдыкта, дэкрэта (сьвецкі)?
Альянсу, канкардату (буржуазны) і саюза (савецкі)?
Дагавору але кантракта?
Прадукту але твора?
Голасу, рэгістру, тону але барытона, альта (голасу)?
Сыгналу але знака? Ці-ж можа быць нешта больш абстрактнае чым знак?
Выразу і вобраза?
Грэху, недагляду і агрэха?
Дэмісэзону але сэзона?
Шыфру але кода?
Абозу, канвою і каравана? і шмат іншых...

Якія тэндэнцыі ёсьць у правапісе беларускае мовы? «Падручны польска-беларускі слоўнік» (з 1962 году) падае як правільныя формы:
Зьезду, арэалу, архаізму і планктона, трона.

«Тлумачальны слоўнік беларускай мовы» (з 1977 году) падае як норму: зьезда (і зьезду), арэала, архаізма, але планктону, трону (ст 152, II т.)

Абодвыя слоўнікі цьвёрда трымаюцца «ўказаньняў». Як бачым, няма аднае тэндэнцыі і побач з тэндэнцыямі пазытыўнымі ёсьць і адмоўныя.

У будучым можа выступаць тэндэнцыя да рэдукцыі галоснага «ы» перад ётаванымі націскнымі галоснымі, калі перад «ы» няма зьбегу зычных: вар'янт, сакратар'ят, цырыманьял.

Вядома, аўтары слоўнікаў цьвердзяць, што яны проста апісваюць жывую мову, а тыя, што хацелі-б пісаць інакш ня могуць, бо тыцкаюць ім пад нос слоўнікі і кажуць: «Гэтак нельзя». Мой артыкулік сустрэнецца напэўна з абурэньнем задаволеных сабою акадэмікаў, якія ў доўгай дарозе па веду, на жаль, загубілі недзе тое, што многім здаецца чымсьці непатрэбным — унутранае адчуваньне — той ціхі голас, якога ня чуваць на менскіх вуліцах. І калі яны нават сапраўды апісваюць жывую мову, то апісваюць яны свой «мінскі», журналісцкі жаргон.

Магчыма, што рэформа не ўдалася і таму, што адбылася бяз удзелу Заходняе Беларусі, найменш зрусіфікаванае беларускае тэрыторыі. Няпраўда, што калі-б зьмяніць правапіс дык трэба было-б перадрукаваць усе кніжкі. Хто ведае мову, прачытае ўсё незалежна ад правапісу. А там, дзе няма пэўнасьці, можна прыняць паралельныя формы.

На гэтых прыкладах бачым, што чыстая крыніца нашае мовы надта памутнела. Моладзь асабліва, сьвядома або несьвядома, адчувае тую зблытанасьць, непасьлядоўнасьць, «нелагічнасьць» яе і ганьбуе ёю. Трэба ўсё зрабіць, каб яна сталася нанава «крыніцаю жывое вады». Мо хто запытае: Ці варта спрачацца, гэта-ж дробязі... Варта, бо мова гэта нашыя думкі, адчуваньне, сьвядомасьць, а за гэта заўжды варта змагацца.

---

Міхась КАВЫЛЬ

## ОЙ, ПАЙДУ

Ой, пайду ў невядомую даль
Пад акорды іскрыпак вясны...
Можа ў далі разьвею я жаль
І забуду трывожныя сны.

Забінтована даль у туман,
Нібы сьлёзы, раса на траве...
І цябе там, Уцеха, няма:
Разьвітаўся з табою навек.

Як убогі, у полі стаю.
Што рабіць і куды мне ісьці?
Боль пякучы ў грудзёх затаю,
Што завяла, таму ня цьвісьці.

Ой, пайду ў невядомую даль
Пад акорды іскрыпак вясны...
Можа ў далі разьвею я жаль
І забуду трывожныя сны.

1944

В. СТОМА (ЗША)

# РАЗЬДЗЕЛ I

# АБРАДЫ Й ЗВЫЧАІ ДЗІСЬНЕНШЧЫНЫ ЗЬВЯЗАНЫЯ З РЭЛІГІЙНЫМІ СЬВЯТАМІ

(працяг)

Калі ўжо гульцы ў біткі нацешыліся сваімі перамогамі, а пакананыя перахварэлі страты, пачыналася новая гульня — качаньне яек. У ёй маглі браць удзел усе аматары «яечнага» азарту. Штопраўда, меншыя гульцы гулялі са старэйшымі неахвотна, падазраючы іх, і то часамі зусім слушна, у круцельстве. А круцельства палягала ў тым, што старэйшыя мелі ў запасе амаль заўсёды два таго самага колеру яйкі, але не аднолькавай формы. Адно зь іх было амаль што круглае й яно кацілася проста, а другое прадаўгаватае, з войстрым носам і шырокай пухой. Такое скаціўшыся з лубка адразу вярнула ў той бок, у які быў накіраваны нос. Такія «штучкі» лічыліся нелегальнымі й малышы заўсёды голасна пратэставалі супраць іх, але іх ніхто ня слухаў.

Думаю, што ня будзе лішнім расказаць на чым палягала гэтае качаньне яек. Вось-жа дзеля гэтага папершае трэба было мець т. зв. «лубок». Гэтак называўся кавалак дрэва даўжынёй каля ¾ мэтра з гладка выгладжаным ад канца да канца жолабам. Таму, што качаньне адбывалася на «заваліне» пад сьцяной хаты, дык лубок апіраўся на падмурак пад такім кутом, каб паложанае на яго яйцо, кацілася, але ня вельмі хутка на дол. Выгрываў той, чыё яйцо коцячыся дакраналася да чужога. Тады ён забіраў яго, а праграўшы павінен быў палажыць іншае. Калі-ж наступным разам яно не зачаплялася, каціў наступны гулец. Ведама, нікому не хацелася пачынаць гульню першаму, бо небясьпека страты яйка была вялікая, а шансаў на выгрыш амаль ніякіх. Дзеля гэтага існавала даволі складаная сыстэма «мерацца на кій».

Стратныя ў гульні ня вельмі гэтым праймаліся й хутка аб гэтым забываліся. У гэты дзень і іншых разрывак не бракавала. Напрыклад, кожны хто гэтага жадаў, мог без перашкодаў званіць у царкоўныя званы колькі хацеў. Гэтым забаўляліся пераважна падросткі. . .

Калі-ж сонца павяртала да захаду, з усіх бакоў пачыналі раздавацца сьпевы валачобнікаў. Іх зазвычай хадзіла некалькі групаў, але яны заўсёды стараліся не ўваходзіць адна другой у дарогу. Усе яны мелі той самы склад — пачынальніка, запявалу, музыку й механошу ды некалькі чалавек сьпевакоў. Сьпевакі адыгрывалі ў групе далёка не першарадную ролю, бо ў валачобнай песьні сьпявалі пасьля кожнае звароткі толькі кароткі й таго самага зьместу прыпеў, як напрыклад: «Хрыстос ўваскрос Сын Божы», або «Хрыстос Сын Божы» ці «Хрыстос ўваскрос на ўвеь сьвет». Галоўную ролю адыгрываў пачынальнік. Ад ягонага таленту й памысловасьці залежыла папулярнасьць цэлай групы. Музыка таксама быў важнай фігурай. За маёй памяці ў маім мястэчку з году ў год існавала некалькі групаў валачобнікаў, але галоўнымі зь іх, былі толькі дзьве, — Антосева й Гарасімава.

Назвы паходзілі ад імёнаў іхніх праваднікоў-пачынальнікаў. Абедзьве групы стала мелі тых самых музыкаў з баянамі. Іншыя-ж, менш папулярныя групы сьпявалі ў найлепшым выпадку пад скрыпку, губны гармонік, або зусім «на суха». Дзеля абразьлівае клічкі механошы, якога вульгарна называлі «дрыстуном», заўсёды існавалі цяжкасьці знайсьці ахвотніка на гэтую функцыю. Зь ім даволі лічыліся, і нават пры падзеле валачобы, ён атрымліваў большую долю ад радавых сьпевакоў.

Большай папулярнасьцяй, ведама-ж, карысталіся тыя групы, якія мелі добрых музыкаў, бо пераходзячы ад хаты да хаты яны часамі сьпявалі пад іх акампаньямэнт розныя сьвецкія песьні й прыпеўкі, або й самыя без сьпевакоў цешылі прыгодных слухачоў мэлёдыямі, як шырока ведамай «Бляхарышанай полькі». Зьмест песьняў паасобных групаў мала чым розьніўся адзін ад другога. Пачынальнікі дадавалі ад сябе штораз то новыя фрагмэнты, можа й простыя ды наіўныя, але аднак западаючыя глыбака ў душы тых, хто шчыра любіў свой народ. У аснаўным яны выхвалялі гаспадара й ягоную гаспадарку, а таксама прасілі Бога і ўсіх Сьвятых дапамагчы яму ў ягонай працы. У некаторых дамох, асабліва ў тых, дзе было спадзяваньне на больш шчодрае валачобнае (падарак), сьпяваўся яшчэ зварот да гаспадыні, а калі былі ў сям'і дзяўчаты, дык і для дачушак.

А вось прыклад валачобнае песьні:

Як Пан Езус пахвалёны,
Пахвалёны дом сьвянцоны.
Гаспадару, слаўны пане,
Устань рана, мыйся бела.
Мыйся бела, суха трыся.
Суха трыся, прыбярыся.
Глянь ўваконца на ўсход сонца.
У тваім дварку, як у вянку.
У тваім дварку зорка ўпала,
На тым месцы царква стала.
А ў тэй царкве прастол стаіць,
А на прастоле сам Бог сядзіць.
Каля Бога ўсе Сьвятыя,
Рыхтуюцца, чаргуюцца,
Каму першаму ставаці,
Даці людцам сьвяткаваці,
Дый у працы памагаці.
Сьвяты Юры — Божы ключнік,
Вазьмі ключы залатыя,
Сядлай каня варанога.
Едзь у поле у чыстае,
Адамкні зямлю, пусьці расу.
Пусьці расу на ўсю вясну,
І мокрую, і цёплую.
А Мікола добры пастух,
Путай коней, гані кароў,
Ды адганяй ваўкоў-зьвяроў.
Сьвяты Пётра моцны касец,

Клепле косы, граблі ладзіць,
Колы правіць, вілы ладзіць,
Каб на пожні не падгадзіць.
Сьвяты Пракоп памагае,
Цёмны хмары разганяе.
Сушыць сена, канюшыну, —
Згатаўляе корм на зіму...

І гэтак далей.

І так перабіралі ўсіх Сьвятых, сьвяткаваньне якіх прыпадала на вясеньні або летні сэзон і якім можна было прыпісаць дапамогу селяніну-земляробу.

Як вядома, сьв. Юры сьвяткуецца 3-га красавіка. Гэты дзень лічыўся поўным прыходам вясны, а тым самым ажываньнем прыроды, якой дапамагаў сьв. Юры «адмыкаючы зямлю ды пускаючы расу». На Міколу, 9-га травеня, жывёла ўжо поўнасьцю магла жывіцца на полі, і хоць яе часамі й раней выганялі на пашу, але сьв. Мікола лічыўся апякуном жывёлы, які ня толькі памагаў ёй пажывіцца маладзенькай траўкай, але й абараняў яе ад ваўкоў ды іншых зьвяроў. Пятра й Паўлы сьвяткуецца 29-га чэрвеня. У гэтым часе ў поўнасьці пачыналася касьба сенажацяў й засеваў канюшыны. Дзеля гэтага ізноў-жа робіцца ясным, чаму сьв. Пракоп — 8-га ліпеня — дапамагаў ў сушэньні сена й канюшыны, адным словам — корму.

Пералічваючы Сьвятых, пачынальнікі часамі дапускалі пэўныя, хоць і невялікія недарэчнасьці. Забыўшыся, што сьв. Ільля мужчынскага роду, яны казалі: «Сьвяты Ільля, моцная жняя». Ня ясна таксама чаму яны надзялялі сьв. Праксэду (Параскеву) функцыяй парабчанкі кажучы: «Праксэда — парабчанка, хусты мые, сьвіней корміць». І наканец сьвятам Пакровы Божае Маці, 17 кастрычніка, пачынальнікі заканчвалі цыкль летніх сьвяткоў кажучы: «Сьвяты Пакроў пакрывае ваду лёдам, пчалу мёдам, рыбу луской, дзевак таской». Таксама радзілі гаспадару чым займаццца ў зімовых месяцах, — «муку малоць, сьвіней калоць, крупы таўчы, пірагі пячы, піва варыць, сыноў жаніць, гарэлку гнаць, дачок выдаваць».

У канцы песьні пачынальнікі дагаварваліся аб валачобным (падарунку). Яны казалі: «Гаспадынька пачастуе камом масла, белым сырам, а мы яе прывітаем із прыбыткам — малым сынам». Ажно ў канцы сваёй просьбы, выяўлялі яе ў больш станоўчай форме: «Сыр на талерку, кварту гарэлкі... Мне самому-маладому капу яек маляваных, скрутак каўбас ннадзяваных, маім браткам-памагатым — па дзесятку дый кумпячок у дадатку».

Трэба адцеміць, што песьня пачыналася словамі: «А Пан Езус пахвалёны» толькі ў каталіцкіх дамох у выпадку, калі Вялікдзень сьвяткаваўся разам з праваслаўным. Для праваслаўных-жа пачыналася: «Гаспадару слаўны пане». Словы «царква стала» замяняліся для каталікоў на «капліца стала».

Пачынаючы ад 30-х гадоў пад ціскам шавіністычнага польскага каталіцкага духавенства, беларускія каталікі ня то каб сказаць пачалі супрацівіцца таму, што ў іх дамох бываюць валачобнікі, але не аказвалі ім належнай гасьціннасьці, прасьцей сказаўшы ня ведалі, як паступаць. Крыху пазьней пачалі паўставаць «чыста польскія групы», якія сьпявалі «па-польску» й на іншую мэлёдыю: «Вэсолы нам дзісь дзень настал» або «Встал Пан Хрыстус з мартвых ныне». У выніку гэтага, ужо перад самай II-й Сусьветнай вайною, валачобнікі наведвалі выключна толькі дамы

праваслаўных.

Характэрна й тое, што пражываючыя на Дзісьненшчыне стараверы, якіх тут называлі маскалямі, таксама пераняли ад беларусаў валачобніцтва. У этнаграфічнай Расеі яно было няведамае. Але іх сьпевы розьніліся ад беларускіх як зьместам так і мэлёдыяй. Вось кароценькі прыклад: «Хазяінка наш батюшка, Хрістос Васкрес Сын Бо-ожія». Яны часта заходзілі і ў беларускія вёскі й былі вельмі здаволеныя, калі іх добра прыймалі. Але калі часамі беларусы заходзілі да іх, дык гаспадар хаты звычайна ўжо загадзя выходзіў на панадворак і не зважаючы на пагоду заўсёды бяз шапкі. У руках ён звычайна трымаў кошык з фарбаванымі яйкамі, спорным кавалкам кілбасы ды яшчэ чагосьці [illegible] ветліва казаў: «Вы братушкі зьвініце меня грэшнава й акаяннава супастата, но ваша песьня ведзь паганая й паляцкая й яну нікак нівазможна пець [illegible] маём праваслаўным памяшчэньні. Так што прыміце мой дар і ідзіце себе з Госпадам». Цікава й тое, што беларусаў стараверы называлі палякамі, а веру «паляцкай». На праваслаўных-жа расейцаў яны казалі «ерецікі», а на іх веру «ересь».

На першы дзень Вялікадня ніхто й нікога не запрашаў у госьці, але мужчыны йшлі да прыяцеляў і сваякоў няпрошаныя. Аднак яны ніколі доўга не заседжваліся, але толькі пахрыстосваўшыся з гаспадарамі й выпіўшы чарку ды закусіўшы чымсі смачным ішлі далей, каб пад вечар ужо з трудам вярнуцца дамоў.

Звычайна праз усе тры дні Вялікадня ня ладзілася ніякіх вечарынаў, каб годна ўшанаваць сьвята.

### Радаўніца

Радаўніца абыходзілася ў аўторак пасьля Правадной нядзелі, гэта значыць тыдзень пасьля Вялікадня. Гэты дзень прысьвячаўся памяці памёрлых, але розьніўся ад восенскіх Памінак-Дзядоў. У адрозьненьне ад апошніх, усе абрады адбываліся на магільніках. У мясцовасьцях, дзе былі цэрквы, дык на магільнік прыбывалі сьвятары й служылі паніхіды за ведамую ўжо наўперад аплату. Калі канчаліся паніхіды, пачыналіся народныя абрады-памінкі.

Спачатку яны раскладалі на магілах прынесеную з сабою «другую сьвянцонку», такую самую ежу, якая спажывалася пры разгаўленьні на першы дзень Вялікадня. Некаторыя перахоўвалі яе праз цэлы тыдзень, але ў большасьці прыгатоўвалі ў сыботу перад Радаўніцай і зразумела ў меншай колькасьці як на Вялікдзень. Паставаўшы, а калі на гэта дазваляла пагода, пасеўшы вокал магілы, найстарэйшы браў фарбаванае вялікоднае яйка й аблупіўшы яго «хрыстосваўся» зь нябожчыкамі паўтараючы: Хрыстос Уваскрос, Янка, Марыля ці іншыя, а заім паўтаралі ўсе прысутныя. Пасьля памаліўшыся зьядалі гэтыя яйкі ды таксама бралі па кавалачку іншай прыгатаванай еміны. Пабожна перахрысьціўшыся й пакланіўшыся магілам, адыходзілі. На іх месца прыходзілі, чакаючы на гэты мамэнт, жабракі, якія дзялілі між сабою пакінутую ежу. Яны таксама маліліся голасна «за змарлыя душачкі» ў адзін голас, але чамусьці папольску.

На гэтым Радаўніца фактычна й канчалася, а разам зь ёю й сьвяткі зьвязаныя зь Вялікаднем. Таму, што Радаўніца ня лічылася сьвятам, а толькі «прысьвяткам», то ўжо пасьля паўдня людзі йшлі да працы. Штопраўда заставалася яшчэ Сёмуха, але зьвязаныя зь ёю абрады аніяк ня можна лічыць вялікоднымі.

### Добравешчаньне (Благавешчаньне).

Гэтае сьвята сьвяткавалася 25 сакавіка й таму дзеля пераходных вялікодных датаў, прыпадала часамі коратка перад Вялікаднем, а радзей нават пасьля яго. (У народзе гэтае сьвята лічылася найбольшым пасьля Вялікадня. У сувязі з гэтым існавала нават пагаворка, што «на Добравешчаньне нават птушка гнязда ня ўе». Дзеля гэтага, калі ў гаспадарцы здараліся якія няшчасьці, дык людзі казалі: «А можа ён гараў на Добравешчаньне?» Гэтае сьвята адрозьнівалася ад іншых прыпадаючых на Вялікі Пост і тым, што на яго дазвалялася есьці малако, а хворым і дзецям нават масла й сьмятану.

**Юр'я (сьв. Юркі).**

Гэтае сьвята сьвяткавалася 23 красавіка. Калі яно не прыпадала на нядзелю, дык лічыліся так як Радаўніца, толькі прысьвяткам. Аднак было яао зьвязана з асобнымі абрадамі, якія выконваліся даволі дакладна.

Звыкла абрады пачыналі жанчыны «ідучы пад жыта». Дзеля гэтага ўжо папярэдняга дня, або й раней, яны дагаворваліся між сабою на якую частку поля пайсьці. У гэтым прымалі ўдзел толькі замужнія жанчыны або ўдовы, але ніколі дзяўчаты. Узяўшы з сабою пучок пасьвячанай яшчэ на Вербніцу вярбы, некалькі фарбаваных яек ды пэўную колькасьць закускі, яны йшлі на жытнія палеткі, у гэтую пару ўжо добра зазелянелыя. Прыйшоўшы на свае ніўкі, яны ставалі на калені й шчыра маліліся Богу, каб усьцярог гэтыя палеткі ад няшчасьцяў — граду, засухі або марозу. Пасьля гэтага яны па ўсіх вуглох сваіх палеткаў закопвалі па яйку, як дар сьв. Юрку й торкалі ў зямлю вярбінкі. І толькі пазьней зьбіраліся на раней дамоўленае месца, бераг ракі ці ўскраіну лесу, і разаслаўшы там пасьцілкі ды абрусы раскладалі прынесеную с сабой ежу. Тымчасам нібы зьнячэўку пачыналі сходзіцца туды й іх мужы ці сваякі, якія прыносілі з сабою гарэлку. Калі ўжо ўсе сабраліся, нехта са старэйшых, ці найбольш шанаваных людзей маліўся Богу й сьв. Юрку просячы шчасьця ў надыходзячым леце й добрага ўмалоту рознае збажыны. Пасьля гэтага пачыналася вясёлая, аднак ніколі ня выходзячая за рамкі прызваітасьці бяседа, якая звычайна канчалася яшччэ перад заходам сонца, каб гаспадыні маглі яшчэ завідна ўправіцца з гаспадаркай.

**Мікола.**

Сьвята сьв. Міколы прыпадае на 9-га травеня. Лічылася яно сьвятам перадусім пастухоў ды начлежнікаў. Тлумачыцца гэта тым, што сьв. Мікола лічыўся ў нашых ваколіцах патронам жывёлы. У сувязі з гэтым быў звычай, што хоць жывёла й пасьвілася ўжо праз пэўны час, аднак у гэты дзень яе выганялі на пашу пасьвечанай вярбой ды акраплялі сьв. вадой. Там, дзе пастухі былі найманыя для цэлай вёскі ці мястэчка на ўсё лета, быў звычай даваць пастухом «выгоннае». Выгоннае складалася зь невялікага кавалка сала ці камка масла, кавалка кілбасы, сыру або інш. За гэта пастухі вечарам адудзячваліся ім тым, што вешалі на рогі некаторых кароваў вянкі зь зеляніны, перадусім зь дзеразы або брусьнічніку. Уплялі ў гэта нават некалькі кветак.

Пачынаючы ад Міколы забаранялася пасьвіць жывёлу на сенажацях, каб даць змогу траве падрасьці да касавіцы, гэта значыць да Пятра.

**Тройца (Сёмуха).**

Таму, што гэтае сьвята было залежнае ад Вялікадня, яно таксама сьвяткавалася

тры дні, але абавязкава пачыналася ў нядзелю. І вось ўжо ў траецкую сыботу (ў апошнюю сыботу перад Тройцай) моладзь упрыгожвала свае хаты «маем», — зеленьню. На гэта выкарыстоўваліся маладзенькія дрэўцы бярозак, клёну, або гальлё іншых дрэваў. Панадворак хаты чысьценька падмятаўся й пасыпаўся жоўтым пясочкам.Чыста вымытую падлогу ў хаце пасыпалі аерам, які пачынаючы падсыхаць выдаваў вельмі прыемны і моцны пах. Не забывалася таксама й пра цэрквы. Упрыгожвалі іх мноствам кветак бэзу, чаромхі, півоніі ды інш. У гэтую-ж пару прыпадаў сэзон квітненьня агародных ды палявых кветак. Жанчыны-ж, а перадусім дзяўчаты йдучы ў царкву лічылі сваім абавязкам трымаць у руцэ букет найпрыгажэйшых кветак. Выходзячы з царквы застаўлялі іх перад абразамі з тайнай просьбай да аднаго са Сьвятых аб дапамозе ў іх сямейных ці дзявочых справах.

Трэба яшчэ зазначыць, што назоў Сёмуха, ■ ў пяршыню пачуў на эміграцыі. На радзіме да назову «Тройца» дадавалася «Зялёныя сьняткі». Некаторыя кажуць, што назоў гэты трапіў да нас з прычыны польскіх уплываў, але чаму тады ладная частка ўкраінцаў, і ня толькі заходніх, называе іх «Зэлэны сьвята»? На Тройцу вечарыны ладзіліся толькі на першы й другі дзень.

**Я н а (Купальле).**

Сьв. Яна сьвяткавалася 24 чэрвеня, але фактычна гэта было толькі рэлігійнае сьвяткаваньне. Усе купальскія абрады адбываліся ўвечары перад сьвятам. Ужо хутка пасьля захаду сонца пачыналі раздавацца купальскія ды іншыя песьні, якія сьпявала моладзь зьбіраючыся на берагох рэчак, вазёраў або на ўскраінах лесу ці пагорках сярод палёў. Быў таксама звычай пусканьня на ваду вянкоў. Між іншым гэты звычай быў чамусьці прапагаваны польскаю адміністрацыяй й клерам, ня гледзячы на тое, што мясцовыя народныя звычаі ня былі ў асаблівай пашане ў апошніх. Вянкі звычайна прымацоўваліся да невялікай дошчачкі з запаленай сьвечкай пасярод. Калі павольная плынь ці лёгкі вецярок адносілі гэтыя вянкі далей ад берага, дык гэта стварала свайго роду прыгожае відовішча. Існавала таксама й павер'е, што той хлапец, які зловіць такі вянок, не карыстаючыся пры гэтым асобымі прыладамі, напэўна ажэніцца з ўласьніцай вянка. Ахвотнікам злавіць вянок дазвалялася плысьці, але пад умовай, што ня будуць раззувацца ці скідаць вопратку. Дзеля гэтага гаварылі аб вельмі закаханых кавалерах: «О, ён гатовы і ў кажуху дастаць яе вянок». Таксама некаторыя верылі, што роўна ўпоўнач у купальскую ноч зацьвітае папараць-кветка, і таго хто знойдзе гэтую кветку мае спаткаць нябывалае шчасьце. Але знайсьці яе вельмі цяжка, бо папершае, яна зацьвітае між непраходных гушчараў і балотаў, а падругое, яе сьцерагуць усе пякельныя сілы з найстарэйшым чортам Люцыпарам на чале, каб яна не трапіла ў людзкія рукі. Шукаць гэтую кветку не знаходзілася шмат ахвотнікаў. Бывалі выпадкі, што паадзіночныя пары адлучаліся ад агулу й дзесь зьнікалі. Тады іншыя аб іх казалі: «Яны пэўна сёньня знойдуць кветку папараці». Перад самым усходам сонца іншыя пары йшлі шукаць не папараці, а кветак-багатырак. Гэтыя маленькія пушыстыя кветкі шэра-ружовага колеру расьлі на жвіраватых сухіх пагорках. Прынесеныя ў хату й заторкнутыя пад бэльку праз некалькі дзён «расьцьвіталі». Высыхаючы, яны распускалі свае пялёсткі, што лічылася добрай варажбой для дзяўчыны, якая прынесла іх у хату.

Пачынаючы ад Купальля дазвалялася купацца ў рэках і вазёрах, бо ў гэтую пару вада ў іх ужо дастаткова награвалася. Гэтага звычаю прытрымоўваліся толькі

старэйшыя. Моладзь адносна гэтага мела свой «каляндар» цьвердзячы, што калі колас у жыце «выплывае», то гэта знача, што й людзям ужо можна плаваць. Купальскія ночы найкарацейшыя ў годзе й дзеля гэтага пра тых хто ўміраў у маладым веку казалі: «Яго, ці яе, век, што купальская ночка».

### Пятра.

Сьвята Пятра прыпадала на 29 чэрвеня й лічылася пачаткам касавіцы, а ў нас, казалі «пільніцы». Гэты тэрмін азначаў пару выкананьня ўсіх неадкладных сялянскіх працаў. Дзеля гэтага, хоць часамі трава на сенажацях яшчэ зусім ня вырасла й магла-б парасьці з тыдзень ці даўжэй, але гаспадары трымаючыся старадаўняга звычаю, ужо назаўтра пасьля сьвята лічылі сваім абавязкам прагнаць хоць пару пракосаў, а сапраўдную касьбу пачынаць і крыху пазьней. На гэтае сьвята людзі несьлі ў сьвятыні вязанкі кветак. Аднак між сьвежа сарванымі кветкамі павінна была знаходзіцца хоць адна маленькая галінка засушаная з леташняга году. Рабілася гэта дзеля таго, каб прыпомніць Сьвятому, што яны просяць яго пасылаць хоць крыху добрай пагоды, каб людзі маглі без перашкодаў сушыць сена, а пазьней і жыта.

Варта прыпомніць, што кожная добрая гаспадыня старалася на пільніцу заашчадзіць большы запас «скаромніны», — сала, кумпякоў і кілбас, каб сям'я была дужай і не згаладнелай на гэты час цажкай, штодзённай працы. У сувязі з гэтым існавала нават і пагаворка: «На Пятра й кошка гаспадыня, бо зьнята са стропу саланіна». Гэта азначала, што саланіна перахоўвалася звыкла на падстрэшшы пад стропам, а на гэты час здымалася, каб была пад рукамі ў гаспадыні. Іншая пагаворка казала: «Прыйшоў Пятрок, — апаў лісток, а прыйдзе Ільля ападуць і два». Беларускае лета не занадта доўгае, і хутка надыходзіў пачатак восені.

### Ільля.

Ільля сьвяткаваўся 20-га ліпеня. Хоць і ня кожнае лета, бо гэта ў першую чаргу залежыла ад пагоды, але гэты дзень афіцыяльна лічыўся пачаткам жніва азімых, — жыта й пшаніцы, а гэтым самым і насіленьне пільніцы, якая пачыналася ад Пятра. На Ільлю лічылася добрай прыметай, калі на другі дзень пасьля сьвята ўжо была магчымасьць пачынаць жніво й касьбу сенажацяў паложаных у прытык з жытнімі й пшанічнымі палеткамі. Апошняе рабілася больш з практычных чым са звычаёвых мэтаў, таму што на іржышча зазвычай выганялі неадкладна жывёлу, а перашкодай была-б зараз-жа за мяжой сенажаць.

Дзень сьв. Ільлі лічыўся таксама й канцом купаньня, бо было павер'е, што ў першую-ж пасьля сьвята навальніцу з пярунамі, прарок Ільля кідае кавалкамі лёду ў нячысьцікаў, якія вылазяць зь пекла, каб шкодзіць добрым людзям. Таму й ня дзіва, што некаторыя з гэтых ледзянак трапляюць у рэкі й вазёры ды пасьля гэтага вада ў іх астывае. Дзеля гэтага старэйшыя перасьцерагалі дзяцей і моладзь, каб ня купаліся ў гэтай ахалоджанай вадзе. Моладзь, аднак, купалася аж да самых сапраўдных халадоў.

З днём сьв. Ільлі была зьвязана таксама й пагаворка, якая на дзіва часамі спраўджалася: «Прыйдзе Ільля, — наробіць гнільля», і праўда часамі задажджыцца й на некалькі дзён.

**С п а с а.**

Спас сьвяткаваўся 6-га жнівеня. На гэтае сьвята ў цэрквах пасьвячалі садавіну. Ад гэтага дня таксама пачыналі сяляне прадаваць на рынках яблыкі, грушы ды інш. садавіну, бо да гэтага дня яны лічыліся недасьпелымі.

**П р а ч ы с т а я  С п а ж а (Раство Божае Маці).**

Гэтае сьвята сьвяткавалася 1-га жнівеня. На сьвята быў звычай пасьвячаць у царкве жыта зь першага сёлетнега ўмалоту, каб пазьней пры сеяньні ўсыпаць яго па шчопатцы ў кожную сеялку (сяўню).

**Д з я д ы  (Памінкі - Асяніны).**

Дзяды прыпадалі на 24-га кастрычніка й фактычна ня былі сьвятам у поўным значаньні гэтага слова, а толькі прысьвячаліся памяці памерлых.

Пасьля жалобнай багаслужбы ў царкве, прысьвечанай памяці продкаў, кожная амаль сям'я рыхтавала адмысловую й шчодрую вячэру ў чэсьць продкаў-дзядоў. Для гэтай вячэры, апрача звыклых, смачна прыгатаваных страваў, пяклі яшчэ два або й больш караваі-пірагі, якія перад вячэраю клаліся на высунуты на сярэдзіну хаты стол, абстаўлены лавамі ды ўслончыкамі. Прыдавалася ўвагу, каб месца за сталом было больш, чым людзей у хаце. Верылі, што на гэтых месцах пасядуць памерлыя сваякі. Калі на стале стаялі ўжо ўсе стравы, бацька й маці сядалі па абодвых канцох стала, якраз супраць караваяў. Побач іх сядалі й іншыя сябры сям'і, прычым сыны ці асобы мужчынскага роду сядалі па боку бацькі, а жаночага, па боку маці. Памаліўшыся за нябожчыкаў, бацька пытаў маці: «Бабка, ці ты бачыш мяне?» Тая-ж павінна была адказаць: «Не, ня бачу», а праз хвіліну дадавала: «Такія вялікія караваі, што нічагусенькі за імі ня відаць». Тады бацька ізноў казаў: «Дай Божа, каб налета былі яшчэ большыя».

З абходам Дзядоў-Асянін зьвязана таксама некалькі пагаворак і жартаў. Нпрыклад, калі ў кагосьці чагосьці не хапае, ці яму нешта не ўдаецца, дык іншыя хочучы яго пацешыць, кажуць: «Ты, братка, не бядуй, бо ў жыцьці ўсяк бывае, і не заўсёды, як на дзяды». Або, малы сын пытае ў бацькі:« Тата, калі тое сьвята, што жыватамі стол адпіхаюць?» Або жарт пра падарожнага жыда, які езьдзячы ад вёскі да вёскі мяняў усякую драбязу на вясковыя прадукты. Перад Дзядамі яго застала ноч далёка ад дому й ён папрасіўся ў селяніна пераначаваць. Той ведама дазволіў. І хоць жыд упіраўся, каб спаць на возе пад паветкай, аднак яго прымусілі ісьці ў хату. Калі ўжо ўсё было гатова да вячэры, запрасілі й яго. Ён станоўча адмаўляўся, падаючы прычыну, што ён ня можа паводле закону Майсея есьці трафных страваў. Тады гаспадыня хуценька адварыла яек «у крутую», паставіла перад ім вялікі кубак малака й палажыла сыр, масла ды непачаты бохан хлеба. Жыд хаця-не хаця быў змушаны есьці так доўга, як усе іншыя. Назаутра выяжджаючы ў далейшае падарожжа ён пытае гаспадара: «Слухай, Антось, якое гэта сьвята было ў вас учора?» «Дзяды» — адказвае той. «Ну, а колькі іх было тых дзядоў?» — цікавіцца жыд. «А вось пачакай палічу: мой бацька — раз, жончын бацька — два . . .» — а далей пачынае лічыць на пальцах: «Якуб, Сымон, Янка, Пракоп Хведар, Максім, Прахор, здаецца, дзевяць» — кажа ён. «Уй, мамалэ! Кажа жыд, коб ясцэ адзін дзед, ток напэўна затохся-б ўвесь сьвет . . .»

Хутка пасьля Дзядоў наступала Піліпаўка — Калядны пост. У міжчасе было

яшчэ некалькі сьвятаў, але зь імі ня было ніякіх асаблівых абрадаў і звычаяў. З надыходам Калядаў, пачынаўся новы цыкль сьвяткаваньняў і абрадаў.

(працяг будзе)

---

Таццяна ЗІНЕНКА

## ДВУХМОЎЕ

Дзе той філосаф, дзе ён, дзе?
Хто распаўсюджвае выслоўе,
Што беларускай грамадзе
Ня мова трэба, а двухмоўе.

Ажно дзьве мовы! Божа мой!
Яны ва мне ніяк ня ладзяць.
Адна — мая. Яна — з крывёй.
Ды ў нас чужая на пасадзе.

На роднай мове сьняцца сны.
Нянашай мове — прывілея.
Як быццам-бы ня мы — сыны.
«О, Беларусь мая — лілея!»

А госьці нашы — на кутах.
У нас такая завядзёнка.
Яны, лічы, ў гаспадарах,
А мы і наша мова — звонку.

Калі няпраўду я кажу,
Няхай мяне зракуцца людзі.
І век наступны за мяжу
Сваю мяне прымаць ня будзе.
І я ня супраць іншых моў,
Як нехта зноў мяне пужае,
Але ў людзей спакон вякоў
Дзьвюх матак зроду ня бывае.

Калі-б нам мову. Ды сваю.
А то ніводнай нашай школы.
А мы-ж маліліся агню.
А мы — народ зусім ня кволы.

О век мой, час мой — златавуст.
І дзень наступны — не ранейшы,
Але, выходзіць, беларус
Яшчэ і сёлета — тутэйшы.

Трываюць людзі да пары,
А беларусы йшчэ і далей.
Ой, дзе-ж вы, хлопцы-бунтары?
Чаго-ж вы крылы паскладалі?..

## СЕЕ-ТОЕ... і яшчэ НЕШТА...

**Сёй-той топчацца на месцы толькі таму, што яно цёплае.**

Наступіў у маладосьці на корак і кульгае ўсё жыцьцё.

**Чым быць першым сярод дурняў, лепш быць апошнім сярод разумных.**

Страціць розум можа той, хто яго мае.

**Правая рука сьвярбіць — да знаёмства, левая — да грошай. Калі-ж сьвярбіць абедзьве — можаш атрымаць па руках.**

Як цяжка хлусіць, калі ведаеш, што цябе ніхто ня слухае.

**Абменьваючыся думкамі, не перашкаджай спаць суседзям.**

Падхалім, як вярба: і гнецца, і плача.

**Часам нішто так ня цягне на дно, як факты, якія выплываюць на паверхню.**

Ці варта ўваходзіць у чужое становішча, калі яно бязвыхаднае.

**Як часта першую скрыпку грае той, хто наагул на ёй ня грае.**

Гаварыў слупства, але толькі ўрачыстым тонам.

**Самы поўны набор ушанаваньняў — у пахаронным прадпрыемстве.**

Для таго, каб прачнулася сумленьне, трэба, каб яно было . . .

**Хочаш пазбавіць спакою ворага — падзяліся зь ім радасьцю.**

Адвыкнуць ад курэньня ня так проста, як выкурыць цыгарэту.

**У хлусьні кароткія ногі, але яна часам фінішуе першай.**

Заблудзіўся, выходзячы зь сябе.

**Гнуў сваю лінію, хоць па простай было значна карацей.**

— Хачу купіць мэталёвы вяшак.
— Калі ласка, гэты каштуе $1.50
— А няма нічога танейшага?
— Натуральна, ёсьць цьвік...

# ПАЛІТЫЧНЫ ГУМАР...

Брэжнеў ідзе ў пекла.

— У якое пекла хочаш пайсьці, — пытае дзяжурны д'ябал, — у сацыялістычнае, ці капіталістычнае?

— У капіталістычнае, натуральна!

— Тады гэтым калідорам направа. . .

Брэжнеў падаўся ў паказаным кірунку, як раптам на сустрач яму, проста на яго бяжыць Хрушчоў.

— Ты куды бяжыш? — пытае Брэжнеў.

— Уцякаю з гэтага пекла. Бягу ў сацыялістычнае!

— Чаму? — дзівіцца Брэжнеў.

— Ведаеш, у капіталістычным усе ідзе, як паложана. . . А ў сацыялістычным, то серкі не давязуць, то смала ў горшым гатунку, то чэрці-дазорцы п'янымі ляжаць, — заўсёды крыху лягчэй.

Калі на Кубе перамагла рэвалюцыя пад кіраўніцтвам Фідэля Кастро, беларускі калгасьнік гэтак выразіў свой неспакой:

— Як быў Сталін, дык нас сталінізавалі, як прыйшоў Гітлер, нас гітлерызавалі. . . А што будуць рабіць з намі, як прыйдзе Кастро?

Тав. Сакалоў з аказыі ўтварэньня БССР прамаўляе да народу:

— Таварышы! Нашы дасягненьні вялізарныя. Былі-б яшчэ большымі, калі-б ня тое, што кожная другая асоба крадзе. . .

У гэты час нахіляецца да яго заступнік і шэпча:

— Скажы, што кожная трэйцяя. Гэта выпадзе на майго заступніка, няхай ён чырванее.

— Што такое яшчарка? — пытае агітатар у беларускага калгасьніка.

— А гэта крадыдзіл па трэйцім этапе гаспадарчае рэформы.

— Ты чуў, што наступны зьезд ЦК КПБ мае адбыцца ў тартаку?

— Не. А чаму ў тартаку?

— Будуць шукаць апошнюю душку ратунку.

Сталін прыходзіць да Леніна.

— Дрэнна са мною, — скаржыцца Ленін, — відаць хутка памру.

— Ну, дык неадкладна перадавайце мне ўладу.

— Баюся, што народ за табою ня пойдзе. . .

— Ня бойся, — пацяшае Сталін, — Тыя, што ня пойдуць за мною, пойдуць за табою.

# Вясёлы куточак



— Ты не памятаеш, за што гэты ордан мне ўручылі?



— Ды гэта хворы пад наркозам стаў анекдоты расказваць ...








— Але-ж доктар, вы сказалі паказацца вам праз тыдзень ...



... і прабач мне, што мусіў крытыкаваць цябе сёньня на сходзе ...



